ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

№ 16 № 16



МЕНСК
Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА“
1934

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ ДВУХТЫДНЁВІК

ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ VIII

№ 16

30-е ЖНІЎНЯ 1934 г.



ЗМЕСТ



КАНСУЛЬТАЦЫІ





Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.
ЦК КП(б)Б, пакой № 105.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20000 даб. 80; адк. сакратара—12; гарадскі—21044.

Н. Ф. Гікало

# Новая хваля калгаснага прыліву

5 верасня Беларусь выканала гадавы план хлебапаставак. Атрымана буйнейшая перамога.

У мінулым годзе, як вядома, БССР толькі 5 студзеня 1934 года закончыла хлебапастаўкі, а ў 1932 годзе хлебазагатоўкі ў некаторых адстаючых раёнах, асабліва сярод аднаасобнікаў, зацягнуліся да вясенняй сяўбы наступнага года. Рабочы клас, калгаснікі і працоўныя аднаасобнікі Беларускай рэспублікі па праву ганарацца тым, што яны за такі кароткі час стварылі рашучы пералом у сельскай гаспадарцы і выканалі свае абавязацельствы перад дзяржавай датэрмінова. Гэта з'яўляецца найбольш яркім пацверджаннем таго, што сельская гаспадарка Беларусі ўцвярдзілася на шляху магутнага ўздыму і росквіту.

Што забяспечыла нам перамогу?

Перш за ўсё штодзеннае кіраўніцтва і агромная дапамога з боку ЦК ВКП(б) і асабіста таварыша **Сталіна**.

Поспех хлебаздачы тлумачыцца настойлівай і штодзеннай работай па арганізацыйна-гаспадарчаму і палітычнаму ўмацаванню калгасаў. Беларуская партарганізацыя падняла мільённыя масы калгаснікаў на ажыццяўленне лозунга таварыша **Сталіна**—зрабіць усе калгасы бальшэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі. Гэты лозунг ужо блізкі зараз к практычнаму ажыццяўленню. У многіх калгасах Оршанскага, Рагачоўскага, Бабруйскага, Менскага раёнаў калгаснікі атрымліваюць да 8 кілограмаў зерневых культур і да 16 кілограмаў бульбы на працадзень. Ва ўсёй сваёй штодзеннай рабоце мы не забывалі аб неабходнасці далейшай барацьбы за кожны процант росту калектывізацыі.

У ходзе выканання хлебапаставак у нас нямала было адстаючых раёнаў, МТС і калгасаў. Усе намаганні мы накіроўвалі на тое, каб выраўняць увесь фронт, падцягнуць адстаючыя раёны. З першых-жа дзён загатовак ЦК КП(б)Б узяў **пад асобы нагляд ўсе адстаючыя раёны**. Нам удалося іх выцягнуць значна ўперад. Больш таго, некаторыя з іх, як Веткаўскі і Бешанковіцкі, зараз займаюць месца на ўсебеларускай «чырвонай дошцы».

Соўгасы Беларусі, не ў прыклад мінулым гадам, не адставалі ад агульнага тэмпа хлебаздачы. Яны 5 верасня выканалі свой план на **104,5** проц.

Характэрнаю рысай у барацьбе за своечасовае выкананне хлебапаставак з'явілася імкненне аднаасобнікаў выканаць чэсна і добрасумленна разам з калгасамі свае абавязкі перад дзяржавай. Партарганізацыі давялося нямала папрацаваць над тым, каб падцягнуць гэты

найбольш цяжкі і распылены ўчастак. У выніку **энергічнай работы** партарганізацый аднаасобнікі к 5 верасня выканалі поўнасцю план зернапаставак.

Надзвычай важным, бадай, адным з рашаючых рычагоў, забяспечыўшых выкананне плана зернапаставак, з'явілася **соцыялістычнае спаборніцтва з Заходняй обласцю.** Мы здолелі ў спаборніцтва ўключыць усе раёны, сельсоветы, калгасы. Кожную пяцідзёнку праз друк мы паказвалі перадавых і адстаючых. Барацьба за пераходныя сцягі ЦК, СНК, ЦВК і палітсектара Наркамзема Беларусі праводзілася сістэматычна і ўпорна. Трэба сказаць, што, калі-б не было шырока разгорнута спаборніцтва ў час уборкі і зернапаставак, мы не мелі-б такіх поспехаў.

Агромны ўздым калгаснікаў, дружная работа на калгасных палях, значнае арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, рост матэр'яльнага добрабыту калгаснікаў,—**усё гэта выклікала новую вялікую хвалю прыліву ў калгасы.** У нас цяпер не мала раёнаў, дзе калектывізацыя ахапіла ў асноўным усю масу **аднаасобнікаў.** За адну дэкаду жніўня ў Чэрвеньскім раёне ўступіла ў калгасы звыш 600 аднаасобнікаў. Тое-ж самае мы наглядаем у Барысаўскім, Бярэзінскім, Хойніцкім і інш. раёнах, дзе за жнівень уступіла некалькі тысяч аднаасобнікаў ў калгасы. **Новая хваля калгаснага прыліву зараз становіцца агульнарэспубліканскаю з'явай.**

Выканаўшы ў цэлым па рэспубліцы дзяржаўны гадавы план, нельга не адзначыць значныя недахопы ў правядзенні гэтай работы. Калі па зернапастаўках (1 верасня) і па звароту насеннай осуды (5 верасня) у нас дзяржаўны план выканан, то гэтага нельга сказаць у адносінах натураплаты МТС, гадавы план якой на 5 верасня выканан толькі на 79 проц. Трэба змагацца за поўнае выкананне плана кожным раёнам, калгасам і аднаасобнікам. А трэба проста сказаць, што паасобныя ноткі самасупакоенасці сям-там ужо чуюцца. Некаторыя кіраўнікі раёнаў хочуць скрыць свае недахопы за сярэднерэспубліканскімі лічбамі. Гэта не пройдзе, гэтага мы не дапусцім.

Зараз перад намі стаіць надзвычай адказная задача: у тэрмін апрацаваць і здаць лён дзяржаве. Добры ўраджай лёну, своечасовы рассціл яго—усё гэта гаворыць аб тым, што гэтыя задачы мы выканаем, калі забяспечым большэвіцкае правядзенне ўсіх наступных працэсаў апрацоўкі лёну.

Прадстаіць закупка хлеба—цяжкая і сур'ёзная справа. Тут прадстаіць ўпорная і энергічная работа. Ніякай самасупакоенасці, ніякага самаздавальнення. Калгаснікі, якія атрымліваюць многа хлеба на працадні, зараз ужо прапануюць прадаць лішкі кааперацыі. **Трэба безадкладна пачаць закупкі,** добра падрыхтаваць кааперацыйную сець к выкананню гэтай важнейшай задачы. Неабходна памятаць, што хлебазакупкі з'яўляюцца праверкай нашага ўмення арганізоўваць масы на барацьбу за выкананне важнейшых дзяржаўных заданняў.

Такой-жа праверкай для нас з'яўляюцца і завяршэнне на працягу гэтай пяцідзёнкі **азімай сяўбы** і значнае павышэнне тэмпаў **зяблівага ворыва.**

Правадзімыя ў Беларусі манеўры часцей БВА, удзел у іх наркома абароны тав. **К. Е. Варашылава** ўскалыхнулі шырокія масы. Калгаснікі і аднаасобнікі вітаюць свайго наркома, сваю Чырвоную армію завяршэннем зернапаставак, азімай сяўбы, здачай ільнавалакна і

бульбы. Усё гэта лішні раз сведчыць аб мацнеючых сувязях Чырвонай арміі з калгаснікамі, аб шчырай любві і ўвазе к Чырвонай арміі з боку працоўных горада і вёскі.

Комуністычная партыя Беларусі ў час вясенняй сяўбы ўзяла на сябе абавязацельства перад ЦК ВКП(б) па-большэвіцку драцца за тое, каб вывесці сельскую гаспадарку на ўзровень перадавых краёў і абласцей. Гэтыя абавязацельствы па некаторых важнейшых элементах работы пацверджаны канкрэтнымі большэвіцкімі справамі. Будзем і далей з такою-ж энергіяй і большэвіцкай палкасцю змагацца за ажыццяўленне рашэнняў XVII партыйнага з'езда і ўказанняў нашага вялікага правадыра таварыша **Сталіна**.

# Часопіс „Большевик“ аб задачах „Большэвіка Беларусі“

## Нявыкарыстаныя магчымасці

**„Большэвік Беларусі“. Палітыка-эканамічны двухтыднёвік ЦК КП(б)Б. №№ 1—10 за 1934 год**

Не прыходзіцца даказваць агромнае значэнне партыйных часопісаў, якія выдаюцца ў рэспубліках, краях і абласцях. Жыццё настолькі багата падзеямі, практыка партыйнай работы настолькі разнастайна, бо ў кожным раёне гаспадарчае і культурнае будаўніцтва мае свае спецыфічныя рысы,—што нельга, вядома, ахапіць усё гэта, не маючы разгалінаванай сеці партыйных часопісаў на месцах.

Такія часопісы павінны дапамагчы мясцовым партыйным арганізацыям, галоўным чынам актыву, разабрацца ў разнастайнасці вопыту, яны павінны адлюстраваць найбольш каштоўнае з гэтага вопыту, абагуліць практыку партыйнай работы, дапамагчы прапагандыстам у марксісцка-ленінскім выхаванні партыйных кадраў. Кожны такі часопіс павінен, па-першае, быць звязан з самымі шырокімі слаямі партыйнага актыва, каб увесь час чэрпаць жывы практычны вопыт, быць у курсе бягучага, паўсядзеннага жыцця і работы партыйных арганізацый. Па-другое, часопіс павінен згрупаваць вакол сябе актыў з найбольш падрыхтаваных у тэарэтычных адносінах таварышоў, павінен быць самым цесным чынам звязан з навуковымі інстытутамі і т. д. Такая сувязь дапаможа своечасова асвятляць на старонках часопіса дасягненні і рэзультаты навукова-даследчай работы, гаспадарчыя дасягненні, а таксама даваць прапагндыстам кваліфікаваны матар'ял для работы ў сістэме партыйнай асветы.

Ні адно буйнае пытанне, што датычыць гаспадарчага або культурнага фронта, не павінна прайсці міма партыйнага часопіса, які выдаецца ў рэспубліцы, краі або вобласці, ці то будзе пытанне выканання гаспадарчых планаў, развіцця якой-небудзь новай галіны, ці пытанне бягучай работы мясцовай прамысловасці, соўгасаў і калгасаў. Усё гэта павінна знайсці адлюстраванне на старонках часопіса. Тое-ж самае адносіцца і да пытанняў партыйнага будаўніцтва. Асабліва важна падмеціць **новае, абагуліць** пройдзены шлях і зрабіць практычныя вывады для далейшага.

Пытанні партыйнай работы павінны асвятляцца не толькі з пункту погляду растлумачэння тых ці іншых рашэнняў партыі, але і з прыцягненнем мясцовага матар'ялу, каб часопіс узбройваў партыйныя арганізацыі станоўчым вопытам перадавых раёнаў.

Барацьба з апартунізмам, з ухіламі ад генеральнай лініі партыі, за ўзмацненне ідэалагічнай работы ва ўсіх звеннях партыі мае выключна важнае значэнне. Часопіс павінен прапагандаваць ленінізм, змагацца за аўладанне марксісцка-ленінскай тэорыяй, паказваць соцыяльную прыроду апартунізма, павышаць пільнасць партыйных арганізацый, вучыць распазнаваць класавых ворагаў і іх агентуру, выхоўваць партыйныя масы ў духу непрымірымасці да ўхілаў ад генеральнай лініі партыі. У той-жа час на фактах з мясцовай практыкі трэба паказваць спецыфіку класавай барацьбы ў даным раёне, своечасова выкрываць ворагаў, вывучаць прыёмы іх маскіроўкі, прыводзіць у сувязь паасобныя праявы апартунізма і паказваць, куды яны вядуць. Толькі пры гэтай умове барацьба з апартунізмам будзе дзейснай, толькі тады часопіс будзе сапраўды дапамагаць партыйным арганізацыям змагацца з канкрэтнымі носьбітамі апартунізма.

Мы знарок спыніліся на гэтых агульных задачах мясцовых партыйных часопісаў, бо далёка не ўсе яны адпавядаюць свайму прызначэнню. У адным выпадку часопісы абмяжоўваюцца толькі прапагандысцкай работай, у другіх—становяцца органамі, якія ахвотна змяшчаюць на сваіх старонках розныя зводкі, дакладныя запіскі і іншую ведамственую прадукцыю. Пакуль толькі нямногія мясцовыя часопісы здолелі стаць тым, чым яны павінны быць.

«Большэвік Беларусі», які выдаецца ў рэспубліцы, маючай значныя кадры партыйнага актыва, рад навукова-даследчых інстытутаў, мае ўсе ўмовы, для таго каб стаць адным з салідных партыйных часопісаў.

Пагранічнае становішча Беларускай рэспублікі, вострасць барацьбы супроць ухілаў ад ленінскай нацыянальнай палітыкі, неабходнасць быстрэйшай ліквідацыі адсталасці ў гаспадарчых і культурных адносінах—усё гэта ўказвае на выключнае значэнне добра пастаўленага партыйнага часопіса.

Калі паставіць асноўнае пытанне: ці адказвае часопіс тым задачам, якія стаяць перад партыйнай арганізацыяй Беларусі, ці выкарыстаў ён у дастатковай меры наяўныя магчымасці, і, нарэшце, ці адлюстроўвае ён размах культурнага і гаспадарчага будаўніцтва Беларускай рэспублікі,—то адказ атрымаецца не ў карысць часопіса. Нельга, вядома, сказаць, што «Большэвік Беларусі» стаіць воддаль ад партыйнага і гаспадарчага жыцця, нельга сказаць, што ў ім не адлюстроўваюцца пытанні, над якімі працуе партыйная арганізацыя Беларусі. Але гэта робіцца ў радзе выпадкаў нездавальняюча.

Даволі прагледзець нумары «Большэвіка Беларусі», каб пераканацца ў тым, што яго рэдакцыя не мае даволі прадуманага тэматычнага плана: падбор артыкулаў у значнай меры выпадковы, і вельмі часта адчуваецца, што некаторыя работнікі замест артыкулаў здалі ў часопіс свае дакладныя запіскі пасля якой-небудзь канферэнцыі або нарады.

Буйнейшым недахопам часопіса з'яўляецца тое, што пытанні **нацыянальнай** палітыкі партыі, барацьбы з мясцовым нацыяналізмам, адлюстраваны ў часопісе недастаткова. Вядома, што на апошнім (XV) з'ездзе КП(б) Беларусі ўвага арганізацыі к гэтаму пытанню была

вельмі завострана, вядома таксама, што перад з'ездам быў рад выступленняў «Праўды» з поваду скажэння ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі ў некаторых раёнах Беларусі. Нарэшце, на XVII з'ездзе ВКП(б) нацыянальнае пытанне было асветлена ў дастатковай ступені. Як-жа адклікаецца на ўсё гэта «Большэвік Беларусі»?

У 1—2, 3—4 нумарах часопіса за 1934 г. няма нічога аб барацьбе за ленінскую нацыянальную палітыку партыі. Больш таго, у перадавым артыкуле «Па-баявому змагацца за выкананне рашэнняў XVII з'езда,» змешчаным у № 3—4, няма ні слова па гэтаму пытанню. Гэта па меншай меры дзіўна! Калі нават у перадавым артыкуле, прысвечаным чарговым важнейшым задачам работы партыйнай арганізацыі, нічога не сказана аб неабходнасці барацьбы супроць скрыўленняў ленінскай нацыянальнай палітыкі, то становіцца незразумелым, як і ў якой форме мысліць рэдакцыя звярнуць увагу партыйнага актыва на гэта пытанне.

У № 5 з'яўляецца артыкул па нацыянальнаму пытанню, але адна назва яго паказвае, што гэта яшчэ не тое, што трэба. Мы маем на ўвазе гістарычны нарыс (так яго назвала рэдакцыя) Агурскага «Паолей-цыянізм як агентура буржуазіі і англійскага імперыялізма». Пытанне само па сабе важнае. Але, на жаль, гэта толькі «гістарычны нарыс», як відаць, урывак з якой-небудзь работы або падручніка. Праўда, «канцоўка» нарыса з'яўляецца спробай «увязаць» гістарычны матэрыял з сёнешнім днём, але робіцца гэта пры дапамозе некалькіх агульных фраз, без усякага ўказання на спецыфіку барацьбы ў сучасных умовах. Падобнага роду гістарычны нарыс вельмі карысны і патрэбны, але, паўтараем, памылкай рэдакцыі з'яўляецца тое, што яна абмежавала асвятленне нацыянальнага пытання ў Беларусі такімі рамкамі.

Нарэшце, у № 7 з'яўляецца артыкул І. Корчыка «Нацыянал-апартунізм у КПЗБ і ідэалагічная спадчына «Беларускай рэволюцыйнай арганізацыі»». Гэты артыкул ускрывае сувязь, якая існуе паміж нацыянал-апартунізмам у компартыі Заходняй Беларусі і нацыяналістычнай ідэалогіяй беларускай, так званай «рэволюцыйнай» арганізацыі. Гэта вельмі сур'ёзны артыкул, які паказвае адну з крыніц, харчуючых беларускі нацыянал-апартунізм.

Вось, уласна кажучы, і ўсё, што было змешчана ў 10 нумарах часопіса па нацыянальнаму пытанню. Як быццам малавата?! Акрамя ўказаных неабходна яшчэ адзначыць вялікі артыкул Ільюшына «Ленін у барацьбе за пролетарскі інтэрнацыяналізм». Работа гэта даволі абшырная. Але трэба сказаць, што сёнешні дзень, спецыфіка барацьбы за ленінскую нацыянальную палітыку партыі адлюстраваліся ў ім даволі слаба, гэта хутчэй таксама гістарычны нарыс.

Мы не схільны абвінавачваць рэдакцыю «Большэвіка Беларусі» у свядомым умаленні важнасці і значымасці нацыянальнага пытання, але, тым не менш, падкрэсліваем, што часопіс у гэтай частцы са сваёй задачай не спраўляецца. Спробы, якія рабіліся, не запоўнілі прабела і не адказалі тым патрабаванням, якія прад'яўляюцца беларускай рэчаіснасцю. Чаго не хапае? У часопісе няма артыкулаў, якія талкова і выразна расказалі-б партыйнаму актыву, якія сілы харчуюць у Беларусі нацыяналізм і вялікадзяржаўны шавінізм, чаму першы стаў у Беларусі на даным этапе галоўнай небяспекай, як паставіць агітацыю і прапаганду, як правільна арганізаваць выхаванне мас у духу про-

летарскага інтэрнацыяналізма. Галоўнае—пабольш мясцовага канкрэтнага матэрыялу. Трэба не толькі паўтараць формулу аб галоўнай небяспецы, а паказваць на прыкладах, як трэба яе разумець, раскрыць яе змест. Патрэбны такія артыкулы, такія матэрыялы, якія-б узбройвалі партыйны актыў у яго рабоце і барацьбе.

Не цяжка бачыць, што ні «гістарычныя нарысы», ні грамоздкія главы з падручнікаў, друкуемыя ў часопісе, не могуць узмясціць указаных недахопаў. Не цяжка зразумець і тое, якое значэнне, якую сілу набывае партыйны часопіс, калі пытанні тэорыі ён цесна ўвязвае з практыкай **данай** арганізацыі.

Вялікае месца ў часопісе займаюць пытанні **сельскай гаспадаркі.** Гэта зусім законна. Укажам толькі, што змяшчаемыя матэрыялы носяць галоўным чынам вузка аперацыйны характар. Наогул рэдакцыі трэба больш строга падыходзіць да адбору матар'ялаў, таму што, мяркуючы па надрукаваных артыкулах, матэрыял падбіраецца даволі выпадкова.

Вялікае недаўменне выклікаюць кансультацыі па сельскай гаспадарцы. У палітыка-эканамічным двухтыднёвіку, органе ЦК КП(б)Б, вельмі пахвальна займацца пытаннямі тэхнікі сельскай гаспадаркі, але гэта, аднак, не значыць, што палітыка-эканамічны часопіс павінен падмяняць спецыяльныя сельска-гаспадарчыя часопісы. З нумара ў нумар часопіс вядзе прымітыўную агро- і зоапрапаганду. Тут і аб піраплазмозе ў коней, аб менінгіце і лячэнні сапа, аб тым, як падрыхтоўваць сланечнік на сілос, як выпойваць цялят і т. д. і т. п.

Хіба няма спецыяльных часопісаў, якія могуць заняцца гэтай справай, і заняцца больш кваліфікавана і салідна?!

Значна лепш было-б, каб часопіс заняўся праблемай севазваротаў, кармовых траў, лугаводства, метызацыі стада, удасканальвання ільняной справы, г. зн. усім тым, што літаральна стукае ў дзверы партыйнага часопіса, і што ў Беларусі прадстаўляе задачу сёньняшняга дня. Імення гэта праходзіць зараз міма рэдакцыі «Большэвіка Беларусі».

Часопіс нядрэнна асвятляе пытанні партыйнага будаўніцтва. З нумара ў нумар «Большэвік Беларусі» друкуе цікавыя матэрыялы аб перабудове партыйных арганізацый у горадзе і вёсцы. Добра тое, што ў якасці аўтароў прыцягнуты інструктары раённых камітэтаў, начальнікі і работнікі палітаддзелаў.

Што датычыць прамысловасці, то адзначым, што часопіс не ўпускае важнейшых пытанняў і, у прыватнасці, вельмі своечасова выступіў з артыкулам аб развіцці тарфяной справы.

* * *

Мы не спыніліся на іншых баках работы часопіса і не разбіралі падрабязна надрукаваныя артыкулы. Нашай задачай было выясніць твар часопіса, прыёмы яго работы, магчымасці і іх рэалізацыю.

Вывады, якія напрашваюцца з азнаямлення з камплектам «Большэвіка Беларусі»:

Часопіс павінен мець **план.** Змяшчаемыя ў ім артыкулы патрабуюць больш паглыбленага аналіза, старанна адабраных фактаў, больш шырокіх абагульненняў.

Нарэшце, трэба ўмець выбраць тое, што зараз найбольш важна для жыцця мясцовай партыйнай арганізацыі, для гаспадарчага будаўніцтва, і асвятляць гэтыя пытанні не «наогул», а прыцягваючы факты

і прыклады з мясцовай практыкі, прапагандуючы перадавы вопыт, лепшыя ўзоры работы.

«Большэвік Беларусі» мае ўсе ўмовы і магчымасці стаць добрым партыйным часопісам.

**А. Давідзюк.**

*АД РЭДАКЦЫІ. Адзначаныя часопісам «Большевик» № 15 за 1934 г. у артыкуле «Нявыкарыстаныя магчымасці» недахопы і зробленыя ўказанні рэдакцыя «Большэвіка Беларусі» лічыць правільнымі і прыймае ўсе неабходныя меры для зьнішчэння недахопаў у далейшай сваёй рабоце.*

---



Дацэнт—А. Сцепанаў
Інжынер—Н. Аксючыц
Інжынер—Н. Севасцьянаў

# Пагоня за лічбамі[1])

**(Да пытання барацьбы за павышэнне прадукцыйнасці працы ў тарфянай прамысловасці другой пяцігодкі).**

У № 9 часопіса «Большэвік Беларусі» змешчан у парадку абгаварэння артыкул работнікаў Інстытута Працы пры ЦСПСБ тт. Маленіна і Рывінай, прысвечаны аналізу магчымасці росту прадукцыйнасці працы на элеватарнай установцы.

У парадку абгаварэння хацелася-б зрабіць некалькі заўваг як па асобных момантах методыкі прыведзеных аўтарамі артыкула разлікаў, так і па сутнасці закранутага артыкулам пытання—наогул.

Актуальнасць значэння для народнай гаспадаркі БССР пытання торфакарыстання даволі ярка і дакладна выражана ў радзе пастаноў урада і ЦК партыі рэспублікі.

З гэтага пункту погляду ўсякая спроба навукова-даследчага парадку, імкнучаяся да практычнага вырашэння задач «асваення новых заводаў і новай тэхнікі, сур'ёзнага павышэння прадукцыйнасці працы, сур'ёзнага скарачэння сабекошту» **(Сталін),** заслугоўвае ўсялякай увагі інжэнерна-тэхнічнай грамадскасці прамысловых прадпрыемстваў, і ў гэтым сэнсе неабходна ўсяляк вітаць з'яўленне, нарэшце, на старонках рэспубліканскага друку даследчай работы з галіны эксплаатацыі тарфяных залежаў на паліва, пры гэтым работы, абгрунтаванай на рэзультатах доўгага нагляду ў натуры паасобных рабочых працэсаў торфаздабывання.

У цэлым радзе пытанняў аўтары аперыруюць іменна «жывым», а не габінетна-статыстычным матэрыялам. У гэтым сапраўдная каштоўнасць іх работы. І агромны яе недахоп у тым, што аўтары не здолелі, а, быць можа, і не захацелі скарыстаць атрыманыя імі **жывыя фатаграфіі жывых людзей** з пункту погляду бесстаронняга даследчыка, а захапіліся пагоняй за патрасаючымі лічбамі **«недастатковага выкарыстання ўсіх тых шматлікіх вытворчых магчымасцей, якімі распалагала і распалагае тарфяная прамысловасць»** (падкрэслена намі—С. А. С.). Гэта і пазбавіла ўсю работу яе каштоўнасці. Гэта, міжволі, прымушаны былі прызнаць і самі аўтары, калі ў рэзультаце сваёй «арыфметыкі» прышлі сапраўды да такіх «патрасаючых» лічб, у якіх усумніліся самі, і паспяшылі іх скараціць, нямнога-нямала, на цэлых дзве трэці (гл. стар. 28, радок 5 знізу). Дапамог аўтарам у даным выпадку выключна той «здаровы і жывы дух», якім яны здолелі ўсё-ж запас-

[1]) Адказ на гэты артыкул даецца ў гэтым-жа нумары ў артыкуле тт. Маленіна, Васільева, Рывінай і Фонгауза—„Супроць апартуністычных установак у пыт. прадукц. працы ў торфапрамысловасці".

цыя, эксперыментуючы, як намі было падкрэслена вышэй, выключна на жывых фактах і асабліва на жывых людзях. Гэтыя жывыя людзі іх своечасова і спынілі, у праціўным выпадку мы атрымалі-б урэшце не навукова-даследчую работу, а дапаможнік паператварэнню к канцу другой пяцігодкі жывога чалавека—рабочага тарфяніка— у аўтаматычнага «чалавека-капацеля».

Пяройдзем да разбору паасобных палажэнняў і вывадаў, распрацаваных аўтарамі.

## Механізацыя і рацыяналізацыя агрэгата

Па сутнасці паданых у гэтым раздзеле меркаванняў, яго належала-б правільней азаглавіць: «Механізацыя і вынаходства на агрэгаце».

Пры гэтай умове мы не будзем пярэчыць супроць канечнай арыфметыкі гэтага раздзела, вызначанай у 24 проц. У праціўным выпадку дазволім сабе не згадзіцца па двух прычынах: арыфметычнай і арганізацыйнай.

Перш за ўсё трэба ўстанавіць, што ўвядзенне стандартнай элеватарнай устаноўкі дае рост прадукцыйнасці працы за лік трох фактараў: а) скарачэння колькаснага складу брыгады з 32-30 чал. да 27 чал., б) павелічэння ў брыгадзе вядучай групы рабочых-ямшчыкаў з 12—14 чал. да 16 чал. і в) палепшання ўмоў працы ямшчыкаў пры каленчатым элеватары і пнетаскацелі. Значэнне першых двух фактараў, як відаць, хістаецца ў залежнасці ад пачатковага складу брыгады і ліку ямшчыкаў у ёй, значэнне апошняга фактара вымяраецца павышэннем інтэнсіўнасці працы аднаго ямшчыка на 5 проц., адсюль просты арыфметычны падлік паказвае, што ўплыў стандартызацыі машын на прадукцыйнасць працы будзе хістацца

$$\text{ад } \frac{120 \times 100}{85} \text{ да } \frac{120 \times 100}{90},$$

і. зн. ад 41 проц. да 33 проц., а не 41 проц. **наогул,** як падлічылі аўтары. Калі аўтары возьмуць планавыя лічбы па Белторфу, то не знойдуць там складу брыгады на нестандартнай устаноўцы вышэй 30 чал. пры лічбовым складзе ямшчыкаў 13,5, а значыць і не знойдуць даных для росту прадукцыйнасці працы на 41 проц. Аднак, не будзем уносіць тут дробязных паправак і згодзімся з лічбамі аўтароў.

Пераходзячы да ўдзельнай вагі машын старой канструкцыі, мы павінны будзем устанавіць, што частка такіх механізмаў застанецца ў вытворчасці і на другую пяцігодку, паколькі на акрайках торфазалежы, з рэзка мяняючайся даўжынёю поля спілкі, ставіць транспарцёры нельга, бо на працягу сезона, то пакарочваючы, то падоўжваючы тросы, мы прывядзем іх у поўную нягоднасць і ўскладнім работу машыны. Такія машыны застануцца на торфазаводах «Свабода»—2 шт. і імя Гея—1 шт. Пры гэтай умове канчатковы ўплыў фактара стандартызацыі выразіцца ў размеры:

$$41 \times \frac{6:56}{100} = 4{,}4 \text{ проц., а не } 6{,}6 \text{ проц.}$$

Цяпер засталося самае галоўнае—вынайсці аўтаматычны сякач і падкладвальнік дошак, якія, да-рэчы кажучы, вынаходзіліся ўжо некалькі год, але пакуль што... так і не вынашліся, ды наўрад ці вынайдуцца, бо сама элеватарная ўстаноўка дажывае апошнія гады і выцясняецца больш тэхнічна-дасканалымі машынамі (вялікі гідра-

торф, малы гідраторф, фрэзер і т. д.), куды зараз, галоўным чынам, і накіравалася канструктарска-вынаходніцкая думка.

Такім чынам, планаваць рост прадукцыйнасці працы за лік нявынайдзенай яшчэ канструкцыі мы лічым, па меншай меры, справай не сур'ёзнай і катэгарычна ад гэтага ўстрымліваемся і спыняемся ў гэтым раздзеле на канчатковым выніку—4,4 проц., замест 24 проц.

Пераходзячы да разгляду раздзела «Павелічэнне каэфіцыента скарыстання машыны», мы сустракаемся тут з асабліва няверны́мі падлікамі аўтароў, абгрунтаванымі або на поўным няведанні рабочага працэса элеватарнай устаноўкі, чаго мы дапусціць ніяк не можам, або на жаданні шчэгальнуць выключна патрасаючымі фактамі «галавацяпскай» работы Белторфа. Прычына такога жадання нам пакуль невядома і незразумела. Аднак, вернемся да аналіза лічб.

Перш за ўсё лічбы вытворчых прастояў за 1931, 1932 і 1933 гг. паказаны няверна. Яны не падраздзелены на незалежныя і залежныя ад торфагаспадарак.

Прастоі машын з-за дажджоў або непадачы тока з электрастанцый аніяк не могуць быць залічаны да фактараў, характарызуючых якасць кіраўніцтва торфапрадпрыемства.

Калі выправіць гэту памылку, то атрымаем каэфіцыент выкарыстання машын, адпаведна па гадах 74,4 проц., 75,1 проц. і 76,4 проц., а не 70,3 проц., 71,6 проц. і 70,6 проц., што даказвае сістэматычнае з года ў год палепшанне каэфіцыента выкарыстання абсталявання па Белторфу.

Цяпер звернемся да разгляду найбольш цікавячых нас прастояў—на перасоўку машын. Яны складалі па гадах 15,1 проц., 16,3 проц. і 15,8 проц. і, нарэшце, планам на 1934 год прадугледжана 17,7 проц. Сапраўды, для чалавека, не спакушанага ў тонкасцях рабочага працэса элеватарнай устаноўкі, можа здацца, што Белторф займаецца планаваннем проста-такі шкодніцкіх паказчыкаў. Для раз'яснення гэтай акалічнасці паставім пытанне: што лепш з пункту погляду паспяховасці выканання плана торфаздабычы,—17,7 проц. прастояў **на перасоўкі за змену,** ці 15,8 проц. пры ўмове, што **час на адну перасоўку ў тым і другім выпадку застаецца нязменным?**

Мы асабіста стаім за першы паказчык і рэзка адмяжоўваемся ад другога. І вось чаму.

Пачнем з матэматыкі. Абазначым прадукцыйнасць тарфяніка (лічачы прастой толькі на перасоўкі) у адну гадзіну чыстай работы—$p$, колькасць тарфянікаў—$n$, колькасць цэглы за адну перасоўку—$k$, час адной перасоўкі—$m$ і колькасць перасовак за змену—$c$, тады прадукцыйнасць $P$ машыны за 8-гадзінную змену будзе:

$P = p\,(8 - cm).\ n.$, адкуль

час на перасоўку $cm = 8 - \frac{P}{n.\,p}$. Гэты час $cm$ будзе павялічвацца па меры змяншэння $\frac{P}{n.\,p}$ або $\frac{м}{p}$, дзе $м = \frac{P}{n}$ —выпрацоўка аднаго члена брыгады за адну гадзіну валавой работы. Выражэнне-ж $\frac{м}{p}$ будзе змяншацца па меры павелічэння $p$, г. зн. прадукцыйнасці на адну гадзіну чыстай работы. Інакш кажучы, **колькасць часу, затрачваемага ў змену на перасоўкі, павялічваецца разам з павелічэннем прадукцыйнасці рабочага, калі нават час на адну перасоўку застаецца нязменным.**

Адсюль і зразумела, чаму торфамайстраў не палохае павелічэнне размеру прастояў на перасоўкі, супроць прадугледжанага планам, калі час на адну перасоўку пры гэтым **не перавышае планавага.** Гэта сведчыць, што брыгады працуюць інтэнсіўней, больш выпрацоўваюць, быстрэй рухаюцца, чым гэта планавалася, бо элеватарная машына—устаноўка **не стацыянарная, а перасоўваючаяся па кар'еры, па меры яго выпрацоўкі і ў прамой залежнасці ад інтэнсіўнасці працы рабочых.**

Калі-б дапусціць, што час на перасоўкі машын складае О проц., гэта значыла-б што мы не выпрацавалі на паліва, за выключэннем адной брачы, ні адной цэглы больш.

Прааналізуем цяпер падрабязней норму на перасоўкі за змену ў 52 мінуты.

Перш за ўсё мы катэгарычна супярэчым супроць прынятай аўтарамі даўжыні перасоўкі 6 метраў, пры глыбіні брачы 2,5 метра, бо гэта значыла-б, што мы далучаемся да практыкі паслойнай экскавацыі, якая цягне за сабою выпуск бракаванай прадукцыі. У гэтым сезоне Белторфам за такую «работку» аштрафован рад начальнікаў агрэгатаў і зняты з работы галоўны інжэнер аднаго з торфазаводаў. Іменна за такую вось перасовачку ў 6—7 метраў, або, як гэта называецца, «на ўвесь элеватар».

Мы прапануем разлічваць даўжыню перасоўкі, для кожнай глыбіні кар'ера, па формуле, якую мы атрымалі для каленчатага элеватара:

$$= K\sqrt{\frac{P^2}{(H_1+H-L\sin\beta)^2}-1}$$

$H_1$—глыбіня брачы,

$H$—вышыня верхняга канца элеватара над зямлёй=2,5 метра

$L$—даўжыня верхняга калена элеватара = 5,6 метра

$P$— „ ніжняга „ „ = 10,9 „

$K$—вышыня закідвання ў элеватар = 1—1,2 метра

і $sh\beta$ —прадзельны вугал нахілу верхняга калена элеватара=21°30'

і $sn$ яго ровен 0,366.

Дарэчы, паведамляем, што формулу гэту мы вывелі з асноўнай формулы праф. Гарачкіна.

$$l=\frac{1}{\operatorname{tg}\alpha}$$

пры вышыні закідвання 1 метр.

Пры гэтай формуле даўжыня перасоўкі для глыбіні брачы 2,5 метра будзе роўна ўсяго толькі 3,55 метра, а не 6 метраў, як даюць аўтары. (Дарэчы, пры даўжыні перасоўкі 6 метраў, вышыня закідвання будзе 1,7 метра).

Акурат так сама мы не згодны і з часам на адну перасоўку, прынятым аўтарамі ў 20 мінут, і вось чаму.

Мы, перш за ўсё, адрозніваем перасоўку машын паравых і электрыфікаваных, паколькі ў другіх перасоўка ўскладняецца абносам транспарцёрных тросаў праз слупы электрасеці, і потым адрозніваем перасоўкі пры першым і другім праходах машын, паколькі, пры другім праходзе, тросы прыходзіцца пераносіць праз штабелі торфу, выпрацаваныя першым праходам.

З улікам гэтых «жывых» фактараў мы прымаем:

Для паравых машын 1-м праходам—17 мін.

" " " 2-м " —28 "

" электр. машын 1 і 2 праходам—28 "

Падлічваючы сярэдне-ўзважанае, па існаваўшых машынах, мы і вызначылі час на адну перасоўку:

$$\frac{21\times23+26\times28}{47}=25{,}8$$ мін., прыняўшы акруглена (з улікам нетранспарцёрных машын, дзе гэты час складае каля 12 мін.)—25 мін.

Перайшоўшы цяпер да разгляду нормы выпрацоўкі на 1 машына-змену, прынятай аўтарамі ў 40.000 цэгел, мы вымушаны канстатаваць, што яны дапусцілі тут пралік, упусціўшы з-пад увагі (на стар. 29, радок 5 знізу), што лічбовы склад брыгады ў іх будзе не 23 чал., а 23×0,94=21,6 чал. або акруглена 22 чал., бо на стар. 24, радок 8 знізу, яны скарацілі склад брыгады яшчэ на 6 проц., за лік пераводу сцільшчыкаў на індывідуальную здзельшчыну.

Такім чынам, дзённая норма на машына-змену будзе 22×1732 цэглы=38.104 цэглы.

Праверым час на перасоўкі: прымаючы ў 1 куб. м. сырца 159 цэглаў і 10 проц. страт у залежы на броўкі і інш., атрымліваем аб'ём залежы на адну змену:

38.104 : 159 : 0,9=266 кб. м.

Пры шырыні кар'ера 7 м. і глыбіні брачы 2,5 м., даўжыня праходу на 1 змену складзе:

266 : 7 : 2,5=15,2 метра.

Пры даўжыні перасоўкі 3,55 метра маем 15,2 : 3,55=4,2 перасовак, а пры 25 мін. на адну перасоўку агульны за змену час на перасоўкі складзе 4,2×25=105 мін. або 105 : 480=21,8 проц., а не 10,4 проц., як падлічана ў аўтараў. Як відаць, лічба 21,8 проц. больш, чым 17,7 проц., запраектаваная Белторфам на 1934 г., і гэта зусім зразумела, калі ўлічыць, што норма на машына-змену для 1934 г. прынята ў сярэднім па трэсту ў 30.290 цэгел.

Выходзячы з усіх пералічаных меркаванняў, каэфіцыент выкарыстання машын і прынят на другую пяцігодку па трэсту ў 80—81 процант.

Прымаючы час на адпачынак і іншыя (падрыхтоўча-заключныя) работы ў 88—90 мінут, маем наступныя неабходныя страты часу за змену:

час на перасоўку—105 мін.
іншыя работы — 8 "
час на адпачынкі — 80 "

Разам—193 мін.

Час асноўнай работы будзе 480—193=287 мінут або каля 60 проц. (а не 70,9 проц.) і павелічэнне прадукцыйнасці за лік гэтага фактара выразіцца ўсяго толькі ў $\frac{60\times100}{53}=113{,}2$ або на 13 проц., а не на 33 проц.

Не ўдаючыся ў падрабязны аналіз раздзелаў «Рэзультатыўныя сістэмы аплаты працы» і «Павышэнне кваліфікацыі рабочых і інш.» мы прыймаем канечны вывад аўтароў па гэтых фактарах у размеры 12,3 проц. безагаворачна і абмяжоўваемся толькі напамінаннем аднаму з аўтароў артыкула—т. Малініну, што, папракаючы Белторф у «супраціўленні ўвядзенню дробнай групавой здзельшчыны ямшчыкаў», ён у другой сваёй рабоце—«індывідуальная і дробнагрупавая здзельшчына на здабычы машына-фармовачнага торфу» (часопіс «Торфяное дело» № 5—1934 г.) прызнае, што мерапрыемства гэта павінна быць уведзена толькі на бяспністых і малапністых балотах і то толькі **пасля канчатковага вырашэння інстытутам паасобных спрэчных пытанняў.** Мы гэтага рашэння і чакаем, не супраціўляючыся.

Пераходзячы да апошняга фактара—«Уплыў аблагароджвання залежаў», мы павінны канстатаваць занадта адарваны ад жыцця падыход аўтароў да аналіза гэтага фактара.

Справа ў тым, што Белторф, па нашай думцы, не збіраецца законсерваваць сваё арганізацыйна-гаспадарчае становішча на тых 6—7 гаспадарках, якімі аперыруюць аўтары, а мяркуе, відаць, уводзіць штогод у эксплаатацыю новыя гаспадаркі, рэканструяваць старыя і т. д. Такім чынам, надта цяжка гаварыць нават аб захаванні нейкай стабільнасці вагі цэглы (сярэдняй па трэсту), а не толькі аб яе павышэнні на працягу бліжэйшай пяцігодкі. Выходзячы з гэтых меркаванняў, мы лічылі-б больш сур'ёзным—гэты фактар **пакуль** не ўлічваць.

Таксама мы не хацелі-б аперыраваць і апошнім фактарам—

«Лепшага выкарыстання сезона»,

бо **планаваць надвор'е** не толькі на пяцігодку, але нават і на год—справа наогул вельмі рызыкоўная. Значна мэтазгодней так арганізаваць гаспадарку сезоннага характару, каб быць гатовымі выкарыстаць тэрмінова ўсе спрыяючыя метэаралагічныя фактары. Так, прыкладна, і было зроблена ў гэтым годзе, калі сезон пачалі 20 красавіка, замест 8 мая, але гэта далёка не значыць, што і ўперад мы будзем «планаваць» пачатак сезона на гэты тэрмін. Акурат так сама рызыкоўна гаварыць і аб падоўжанні сезона. У 1933 г. мы мелі, напр., па запісах мэтстанцыі так зв. «Асінторф» якраз з 15-VIII рэзкае павелічэнне адноснай вільготнасці паветра і рэзкае падзенне сярэднесутачнай тэмпературы, і з гэтага моманту сушка торфу фактычна спынілася. Мы лічым, што тэрмін сканчэння сезона 5—10 жніўня з'яўляецца зусім мэтазгодным.

Такім чынам, у рэзультаце нашага аналіза, мы атрымліваем наступную зводку фактараў росту прадукцыйнасці працы на элеватарнай устаноўцы:

| | | |
|---|---|---|
| 1. Механізацыя . . . . . . | . 4,4 проц. | |
| 2. Лепшае скарыстанне рабочага часу . | . 13,0 „ | |
| 3. Перабудова зарплаты і інш. . . | . 12,3 „ | |
| 4. Павышэнне кваліфікацыі і інш. . | . 10,0 „ | а разам 39,7 проц. |

Акруглена мы прымаем 40 проц. супроць 80 проц. тт. Маліна і Рывінай.

Гэта дае на аднаго рабочага ў дзень, супроць 962 цэгел у 1933 г., 962×1,4=1347 цэгел, а прымаючы склад брыгады ў 25 чал. за лік рэзультатыўнай аплаты працы, мы атрымаем выпрацоўку на ма-

шына-змену 25×1347=33 675 цэгел, а па танажу на аднаго рабочага ў дзень 1,12 тон, як сярэднеўзважанае па гаспадарках Белторфа па становішчу на 1937 год («Асінторф» пераходзіць на вялікі гідраторф, «Чырвоны сцяг» на малы гідраторф, імя Гея на фрэзер і т. д. Уступяць у эксплаатацыю «Радом'е», «Васілевічы» і інш.).

Цяпер нам хацелася-б, з асобай рэзкасцю, падкрэсліць асноўную ўстаноўку гэтага нашага выступлення.

Кіруючая ІТР грамадскасць Белторфа, магчыма, наогул хваравіта рэагуе на ўсякае «планаванне наогул», навучаная, відаць, горкім вопытам такога планавання ў 31 і 32 гг., калі аказаліся запланаванымі такія гаспадаркі і спосабы здабычы, ад якіх трэст і зараз яшчэ сур'ёзна хварэе. Так, напр., увядзенне спосабу малога гідраторфа на нізінным участку, з малой ступенню звязнасці (торфзавод «Шлях сацыялізма»), арганізацыя здабычы торфу на неразлажыўшыхся участках (торфзавод імя Даўмана і інш.) без усякіх сур'ёзных абгрунтаванняў і наадварот—недавыкарыстанне спосабу гідраторфа на іншых адпаведных балотах, як Асінторф, «Чырвоны сцяг».

Таму мы вельмі падрабязна і ўважліва разгледзелі ўсе вывады, прапанаваныя тт. Малініным і Рывінай яшчэ па прадстаўленым імі нам рукапісе, **безагаворачна прынялі** тыя з іх, якія былі пачэрпнуты імі з жывой абстаноўкі заводаў, з усімі яе недахопамі (неарганізаванасць, дрэннае кіраўніцтва, цякучасць і інш. і інш.), **частку з іх правялі ў жыццё** ўжо ў гэтым годзе (перавод сцільшчыкаў на індывідуальную здзельшчыну), **праводзім вопыт** з пераводам ямшчыкаў на дробна-групавую здзельшчыну, але без жалю і катэгарычна адкідаем усе тыя паказчыкі, якія атрымаліся ў работнікаў Інстытута працы ці то ў сілу іх недастатковага глыбокага знаёмства з арганізацыяй торфаздабычы на элеватарнай устаноўцы (пытанне аб перасоўках), ці ў сілу іх **«пагоні за лічбамі»**, дзеля лічб (аўтаматы неіснуючых канструкцый і інш. арыфметыка).

У заключэнне лічым неабходным з задавальненнем адзначыць, што матэрыял, прапанаваны аўтарамі на стар. часопіса «Большэвік Беларусі» па «духу» свайму вельмі адрозніваецца ад дадзенага нам раней рукапіса.

Малінін С. Н.
Васільеў А. М.
Рывіна Б. Д
Фонгауз Л. І.

# Супроць апартуністычных установак у пытаннях прадукцыйнасці працы ў тарфянай прамысловасці

(Адказ на артыкул інж. Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава—„Пагоня за лічбамі".)

БССР распалагае каласальнымі запасамі торфу. Па апошніх матар'-ялах, поўнасцю не ахватваючых усіх тарфянікаў, БССР мае 642 тысячы га тарфяных балот з запасам каля 12 мільярдаў кубаметраў торфу сырца, або каля 1,1 мільярда тон карыснага паветрана-сухога торфу. Пры існуючай здабычы торфу ў паўтара мільёна тон указанага запасу хопіць амаль на тысячу год. Калі выкарыстоўваць торф толькі для энергетычных мэт, то гэты запас торфу дазволіў-бы разгарнуць электрабудаўніцтва да 4 мільёнаў клв. устаноўленай магутнасці.

Торф у БССР з'яўляецца асноўнай паліўнай базай электрабудаўніцтва.

Побач з выкарыстоўваннем торфу як паліва, тарфяныя залежы прадстаўляюць сабой каштоўнейшую базу для хімічнай прамысловасці. Атрыманне з торфу (тарфянай смалы) фенолаў, воску, маторнага паліва і іншых прадуктаў з'яўляецца на сёння вырашанай задачай.

Выкарыстоўванне генератарнага газа з торфу ў шклянай, металургічнай і керамічнай прамысловасці з кожным годам павялічваецца. Даследчая плаўка чыгуна на торфе і асабліва плаўка высокаякаснага чыгуна з кіслародным дуццём адкрываюць велізарнейшыя мажлівасці выкарыстання торфу ў металургіі. Нарэшце тарфяная подсцілка і тарфяныя ўгнаенні маюць каласальнае значэнне для сельскай гаспадаркі.

Не гледзячы на каласальныя запасы (СССР валодае больш як палову тарфяных залежаў усяго зямнога шара), у дарэволюцыйнай Расіі торф адыгрываў вельмі нязначную ролю ў паліўным балансе краіны (1,3 проц.). Яшчэ меншая колькасць торфу здабывалася ў БССР (у 1916 г.—8,2 тыс. тон.).

Пасля Октябрскай рэволюцыі карэнным чынам змяніўся погляд на значэнне торфу ў народнай гаспадарцы. Соцыялістычная індустрыялізацыя краіны і абумоўленае ёю магутнае развіццё прадукцыйных сіл патрабавалі агромных маштабаў развіцця паліўнай прамысловасці, рацыяналізацыі паліўнага баланса краіны і максімальнай замены далёка-прывознага мясцовымі відамі паліва.

У дырэктывах па складанню 2-га пяцігадовага плана народнай гаспадаркі СССР XVII партканферэнцыя ўказала, што:

«важнейшым элементам тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі з'яўляецца стварэнне навейшай энергетычнай базы, аснаванай на найшырэйшай электрыфікацыі прамысловасці і транспарта і паступовым укараненні электраэнергіі ў сельскую гаспадарку, з выкарыстаннем агромных рэсурсаў воднай энергіі, каменавугальных залежаў, асноўных і мясцовых басейнаў, мясцовых відаў паліва (торф, сланцы)».

Тарфяная прамысловасць у параўнаўча кароткі перыяд дасягнула агромнага развіцця. К канцу першай пяцігодкі ўзровень здабычы торфу па СССР быў перавышан у 8 раз супроць 1913 г. Пабудован рад буйнейшых электрастанцый на торфе («Чырвоны Октябр»—111 тыс. клв., Дуброўская—100 тыс. клв., Шатурская—136 тыс. клв., Горкаўская—158 тыс. клв., Іванаўская—72 тыс. клв., Белдрэс—20 тыс. клв.).

Значэнне торфу ў справе электрыфікацыі краіны пацвярджаецца данымі паліўнага баланса электрастанцый агульнага карыстання: выпрацоўка электраэнергіі на дальне-прывозным паліве ў 1913 г. складала 100 проц., у 1932 г.—толькі 36 проц.; удзельная вага тарфянага паліва, якое не ўжывалася ў вытворчасці электраэнергіі ў 1913 г., вырасла к 1932 г. да 20,95 проц.[1]).

У БССР здабыванне торфу развівалася асабліва быстрымі тэмпамі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1921 г. | 26,1 | тысяч тон | |
| 1927 г. | 59,2 | " " | |
| 1934 г. | 1500 | " " | (план) |

Такім чынам, у 1934 г. БССР павінна здабыць столькі торфу, сколькі ў 1913 г. здабывала ўся царская Расія ў цэлым.

Сезон 1934 г. з'явіўся для БССР пераломным. Упершыню за ўсе апошнія гады план здабычы торфу выканан раней тэрміна на 108 проц. (па Белторфу). Гэтай перамогай тарфяная прамысловасць абавязана той агромнай перабудове ўсёй работы па-новаму, якая праведзена і праводзіцца яшчэ, на аснове рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б пад штодзенным, штогадзінным аперацыйным кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з т. Гікало.

Па даных Дзяржплана БССР удзельная вага торфу ў паліўным балансе прадстаўляецца ў наступным выглядзе:

**Дынаміка спальвання торфу па прам.-тэх. групе**

| | 1927-1928 г. | 1928-1929 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. | 1934 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| У тыс. тон натур. паліва . . . . . | 64,4 | 76,8 | 125,0 | 300,0 | 470,0 | 575,0 | 816,0 |
| Рост у проц. . . . | 100 | 120 | 230 | 466 | 730 | 895 | 1270 |
| Удзельн. вага торфу ў паліўным балансе БССР у проц. . . . . . | 6,6 | 9,9 | 14,1 | 23,8 | 26,3 | 25,2 | 40,0 |

[1]) Дзяржплан СССР: „Ітогі выканання першага пяцігадовага плана развіцця народнай гаспадаркі Саюза ССР"—1934 г., стар. 89.

Усё-ж, не гледзячы на агромны рост торфаздабычы, тарфяная прамысловасць адстае яшчэ ад тэмпаў індустрыялізацыі рэспублікі і не здавальняе поўнай патрэбнасці народнай гаспадаркі ў паліве.

У сваім дакладзе на XVII з'ездзе ВКП(б) тав. Куйбышэў падкрэсліў, што

«важнейшай задачай другой пяцігодкі БССР з'яўляецца рэзкае павышэнне долі мясцовых відаў паліва, у прыватнасці торфу».

Улічваючы значную працаёмкасць і тэхнічную адсталасць тарфяной прамысловасці, XVII з'езд ВКП(б) даў дырэктыву аб механізацыі ў 2-ой пяцігодцы звыш 70 проц. торфаздабычы.

Выходзячы з гэтай дырэктывы і ўлічваючы рэальныя дасягненні савецкай торфатэхнікі, другі пяцігадовы план БССР прадугледжвае здабычу торфу (па торфазаводах, аб'яднаных у сучасны момант Белторфам) па асобных спосабах у наступным аб'ёме.

| Спосабы | Здабыча ў тыс. тон. | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1932 г. | 1933 г. | 1934 г. | 1935 г. | 1936 г. | 1937 г. |
| Рэзны . . . . . . . . . | 8,4 | 5,0 | 5,0 | 10,0 | — | — |
| Машына-фармов . . . . | 120,9 | 191,6 | 223,6 | 243,0 | 223,0 | 188,0 |
| Багерны . . . . . . . . | — | — | — | — | 110,0 | 215,0 |
| Малы гідраторф . . . . | — | — | 16,0 | 34,0 | 83,0 | 155,0 |
| Вялікі . . . . | — | — | — | 45,0 | 170,0 | 340,0 |
| Фрэзерны . . . . . . . | 32,0 | 17,1 | 84,0 | 120,0 | 195,0 | 335,0 |
| Разам: . . . | 161,3 | 213,7 | 328,6 | 452,0 | 781,0 | 1233,0 |
| Прырост у проц. к папярэдняму году . . . . | — | 132 | 154 | 137 | 173 | 157 |
| Прырост у проц. к 1932 г. | — | 132 | 204 | 280 | 480 | 765 |

Ужо ў мінулым 1934 г. у Беларусі ўведзены ў вытворчасць багеры (торфазавод «Большэвік»). На торфазаводзе «Чырвоны сцяг» з поспехам асвоен малы гідраторф.

К канцу другой пяцігодкі здабыча торфу павінна ўзрасці ў 7,6 раза параўнаўча з узроўнем 1932 года. Адначасова з колькаснымі тэмпамі росту здабычы зусім змяняецца і тэхніка-вытворчая структура тарфяной прамысловасці. Цэнтральнае месца зоймуць новыя тэхнічна-дасканалыя і высокапрадукцыйныя спосабы. Калі ў 1932 годзе ўдзел механізаваных спосабаў здабычы (фрэзерны) вызначаўся агульнай праграмай у 19,8 проц., то ў 1937 годзе механізацыя здабычы торфу дасягне 87 проц., Значыць, к канцу другой пяцігодкі тарфяная прамысловасць БССР з найбольш атсталай ў тэхнічных адносінах стане ў рады перадавых галін прамысловасці нашай рэспублікі.

Немеханізаваны машынафармовачны спосаб, які мае адносна невялікую ўдзельную вагу ў агульнай праграме здабычы, але застаецца ў абсалютным значэнні на адным узроўні з першымі гадамі 2-ой пяці-

**годкі, у максімальнай меры павінен выкарыстаць усе мерапрыемствы для далейшай рацыяналізацыі і павышэння прадукцыйнасці працы.**

Каб дасягнуць указанага прыросту ў здабычы торфу, рэканструкцыі тарфянай прамысловасці (здабыча і транспарт) і палепшанні матар'яльна-бытавых умоў торфарабочых, у тарфяную прамысловасць за 2 пяцігодку вызначана 70 млн. рублёў капіталаўкладанняў (па Белторфу).

Такім чынам, перад тарфянай прамысловасцю БССР план 2 пяцігодкі ставіць новыя грандыёзныя вытворчыя задачы.

Асваенне вялікіх капіталаўкладанняў, высокія тэмпы торфаздабычы патрабуюць ад работнікаў тарфянай прамысловасці самых удумчывых, большэвіцкіх адносін да работы, якая будзе ацэньвацца не толькі колькасцю, але і якасцю здабываемай прадукцыі.

* * *

За апошнія гады тарфяная прамысловасць Беларусі шмат цярпела ад недавыканання не толькі колькасных, але і якасных паказчыкаў. Па Белторфу сабекошт торфу меў тэндэнцыю к павышэнню, што выклікала штогоднія мільённыя страты і, як вынік, хранічныя фінансавыя затрудненні торфазаводаў:

| Спосабы | Сабекошт тоны ў рублях па даных промфінплана Белторфа на 1934 г. | |
|---|---|---|
| | 1932 г. | 1933 г. |
| Машынафармовачны . . . . | 19,95 | 22,15 |
| Фрэзерны . . . . . . | 21,20 | 27,34 |

Адной з асноўных прычын павышэння сабекошту з'яўлялася сістэматычнае, з года ў год, невыкананне плана і нізкая прадукцыйнасць працы, як відаць з табліцы:

| | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. |
|---|---|---|---|
| Выканан. праграм. у проц. (машынафармов торф) . . . . . | 68,1 | 62,6 | 91,7 |
| Выканан. плана прадукцыйнасці працы (за 8 гадз. рабоч. дзень) . | 65,0 | 77,3 | 85,9 |

Акрамя недавыканання штогодніх планаў здабычы, торфазаводы давалі прадукцыю надзвычай кепскай якасці (высокая вільготнасць), што выклікала вялікія перабоі ў паліва-снабжэнні электрастанцый, а ў радзе выпадкаў прыводзіла да поўнай іх астаноўкі і агромных страт для ўсёй прамысловасці БССР.

У 1933 г. з усёй колькасці машынафармовачнага торфу (247 тыс. тон), выпрацаванай 6 буйнейшымі торфазаводамі, аказалася высушана да сярэдняй вільготнасці 40 проц. (!) толькі 113 тыс. тон. На такім заводзе як Асінторф з дабытых 93 тыс. тон высушанымі да 50 проц. вільготнасці аказаліся 13 тыс. тон., або 14 проц. Гэтыя паказчыкі, хоць-бы і для неспрыяльнага па метэаралагічных умовах 1933 года, з'яўляюцца зусім недапушчальнымі.

Такія вынікі работы торфапрамысловасці тлумачацца ў першую чаргу выключна адсталымі метадамі кіраўніцтва і арганізацыі працы, наяўнасцю элементаў кансерватызма і закаранеласці ў адносінах да ўсякай перабудовы, няўменнем выкарыстоўваць унутраныя рэсурсы, якімі распалагае прамысловасць.

У святле пастаўленых пытанняў агромнае практычнае і прынцыповае значэнне набывае паднятае на старонках «Большэвіка Беларусі» абгаварэнне крыніц росту прадукцыйнасці працы ў торфапрамысловасці БССР за 2 пяцігодку.

Калі ў артыкуле тт. Малініна і Рывінай [1]) прыведзеныя разлікі магчымага прыросту прадукцыйнасці працы на здабычы машынафармовачнага торфу не з'яўляліся яшчэ канчатковымі, то **практыка бягучага сезона ўжо зараз даказвае, што зробленая праектыроўка ў асноўным была правільнай, і калі можа быць гаворка аб яе пераглядзе, то ў кожным разе не ў бок змяншэння, а ў бок далейшага павелічэння.**

Трэба ўсяляк вітаць, што група кіруючых практычных работнікаў Белторфа, у асобе інж. Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава, прыняла непасрэдны ўдзел у гэтай дыскусіі, выступіўшы з артыкулам «Пагоня за лічбамі». Аднак, на вялікі жаль, уся пастаноўка пытання ў гэтым артыкуле з'яўляецца **яўна апартуністычнай.**

Вельмі настойліва інж. Сцепанаў, Аксючыц і Севасцьянаў імкнуцца ва што-б там ні стала даказаць—і ў гэтым уся сутнасць артыкула—немагчымасць сур'ёзнага павышэння прадукцыйнасці працы ў здабычы машынафармовачнага торфу на працягу 2-ой пяцігодкі.

Зусім натуральна, што гэта няўдзячная мэта, якая стаіць у дзівоснай супярэчнасці з рэчаіснасцю і з дырэктывамі партыі, застаецца недасягнутай, рэцівыя-ж «крытыкі», дэманструюць перад чытачом не толькі рад сваіх грубых памылак, але і прыклады прамога скажэння лічб і фактаў.

Замест установкі на высокую прадукцыйнасць, на аснове поўнага асваення праектнай магутнасці абсталявання, правільнай арганізацыі тэхнічнага нармавання, арганізацыі вытворчага ўздыму найшырэйшых мас рабочых тарфянікаў і перадачы вопыту перадавых брыгад адстаючым, далейшай механізацыі, правільнай арганізацыі працы і т. д.—**інж. Сцепанаў, Аксючыц і Севасцьянаў знаходзяцца ў палоне старых праектыровак, кладуць у аснову сваёй работы даныя мінулых год, калі тарфяная прамысловасць БССР ганебна не выконвала план.**

## Праектыроўкі інж. Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава і жывая рэчаіснасць

Інж. Сцепанаў, Аксючыц і Севасцьянаў не хочуць лічыцца з тым фактам, што жывая рэчаіснасць ужо зараз абагнала іх традыцыйна склаўшыяся планавыя паказчыкі, не разлічаныя на баявыя соцыялістычныя тэмпы работы.

Ужо 24 чэрвеня г. г. лепшая брыгада БССР тав **Курэнева** на аснове соцспаборніцтва і ўдарніцтва за 50 дзён да заканчэння сезона выканала сезонны план. К 1 ліпеня такіх брыгад у БССР было ўжо каля 10, к дню ўсебеларускага злёта знатных людзей торфу—20 ліпеня—іх налічвалася да 60.

---

[1]) „Большэвік Беларусі" № 9—1934 г. „Барацьба за павышэнне прадукцыйнасці працы торфапрамысловасці БССР у 2-ой пяцігодцы" (па машынафармовачнаму спосабу здабычы).

13 ліпеня торфазавод «Шлях социялізма» ўжо поўнасцю закончыў па здабычы машынафармовачнага торфу сезонны план. Зараз-жа, следам за ім, датэрмінова закончылі сезонны план торфазаводы: «Чырвоны тарфянік», «Грэбенева», імя Даумана, «Комунар», імя Гея.

Усё гэта прымушае нас больш падрабязна спыніцца на асноўных палажэннях, высунутых у артыкуле «Пагоня за лічбамі».

Даволі параўнаць праектыроўкі нашых «крытыкаў» на канец 2-ой пяцігодкі з канкрэтнымі паказчыкамі работы лепшых ізотаўцаў—ударнікаў торфазаводаў БССР, даўшых у бягучым годзе выкананне сезоннага задання за 35—40—50 дзён да заканчэння сезона, каб апартуністычная сутнасць «установак» інж. Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава стала зусім відавочнай:

Інж. Сцепанавым, Аксючыцам і Севасцьянавым запраектавана на 1937 год:

| | |
|---|---|
| Прадукцыйнасць працы за змену на 1 тарфяніка . . . . | 1347 цэгел |
| Сярэдняя выпрацоўка на брыгада-змену . . . . . . . | 33675 „ |

**Фактычныя даныя па лепшых ударных брыгадах за сезон 1934 г.**

| Завод | Брыгада | Планав. нормы на 8 гадз. змену | | Фактычна па лепшых ударных брыгадах з пачатку сезона па 1 ліпеня | | Прадукцыйнасць працы на аднаго тарфяніка за 8-мі гадзінную змену за чэрвень |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Брыгады за змену | Прадукц. працы за змену на 1 тарфяніка | Выпрац. брыгады 8-мі гадз. змену | Прадукц. за 8 гадз. змену на 1 тарфяніка | |
| Імя Гея . . . | Жура | 31 500 | 1 313 | 37 146 | 1 557 | 1 554 |
| „ „ . . . | Бараніхіна | 31 500 | 1 313 | 33 952 | 1 532 | 1 671 |
| „ „ . . . | Седунова | 31 500 | 1 313 | 33 990 | 1 356 | 1 392 |
| „Чырвоны сцяг“. | Гурэцкага | 30 600 | 1 133 | 32 483 | 1 250 | 1 352 |
| „Большэвік“ . . | Зубава | 33 000 | 1 222 | 43 243 | 1 758 | 1 774 |
| [illegible] . . | Карнеенко | 33 000 | 1 222 | 43 941 | 1 744 | 1 864 |
| „Шляхсоцыялізма“ | Курэнева | 36 000 | 1 333 | 45 360 | 1 702 | 1 769 |
| „ | Шчэрбіна | 36 000 | 1 333 | 39 570 | 1 552 | 1 639 |
| „ | Бірана | 34 000 | 1 259 | 37 410 | 1 409 | 1 639 |
| „ | Бандарэнко | 34 000 | 1 259 | 36 800 | 1 341 | 1 486 |

Заўвагі:

1) Сярэдняя прадукцыйнасць працы і выпрацоўка брыгады за 1 змену прыведзены к 8-мі гадзіннаму рабочаму дню, на аснове справаздачных даных адпаведных заводаў. Напрыклад, калі брыгада т. Бірана, за 1 змену фактычнай працягласці, у сярэднім выпрацоўвала 43 000 цэгел, то пры пераводзе на 8-мі га-

дзінную змену выпрацоўка брыгады склала толькі 37 410 цэгел, адпаведна і ў брыгадзе Бандарэнко выпрацоўка за 1 змену фактычнай працягласці складала 42 500, за 8 гадзінную ж змену 37 000 і т. п.

2) Для ўдакладнення прадстаўленага ў табліцы матар'яла намі былі праведзены спецыяльныя выбарачныя фатаграфіі рабочага дня тых-жа брыгад. Яны пацвярджаюць правільнасць прадстаўленых даных. Так, напрыклад, брыгада т. Курэнева 14/VIII-34 г. за 7 гадз. 20 мін. валавой работы дала 47 740 цэгел, брыгада Зубава 18/VIII-34 г. за 8 гадз. 58 мін. валавой работы (выключаючы адну гадзіну прастоя з-за адсутнасці тока) дала 45 400 цэгел (пры тэтым трэба падкрэсліць, што такія рэзультаты былі дасягнуты брыгадай, не гледзячы на неспыняўшыся на працягу змены дождж) і т. д.

Даныя фатаграфіі рабочага дня і хранаметража пацвярджаюць выключна высокі ўзровень прадукцыйнасці гэтых брыгад. Брыгада т. Курэнева за 1 гадзіну чыстай работы дае ў сярэднім 9 060 цэгел, за 1 гадзіну валавой работы 6 642 цэглы; брыгада т. Шчэрбіна за 1 гадзіну чыстай работы—7 560 цэгел, за гадзіну валавой работы—5 520 цэгел у сярэднім. Абмяжуемся тут гэтымі прыкладамі.

**Табліца гаворыць за тое, што праектыроўкі інжынераў Белторфа на 1937 г. ужо перавыкананы ў 1934 годзе перадавымі людзьмі з нашых тарфянікаў.** Не цяжка дагадацца, на каго арыентуюцца планавыя наметкі інжынераў Белторфа.

На з'ездзе аграрнікаў-марксістаў тав. Сталін падкрэсліў, што навука павінна не толькі паспяваць за практыкай, але і апераджаць яе.

> Тэорыя, калі яна з'яўляецца сапраўды тэорыяй, дае практыкам сілу арыентыроўкі, яснасць перспектывы, упэўненасць у рабоце, веру ў перамогу нашай справы»[*]).

«Навуковыя» практыкаванні інж. Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава гэтага не даюць. Наадварот, яны **апартуністычна цягнуць нас назад,—дэзарыентуюць у барацьбе за прадукцыйнасць працы і кіруючы адміністрацыйна-тэхнічны персанал заводаў і ўсю масу рабочых тарфянікаў.**

Барацьба за павышэнне прадукцыйнасці працы ў 2-ой пяцігодцы, як вядома, з'яўляецца цэнтральнай гаспадарча-палітычнай задачай, пастаўленай перад усёй краінай рашэннямі XVII з'езда ВКП(б).

Прыведзеныя вышэй матар'ялы аб рабоце лепшых ударнікаў брыгад лішні раз пацвярджаюць, што адсталая і пакуль яшчэ з рук вон кепска арганізаваная тарфяная прамысловасць у сапраўднасці і напярэкор апартуністычным сцверджанням інж. Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава, распалагала і распалагае агромнымі, яшчэ не выкарыстанымі вытворчымі магчымасцямі. Дасканалае вывучэнне і максімальнае выкарыстанне ўсіх вызначаючых прадукцыйнасць фактараў на аснове большэвіцкай арганізацыі барацьбы за рашучы ўздым прадукцыйнасці працы, на працягу бліжэйшых год можа і павінна даць выключна вялікія вынікі ў здабычы машынафармовачнага торфу.

Такім чынам, апартуністычным устаноўкам тэхнічнага кіраўніцтва Белторфа на памяншэнне плана і нізкі ўзровень прадукцыйнасці працы, у плане 2-ой пяцігодкі павінна быць проціпастаўлена большэвіцкая барацьба **за безумоўнае асваенне ўсімі рабочымі тарфянікамі таго ўмення працаваць і высокага ўзроўню прадукцыйнасці, рэальнасць якога ўжо сёння даказалі лепшыя ўдарныя брыгады ў сваёй штодзеннай барацьбе за план.**

---

*) *Сталін* „Вопросы ленинизма", выд. 1932 г., стар. 442.

## Перасоўка агрэгата і перспектывы росту прадукцыйнасці працы за кошт ушчыльнення працоўнага дня для рабочых

Калі сістэматызаваць усё сказанае інж. Сцепанавым, Аксючыцам і Севасцьянавым аб перасоўках, папярэдне ачысціўшы гэта ад разлічанага на «запалохванне» неспакушанага чытача, атаждзяўлення перасоўкі на 6 метраў з паслойнай брачай і перасоўкай на ўвесь элеватар (10,9 м., што, як вядома, сістэматычна практыкуецца на цэлым радзе торфазаводаў Белторфа), а таксама ад навязвання нам ніколі невыказаных намі абсурдных палажэнняў (нібы ідэалам з'яўляецца давядзенне часу перасовак за змену да 0), то ўсё пытанне можна падраздзяліць на наступныя моманты:

а) як увязваць час на адну перасоўку з агульным процантам прастояў у выніку перасовак за змену;

б) якая павінна быць к канцу другой пяцігодкі працягласць адной перасоўкі;

в) якая павінна быць даўжыня перасоўкі (пры 2,5 метра глыбіні і 7 метрах шырыні кар'ера), а значыць, якая будзе і агульная іх лічба за змену;

г) які процант рабочага часу на перасоўку належыць намеціць на 1937 год.

Спынімся паслядоўна на пастаўленых пытаннях:

а) Ставячы пытанне—«што лічыць лепшым з пункту погляду паспяховага выканання плана: 17,7 проц. прастояў **на перасоўку за змену, ці** 15,8 проц. пры ўмове, **што час на адну перасоўку ў абодвух выпадках застаецца нязменным»,** нашы апаненты адразу ўпадаюць ў памылку, ужо ў сілу такой метафізічнай пастаноўкі пытання.

Мы лічым, па-першае, што трэба змагацца і **за скарачэнне** працягласці **кожнай** паасобнай перасоўкі, і, таксама, за рашучае **зменшанне агульнага размеру прастояў** на перасоўку за змену; па-другое, зусім няверна і дапушчэнне нязменнай працягласці адной перасоўкі на працягу бліжэйшых год. Стварэнне пастаянных кадраў тарфянікаў-сезоннікаў, аўладанне тэхнікай, далейшае ўдасканаленне арганізацыі самой перасоўкі—бясспрэчна скароцяць працягласць адной перасоўкі на працягу 2-ой пяцігодкі.

Таму зусім не дзіўна, што і на практыцы «тэорыя» інж. Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава аб няўхільнасці прапарцыянальнага нарастання прастояў па перасоўках за змену, па меры росту зменнай выпрацоўкі агрэгата,—не пацвярджаецца:

**Выпрацоўка і расход часу на перасоўку ў сярэднім за змену** (па справаздачных даных Белторфа).

| | Выпрацоўка брыгады за змену. | | Час на перас. за змену | |
|---|---|---|---|---|
| | У цэглах | Рост у проц. | у гадз. на перас. | Зменшанне у проц. |
| 1931 г. | 21.200 | 100 | 1,38 | 100 |
| 1932 г. | 21.600 | 101,8 | 1,33 | 96,4 |
| 1933 г. | 24.670 | 116,3 | 1,33 | 96,4 |

З табліцы следуе, што, не гледзячы на рост сярэдняй выпрацоўкі брыгад за змену з 21200 цэгел у 1931 г. да 24670 у 1933 г., г. зн. на 16,3 проц.—расход часу, які ішоў на перасоўкі, упаў з 1,38 гадзіны да 1,33, г. зн. на 3,6 проц.

б) Пераходзячы да пытання аб сярэдняй працягласці адной перасоўкі, мы яшчэ раз падкрэсліваем, што гэта сярэдняя будзе значна хістацца ва ўмовах балот з рознай глыбінёю залежы, пры першым і другім праходзе машыны і т. д. Аднак, устаноўку на сярэднюю працягласць адной перасоўкі к канцу другой пяцігодкі ў 15, максімум 20 мінут, мы лічым безумоўна вернай. Правільнасць тэтай сярэдняй нормы пацвярджаюць шматлікія даныя спецыяльных даследванняў [1]) і жывы вопыт лепшых ударных брыгад: Курэнева, Жура, Курылкіна і інш. (БССР), Перазева (РСФСР) [2]).

Нашы апаненты прапануюць сярэднюю працягласць перасоўкі прынянць за 25,8 мінуты. Дарэмна мы сталі-б шукаць абгрунтавання прапанаванай «нормы» вопытамі па найбольш рацыянальнай арганізацыі перасоўкі або працяглымі даследчымі назіраннямі. У ёй адлюстравалися толькі кансерватыўнае жаданне інж. Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава ва што-б там ні стала запланаваць прастояў больш, чым гэта пры правільнай арганізацыі працы можа патрэбіцца, і рад арыфметычна няверных маніпуляцый з лічбамі. Дамо прыклад:

Сярэднюю працягласць перасоўкі электрыфікаваных агрэгатаў, ужо пры першым праходзе інж. Сцепанаў, Аксючыц і Севасцьянаў прымаюць за 28 мінут (замест 17 пры лакамабільных агрэгатах), матывуючы гэта неабходнасцю пераносіць тросы транспарцёра праз слупы электрасеці. Аднак, як вядома, гэтыя слупы ставяцца на адлегласці 50 метраў, такім чынам толькі адна з 9—10 перасовак (прымаючы даўжыню яе за 5—6 метраў) фактычна будзе сустракацца з гэтай цяжкасцю. Больш таго, Інж. Сцепакаў, Аксючыц і Севасцьянаў не могуць не ведаць, што слупы электрасеці з поспехам могуць быць перанесены з палёў сцілкі ў кар'еры (гэта ўжо зроблена на торфзаводзе «Большэвік» і дало дасканалыя вынікі), што поўнасцю знімае пытанне аб асобых цяжкасцях перасоўкі машын на электрыфікаваных балотах. Варта напомніць таксама катэгарычную прапанову, высунутую перадавіцай аднаго з апошніх нумароў часопіса «Торфяное дело» аб неабходнасці (і для палегчання перасоўкі транспарт. машын і своечасовай вывазкі торфу) ужо на працягу сезона максімальна аслабаняць палі ад штабеляў убранага торфу [3]).

в) Агульнавядома, што тая ці іншая даўжыня перасоўкі (а значыць і лік перасовак пры данай выпрацоўцы за змену) вызначаецца:

1) неабходнасцю выпрацоўкі высокаякаснага, аднароднага торфу, для чаго неабходна адначасовая экскавацыя торфу на ўсю глыбіню залежы.

2) імкненнем павысіць прадукцыйнасць працы ямшчыкаў за лік абмежавання максімальнай вышыні закідвання масы ў элеватар.

---

[1] Инж. Зайцев—„Результаты испытания комб. элеваторной установки на ТОС в сезоне 1928 г.“, „Торфяное дело“ № 1 за 1929 г.; инструкция УТО по организации передвижек, типовые нормы Главторфа на 1934 г.

[2] Лісты брыг. т. Курэнева—„Звязда“ 30|VI—1934 г.; артыкул т. Курылкіна—„Рабочий“ 19|VII-34 г.; арт. т. Шухмана і др. у час. „Б. Б.“ № 12—34 г.; т. Наўлянскай „6 умоў перамогі на торфе“ горвыд. 33 г. стар. 45.

[3]) „Торфяное дело“ № 3 за 1934 г. Любасов „Работать по-большевистски“.

3) устаноўкай на найбольш поўнае выкарыстанне рабочага часу за лік максімальнага скарачэння колькасці перасовак за змену, для чаго «перасоўку машыны рабіць на **магчыма большую адлегласць** у залежнасці ад даўжыні элеватара і глыбіні брачы» [1]).

Для таго, каб на падставе гэтых трох розных патрабаванняў вызначыць сярэднюю даўжыню перасоўкі (пры прынятай глыбіні залежы 2,5 і шырыні кар'ера 7 метраў), патрэбна, па меншай меры, разуменне сутнасці пытання.

Нашы крытыкі, як відаць, хочуць усімі «праўдамі і няпраўдамі» даказаць «аб'ектыўную» немагчымасць павышэння прадукцыйнасці працы, бяруць стаўку на мінімальную даўжыню перасоўкі, свядома ігнаруючы ўсе мерапрыемствы, якія могуць пры захаванні нармальнай распрацоўкі кар'ера (у адпаведнасці з высунутымі вышэй умовамі) даўжыню перасоўкі максімальна павялічыць, за лік гэтага скараціць лік перасовак за змену і агульны процант патрэбнага на гэта часу, павысіць каэфіцыент карыснай работы агрэгата і прадукцыйнасць працы рабочых.

Прыняты аўтарамі гранічны вугал нахілу ў 21°30' [2]), які мае вялікі ўплыў на даўжыню перасоўкі, безумоўна не з'яўляецца даволі абгрунтаваным ні з практычнага, ні з тэарэтычнага боку.

Гэты гранічны вугал, як вядома, абумоўліваецца тым, каб тарфяная маса не спаўзала назад уніз па элеватары. Паколькі торф бывае вельмі разнастайны, то значыць ужо па адной гэтай прычыне вугал нахілу верхняга калена элеватара не можа быць стандартным для ўсякага торфу, як гэта прапануецца нашымі крытыкамі. Ён будзе найбольшым пры ліпкай і добра асушанай залежы і мінімальным пры адваротных умовах, прычым розніца вугла нахілу ў гэтых выпадках будзе вельмі значнай.

Аднак, сказанае мела-б значэнне, калі-б паасобныя транспартуемыя кавалкі торфу ў элеватары былі-б на нейкай адлегласці адзін ад другога, а паколькі ў практыцы кавалкамі тарфянай масы запаўняецца ўвесь элеватар і ніжэйляжачымі кавалкамі падтрымліваюцца вышэйляжачыя, то момант спаўзання, як гэта паказвае практыка,—у межах да 25°,—траціць усякае практычнае значэнне. Пры нашай праверцы на торфазаводзе «Гея», аказалася, што вугал нахілу верхняй часткі элеватара складаў 25° і ніякага спаўзання не наглядалася. Ды нарэшце, каб унікнуць спаўзання торфу ўніз, можна забяспечыць палатно затрымліваючымі элементамі.

На жаль, аўтары «крытыкі», ухапіўшыся за першую лепшую лічбу, не знайшлі патрэбным азнаёміцца глыбей з разбіраемым пытаннем.

Калі базіравацца выключна на літаратурных даных, то зноў такі ў спісе рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, **прапанаваных Інсторфам для абавязковага ўкаранення ў тарфяную прамысловасць,** указана, што рэкамендуемая граніца вугла—23°, а калі забяспечыць палатно элеватара затрымліваючымі элементамі, вугал можа быць даведзен да 26—27° [3]).

---

[1]) Зборнік вытворчых інструкцый Саюзторфа, стар. 15.

[2]) Як відаць, запазычаны з артыкула інж. Зайцава: „Результаты испытания комбинированной элеваторной установки“ „Торфяное дело“ № 1 за 1929 год.

[3]) „Торфяное дело“ № 5, 1930 год.

Пры ўстаноўленым намі вугле нахілу элеватара (25° на торфазаводзе „Гея“) даўжыня перасоўкі магчыма на 4,8 метра (1,2 × Cotg 14° = =1,2×4,01=4,8 метра; гл. чарцёж 1).



Чарц. 1.

Пры рэкамендуемым Інсторфам вугле нахілу ў 27° (пры забяспечанні палатна затрымліваючымі элементамі) даўжыня перасоўкі будзе роўна 5,2 метра (1,2× Cotg 13°=1,2×4,331=5,2 метра).

Нарэшце, акрамя павелічэння вугла нахілу верхняй часткі элеватара і правільнага арыфметычнага разліку, ёсць і іншыя мерапрыемствы, якія дазваляюць пры правільнай распрацоўцы кар'ера павялічыць даўжыню перасоўкі. Перш за ўсё, гэта выемка траншэі пад элеватарам, рэкамендуемая вытворчымі інструкцыямі Галоўторфа[1]).

Выемка траншэі пад элеватарам на 0,5 метра дазваляе павялічыць даўжыню перасоўкі машыны пры глыбіні залежы больш двух метраў, гэта значыць пры вугле нахілу ніжняй часткі элеватара на 10—20°, на 2,76—1,46 метра (гл. чарцёж 2).



Чарц. 2.

Пры шырыні кар'ера 8 м., ямшчыку прыходзіцца кідаць торфмасу на адлегласці да 4 метраў. Выходзячы з гэтага, ніжні канец элеватара не абавязкова павінен саўпадаць з пачаткам ніжняй пляцоўкі бровы, а можа быць прасунут па крайняй меры да 1 метра ўперад, не пагоршваючы гэтым умоў экскавацыі, што і практыкуецца кваліфікаванымі брыгадамі. Нарэшце і максімальная вышыня закідвання торфу ў элеватар на 1,2 метра (прынятая тыповымі нормамі Галоўторфа) далёка яшчэ не з'яўляецца бясспрэчнай і агульнапрызнанай. Так, на-

[1]) Зборнік вытворчых інструкцый Саюзторфа, стар. 15.

прыклад. інж. Д. В. Кулінскі на падставе даных тэхнармавання рабочага працэса ямшчыкаў рэкамендуе браць максімальную вышыню закідвання масы ў элеватар роўнай 1,5 метра[1]. (Дарэчы варта падкрэсліць, што гэта максімальная вышыня закідвання наогул мае месца толькі к самаму канцу выемкі брачы, такім чынам пры ёй рабочым прыходзіцца працаваць не больш як 15—20 проц. ад свайго рабочага часу).

Такім чынам, пасля вымушанага з нашага боку ізлажэння тэхмінімума, можна пераканацца, што не перавышаючы прынятай максімальнай вышыні закідвання торфу ў элеватар 1,2 метра, даўжыню перасоўкі пры каленчатым элеватары, як гранічную, можна даводзіць (пры глыбіні залежы 2,5 метра і вугла нахілу верхняга калена элеватара—25°) да 8 метраў.

Сярэдняя-ж даўжыня перасоўкі 6 метраў (для глыбіні залежы 2.5 м), прынятая ў артыкуле «Барацьба за павышэнне прадукцыйнасці працы ў тарфянай прамысловасці ў другой пяцігодцы», з'яўляецца безумоўна правільнай, роўным чынам, правільны і разлік неабходнасці 2.6 перасовак у сярэднім за змену (пры выпрацоўцы 40000 цэгел) і агульны расход часу, патрэбнага для перасоўкі, у 10,8 проц. (пры працяглсці адной перасоўкі ў 20 мінут).

Пасля ўсяго сказанага, становіцца відавочнай памылковасць разлікаў інж. Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава, зробленых імі на падставе яўнага пераменшання даўжыні адной перасоўкі, а адсюль і значнага перапавелічэння агульнага ліку перасовак за змену (разлік агульнага ліку перасовак за змену і патрэбнага для іх часу, звязаны з тэтым разлік магчымага прыросту прадукцыйнасці працы рабочых за лік далейшага палепшання структуры іх працоўнага дня і т. д.).

г) Найбольшую-ж цікавасць прадстаўляе супастаўленне запраектаваных інж. Сцепанавым, Аксючыцам і Севасцьянавым паказчыкаў выпрацоўкі за машыназмену і процанта часу на перасоўку, к канцу другой пяцігодкі, з планам 1933 года:

| | Выпрацоўка за змену | % часу на перасоўку ад раб. часу за змену |
|---|---|---|
| План Белторфа 1933 г. . . . . . . . . | 30290 | 17,7 |
| Запраектавана інж. Сцепанавым, Аксючыцам і Севасцьянавым на 1937 год . . . . | 33675 | 21,8 |
| Рост у %% к 1933 году . . . . . . . | +11% | +23% |

З табліцы відаць, што не толькі наперакор «матэматыцы» саміх аўтараў, але і наперакор здароваму сэнсу, **прапанаваны імі тэмп росту часу, затрачваемага за змену на перасоўкі, у два з лішнім разы абганяе тэмп росту выпрацоўкі брыгады за змену.**

Мы не бярэмся судзіць, ці зроблен гэты «разлік» наўмысна, ці ён з'яўляецца вынікам грубейшай арыфметычнай памылкі. (Прымаючы

[1]) Инж. Кулинский „Опыт работы на элеваторных машинах по проекту рабочего процесса".—„Торфяное дело" № 4, 1934 год. (Дарэчы трэба падкрэсліць, што інж. С. А. С. пры разліку даўжыні перасоўкі максімальную даўжыню закідвання прымаюць за 1 метр).

пры канчатковым падліку рост прадукцыйнасці працы за лік ўшчыльнення працоўнага дня—13 проц., а агульны рост прадукцыйнасці—40 проц., інж. Сцепанаў, Аксючыц і Севасцьянаў тым самым прымаюць працягласць перасоўкі за змену ў 1937 годзе роўнай 21,8 проц. працоўнага дня. Аднак, гэта зусім няправільна, бо 21,8 проц. на перасоўкі атрыман аўтарамі з разліку за змену 38104 цэглы, а плануюць яны самі на 1937 год толькі 33675 цэгел).

Прадаставім аўтарам самім разабрацца ў сумным выніку іх «бесстаронняга навуковага даследвання».

Але, паўстае пытанне, ці трэба пасля ўсяго сказанага даказваць, куды вядзе ўся сістэма «памылак» інжэнераў Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава? **Яна вядзе к аднаму і таму-ж: апартуністычнаму пераменшанню магчымага прыросту прадукцыйнасці працы на здабычы машынафармовачнага торфу.**

## Каэфіцыэнт карыснай работы агрэгатаў

Калі-б мы гаварылі толькі аб вытворчых прастоях агрэгатаў (без уліку дажджавых), як гэта хочацца інж. Сцепанаву, Аксючыцу і Севасцьянаву, мы канстатавалі-б, што машыны па вытворчых прычынах прастаялі ў 1931 годзе 25,6 проц. рабочага часу, у 1932 г.— 24,9 проц. і ў 1933 г.— 23,6 проц. Аднак, не задаючыся мэтай чым-небудзь вуаляваць выключна малы процант чыстай работы элеватарных машын і не будучы абавязанымі даваць «характарыстыку якасці кіраўніцтва» Белторфа, мы свядома, у артыкуле, змешчаным у № 9 «Большэвіка Беларусі», фіксавалі ўвагу чытачоў на агромнай колькасці страт, выклікаемых усімі прастоямі элеватарных машын у рабочыя змены і, значыць, надзвычай нізкім процанце іх карыснай работы. Гэты падыход з'яўляецца зусім законным. А машыны ў сапраўднасці ў 1931 годзе адпрацавалі толькі 70,3 проц. ад свайго валавога рабочага часу (за змену), у 1932 годзе—71,6 проц., у 1933 г. 70,6 проц.

Наогул-жа, нідзе не ўстаноўлена і з'яўляецца спрэчным, ці патрэбна пад каэфіцыентам карыснай работы элеватарнай машыны разумець іменна процант іх работы ў адносінах да валавога часу, ачышчанага ад дажджавых прастояў.

Значна горш, што тэхнічнае кіраўніцтва Белторфа лічыць сваёй заслугай давядзенне каэфіцыента карыснай работы (без уліку дажджавых) у 1933 годзе да 76,3 проц., у той час як іменна ў гэтым годзе загадам тав. Орджанікідзе[1]) было прапанавана павялічыць каэфіцыент карыснай работы па машынафармовачнаму торфу не ніжэй 79 проц.

Прымаючы каэфіцыент выкарыстання машын на другую пяцігодку (на якія гады?) па трэсту ў 80—81 проц., інж. Сцепанаў, Аксючыц і Севасцьянаў не жадаюць лічыцца з тым фактам, што ўжо ў гэтым годзе, па справаздачных даных аднаго з перадавых у БССР торфазаводаў імя Гея, каэфіцыент карыснай работы агрэгатаў фактычна складаў у сярэднім 81—82 проц.

---

[1]) „Торфяное дело" № 7, 1933 г., стар. 39.

**Каэфіцыент карыснай работы агрэгатаў (без уліку даждждавых і мантовак) па торфазаводу імя Гея ў сезон 1934 г.**

| Брыгады | Фактычна ў сярэднім | |
|---|---|---|
| | за май | за чэрвень |
| Жур . . . . . . . . | 83,0 | 84,6 |
| Зайчанка . . . . . | 83,5 | 81,0 |
| Міхальчанка . . . . | 83,7 | 82,4 |
| Бараніхін . . . . . | 80,3 | 86,6 |
| Лапцёнак . . . . . | 85,5 | 76,8 |
| Матулеўскі . . . . . | 80,0 | 80,5 |
| Агапаў . . . . . . | 80,1 | 80,2 |
| Седуноў . . . . . | 83,5 | 81,8 |
| У сярэдн. па гэтых брыгадах . . . . . | 82,3 | 81,7 |

**Хіба не ясна, што з боку нашых апанентаў і тут праяўляецца ўсё тая-ж заахвочанасць да залішне «асцярожных» праектыровак.**

## Аблагароджванне залежы

Агромны ўплыў паніжэння вільготнасці ў залежы на эканамічны эфект вядзення тарфяной гаспадаркі, за лік большага выхаду паветрана-сухога торфу з адзінкі сырца,—азбучная ісціна, аб якой не прыходзіцца многа гаварыць. Трэба памятаць толькі, што назіраннямі Інсторфа яшчэ ў 1923—24 годзе было ўстаноўлена, што пры нармальнай асушцы вільготнасць залежаў у рабочым сячэнні кар'ера складае ў сярэднім: у махавых балот 88 проц. і ў нізінных 84 проц. Гэта вільготнасць і лічыцца аптымальнай, як з пункту погляду тэхнічных магчымасцей асушэння, так і з боку захавання нармальных умоў для перапрацоўкі масы ў прэсе. У апошняй літаратуры ёсць указанні нават на мэтазгоднасць і магчымасць яшчэ большага, чым указана вышэй, асушэння торфмасіваў [1]).

Аднак нашы «крытыкі» лічаць за лепшае наогул не ўвязваць перспектывы росту прадукцыйнасці працы ў другой пяцігодцы з гэтым асноўным торфмейстэрскім фактарам, лічачы «больш сур'ёзна» гэты фактар «пакуль» не ўлічваць.

Больш таго, жадаючы глыбей азнаёміцца з адносінамі інж. Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава да гэтага пытання, мы ўбачым, што яны не толькі ўмеюць пярэчыць супроць зменшання вільготнасці ў рабочым сячэнні кар'ераў, але нават нейк умудрыліся даказаць Галоўторфу, што пры эксплаатацыі ў 1934 годзе, у большасці сваёй, тых самых кар'ераў, што і ў 1933 г., вільготнасць залежаў будзе павышана ў сярэднім па Белторфу на 1,1 проц., а па некаторых заводах, як напрыклад «Чырвоны сцяг»,—на 2 проц. У гэтым лёгка можна пераканацца, глянуўшы ў даныя справаздачы Белторфа за 1933 год і матэр'-

[1]) Працы Інсторфа, выпуск II, 1932 год, стар. 79; Курдзюмаў „Вопросы подготовки болот", „Торфяное дело" № 2 за 1934 г.; Шляго „Подготовка торфозалежей", выд. 1934 г.

ялы апошняга, зацверджанага Галоўторфам, варыянта вытворча-тэхнічных паказчыкаў машынафармовачнага торфу на 1934 год:

| Назва торфазаводаў | Справаздача за 1933 год | | План на 1934 год. | |
|---|---|---|---|---|
| | Вільготнасць торфу | Вага цэглы пры 30 проц. вільг кг. | Вільготнасць торфу | Вага цэглы пры 30 проц. вільгот. кгр. |
| „Асінторф" . . . . . . | 87,53 | 1,110 | 88,60 | 1,046 |
| „Большэвік" . . . . . | 88,70 | 0,944 | 88,75 | 1,039 |
| „Чырвоны сцяг" . . . . | 86,00 | 1,153 | 88,00 | 1,180 |
| Імя Гея . . . . . . . | 86,00 | 1,320 | 86,75 | 1,215 |
| „Чырвоная Беларусь" . . | 86,9 | 1,120 | 88,00 | 1,100 |
| Імя Даумана . . . . . | 92,10 | 0,780 | 91,00 | 0,840 |
| „Свабода" . . . . . . | — | 0,961 | — | 0,940 |
| „Лукскае" . . . . . . | — | — | 89,50 | 0,975 |
| „Дукора" . . . . . . | — | — | 90,50 | 0,950 |
| Сярэдне-ўзважаная | 87,5 | 1,078 | 88,6 | 1,059 |

Пакінем у баку гэтыя больш чым «дзіўныя» паказчыкі Белторфа, вернемся да пытання аб перспектывах асушэння залежаў на працягу другой пяцігодкі і магчымасцях росту прадукцыйнасці працы за кошт гэтага фактара.

К канцу другой пяцігодкі здабыча машынафармовачнага торфу па сістэме Белторфа з уключэннем торфазавода «Большэвік» і «Чырвоная Беларусь», як уваходзіўшых у наш разлік раней, прадстаўляецца ў наступным выглядзе (па апошняму варыянту пяцігодкі Белторфа):

| Торфзаводы | Здабыча м.-ф. торфу у 1933 г. у тыс. тон. | План здабычы м.-ф. торфу на 1937 г. у тыс. тон. |
|---|---|---|
| „Асінторф" . . . . | 93,1 | — |
| „Большэвік" . . . | 58,8 | 80 |
| „Чырвоны сцяг" . . | 35,5 | 105 |
| Імя Гея . . . . . | 25,6 | — |
| „Чырвоная Беларусь". | 21,2 | 48 |
| Імя Даумана . . . | 12,2 | 8 |
| „Свабода" . . . . | 18,0 | 25 |
| „Лукскае" . . . . | — | — |
| „Дукора" . . . . | — | — |
| „Радом'е" . . . . | — | 50 |
| Разам . | 264,2 | 316 |

Заўвага: Даныя па торфазаводу „Большэвік" і „Чырвоная Беларусь" узяты ў НКЦП.

Значыць, наперакор указанням інж. Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава, фактычна здабыча машынафармовачнага торфу к канцу пяцігодкі ў параўнанні з 1933 годам, павялічыцца, прычым кар'еры, за выключэннем увядзення адной новай гаспадаркі «Радом'е» і расшырэння на 50000 тон здабычы на торфзаводзе «Чырвоны сцяг», у асноўным застаюцца старыя.

Больш таго, на заводах Асінторфа, імя Гея, «Лукскае» і «Дукора», усе гады другой пяцігодкі, акрамя 1937 г., машынафармовачны торф будзе яшчэ займаць вельмі буйнае месца (па Асінторфу ў 1934 г. машынафармовачнага торфу будзе здабыта 116 тыс. тон, у 1935 г.—107 тыс. тон, у 1936 г.—50 тыс. тон; па торфазаводу імя Гея ў 1934 г.—30 тыс. тон, у 1935 г.—25 тыс. тон, у 1936 г.—20 тыс. тон і т. д.).

Усё вышэйпаданае дае нам права прыняць па ўказаных заводах наступнае **зніжэнне вільготнасці залежаў у 1937 годзе.**

| Торфазаводы | 1933 г. (справаздача) | | 1937 г. (план) | |
|---|---|---|---|---|
| | Вільготн у рабоч. сяч. кар'ера ў %% | Вага цэглы | Вільготн. у рабоч. сяч. кар'ера ў %% | Вага цэглы |
| „Асінторф" . . . . . . | 87,53 | 1,110 | — | — |
| „Большэвік" . . . . . . | 88,70 | 0,244 | 85 | 1,34 |
| „Чырвоны сцяг" . . . . | 86,00 | 1,153 | 85 | 1,34 |
| Імя Гея . . . . . . . | 86,00 | 1,320 | — | — |
| „Чырвоная Беларусь" . . . | 86,90 | 1,120 | 85 | 1,34 |
| Імя Даумана . . . . . | 92,10 | 0,78 | 88 | 1,07 |
| „Свабода" . . . . . . | — | 0,961 | 88 | 1,07 |
| „Лукскае" . . . . . . | — | — | — | — |
| „Дукора" . . . . . . . | — | — | — | — |
| „Радом'е . . . . . . | — | — | 89 | 0,98 |
| Сярэдн. узваж. . . | 87,5 | 1,078 | 85,7 | 1,23 |

ЗАЎВАГА. Праектуемая намі вільготнасць з'яўляецца не толькі рэальнай, дасяжнай, але нават некалькі пераменшанай. Гэта робіцца свядома для кампенсацыі рознай аб'ёмнай вагі сырца, якая пры разліках прынята за адзінку.

З табліцы відаць, што вага паветрана-сухой цагліны ў 1937 г., у параўнанні з 1933 годам, узрасце на 14,3 проц. $\left(\frac{1,23-1,078}{1,078} \times 100\right)$ даючы, тым самым адпаведны рост прадукцыйнасці працы тарфянікаў (у вагавых адносінах).

Цяпер паўстае пытанне: чым-жа нашы «крытыкі» тлумачаць намечаныя планам капіталаўкладанні ў бягучым годзе на рэгуляванне асноўных водаадводзячых канаў і водапрыёмнікаў, калі яны адмаўляюць магчымасць паніжэння вільготнасці ў залежы? А гэтыя-ж

укладанні (за вылікам работ па асноўнаму водапрыёмніку на торфазаводзе «Большэвік», якія мелася на ўвазе выканаць багерамі), выражаюцца ў суме 177.189 руб.,—навошта-ж гэту суму затрачваць, калі яна не дае ніякага эканамічнага эфекта? Напаследак, навошта-ж намячаецца пяцігадовым планам Белторфа размеркаванне капіталаўкладанняў на балотна-падрыхтоўчыя работы ў такіх суадносінах: за тры гады да эксплаатацыі—20 проц. ад усіх затрат па падрыхтоўцы, за два гады—20 проц., за адзін год—50 проц., у год увядзення плошчаў—10 проц.?

Выключна для таго, каб не толькі захаваць стабільнасць вагі цагліны (што аўтары «крытыкі» лічаць надта цяжкім), але каб новаўвадзімыя ў эксплаатацыю плошчы мелі нармальны водны рэжым, аб якім мы гаварылі вышэй, і значыць павышаную вагу цагліны.

Хочацца дадаць, што пры дасягненні нармальнай вільготнасці залежаў прадукцыйнасць тарфяніка будзе расці не толькі за кошт павелічэння выхаду паветрана-сухога торфу, але і за кошт стварэння больш спрыяючых умоў працы для рабочых: зменшацца, або зусім спыняцца абвалы, вада не будзе заліваць кар'ер і т. д. Праўда, дадатны ўплыў гэтых апошніх момантаў на рост прадукцыйнасці цяжка выразіць у лічбах, тым не менш супроць іх бясспрэчна вялікага значэння наўрад ці хто стане пярэчыць.

**Такім чынам інж. Сцепанаў, Аксючыц і Севасцьянаў прытрымліваюцца таго пагляду, што зніжэнне вільготнасці залежаў планаваць нельга і што звязваць праектыроўкі павелічэння выхаду паветрана-сухога торфу і росту прадукцыйнасці працы ў другой пяцігодцы з гэтым асноўным торфмейстэрскім фактарам—справа не сур'ёзная.**

Уся гэта «палітыка» свядомага адмаўлення ад вырашэння цэнтральнай задачы падрыхтоўкі балот к эксплаатацыі—зніжэння вільготнасці залежаў, як відаць з'яўляецца таксама прычынай штогодняга правалу намячаемых Белторфам планаў балотна-падрыхтоўчых работ і іх недапушчальнага спазнення. У выніку-ж на большасці торфазаводаў Белторфа зусім не ўрэгуляваны водны рэжым, ненармальна павышана вільготнасць торфу. Прамым вынікам гэтага з'яўляюцца: агромныя страты на зніжэнні выхаду паветрана-сухога торфу, рэзкае пагоршанне ўмоў працы ў кар'ерах, што вядзе да няправільнай іх распрацоўкі (недабор брачы, які выклікае агромныя страты торфу ў кар'ерах, перасоўка агрэгата на ўвесь элеватар пры затапленні кар'ера і т. д.), зніжэнне якасці здабываемага торфу.

Гэту недапушчальную ўстаноўку інж. Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава трэба катэгарычна адкінуць.

**Задача нармальнага і своечасовага асушэння залежаў на працягу другой пяцігодкі павінна быць поўнасцю вырашана. Гэта значна павялічыць колькасць торфу, які атрымлівае краіна ад нашых торфараспрацовак (пры тым-жа абсталяванні) і рэзка палепшыць яго якасць.**

## Механізацыя і рацыяналізацыя агрэгата

Тут, як і ў папярэдніх сваіх пярэчаннях, інж. Сцепанаў, Аксючыц і Севасцьянаў, не толькі зноў упадаюць у супярэчнасць з рэчаіснасцю, але і ў дадатак да гэтага з усёй акрэсленасцю **скатваюцца на яўна антымеханізатарскія пазіцыі.**

Калі для інж. Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава ў сэнсе перспектыў росту прадукцыйнасці працы не аўтарытэтны распрацаваныя Інсторфам «Асноўныя палажэнні па рэканструкцыі тарфянай прамысловасці ў 2-ой пяцігодцы» [1]), то ва ўсякім выпадку не магло быць не вядома, што за мінулыя гады прапанован ( і маюць патэнты) цэлы рад канструкцый аўтаматычнага секача (канструкцыі сістэмы Карэліна М. Н., Полазава А. Т., Наседкіна М. А., Рогава І. А., Залатарова Н. А., Гладышава І., Свяшчэва А. Н., Меднікава, Румянцава, Крамскага, Тарачкова, Рэута) і механізацыі падачы падкладных дошак (канструкцыі сістэмы Дончэнко, Бірукова, Тарачкова, Рэута), не можа быць невядома таксама, што Ўсесаюзная нарада па механізацыі торфапрамысловасці яшчэ ў 1932 г. лічыла неабходным іспыт і ўкараненне ў вытворчасць большасці ўказаных сістэм.

Аднак, нашы апаненты не толькі адмаўляюць існаванне ўказаных вышэй канструкцый, імкнучыся прадставіць іх фантазіяй аўтароў крытыкуемай імі работы, але ў разрэз з устаноўкамі Інсторфа і Ўсесаюзнай нарады па механізацыі торфапрамысловасці катэгарычна сцвярджаюць, што аўтаматычны сякач і падкладныя дошкі наогул не могуць быць сканструяваны і сама канструктарская работа ў гэтым напрамку немэтазгодна.

Праводзячы гэту думку пад выглядам барацьбы за асваенне новых спосабаў і немагчымасці адцягваць канструктарска-вынаходніцкую думку к дажываючай апошнія гады элеватарнай устаноўцы, нашы апаненты «забываюць», што праблема механізацыі рольнага стала ў поўнай меры захоўвае сваю актуальнасць і ў адносінах новага, тэхнічна дасканалага багернага спосаба, які к канцу 2-ой пяцігодкі, разам з элеватарным будзе займаць сярод іншых спосабаў першае месца, складаючы 32,7 проц. ад агульнай праграмы здабычы па торфазаводах Белторфа (у той час, як вялікі гідраторф складзе 27,6 проц., малы гідраторф 12,6 проц., фрэзер 27 проц.). Зусім зразумела, што пры такіх настроях мясцовых работнікаў у адносінах механізацыі, якія мы сустракаем у інж. Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава, нельга чакаць ні станоўчых рэзультатаў іспыту ўказаных вышэй канструкцый, ні наогул якіх-бы там ні было рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, накіраваных к далейшаму ўдасканаленню элеватарнай машыны.

Што датычыць магчымасці ўключыць у план росту прадукцыйнасці працы ў 2-ой пяцігодцы па машына-фармовачнаму торфу 17,4 проц. за кошт механізацыі рольнага стала, то нетэндэнцыйна настроены, уважлівы чытач мог заўважыць, што гэта лічба ў артыкуле тт. Малініна і Рывінай была ўзята **ўмоўна**, толькі як **магчымая** крыніца прадукцыйнасці,—там пісалася даслоўна: «**пры ўмове ўвядзення** на ўсіх машынах аўтаматычнага секача і падкладных дошак **(канструкцыі якіх распрацоўваюцца Інсторфам)...** гэта дасць прырост прадукцыйнасці на 17,4 проц.» («Большэвік Беларусі» № 9, 1934 г., стар. 20).

Трэба падкрэсліць, што недапушчальны кансерватызм і закаранеласць інж. Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава ў галіне механізацыі, на вялікі жаль, **выражаецца не толькі ў катэгарычным адмаўленні магчымасцей механізацыі працэсаў у рольнага стала элеватарнай машыны;** бо і ў 1934 годзе на такім перадавым заводзе, як «Асінторф», мела месца выкарыстанне барон для фрэзеравання, карыстанне кошыкамі для ўборкі торфу замест тачанак, павышаючых прадукцыйнасць на 25—30 проц. Трэці год Галоўторф і ўся свядомая частка ІТР эма-

[1]) „Торфяное дело" № 8—9, 1932 г.

гаецца за ўкараненне зусім асвоеных вытворчасцю варашылак і валказбіральнікаў на сушцы фрэзернага торфу, але для інж. Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава гэта не закон. Яны знайшлі нейкія прычыны для таго, каб нават і ў гэтым сезоне забараніць на Асінторфе выкарыстанне механічнага валказбіральніка і варашыльных грабель.

Што гэты факт не носіць выпадковага характару, можна прывесці прыклад ахвату механізацыяй і працэсаў варашэння і валказбірання і на другім буйным заводзе Белторфа—торфазаводзе імя Гея, як гэта відаць з табліцы. (Падкрэслім, што па іншых заводах процант механізацыі яшчэ значна меншы, чым планавы і фактычны па торфазаводу імя Гея.):

| Працэсы | Ахоп механізацыяй у проц. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | у 1932 г. | | у 1933 г. | | у 1934 г. |
| | Па плану | Фактычна | Па плану | Фактычна | Па плану |
| Варашэнне . . | 67 | 67 | 100 | 87 | 100 |
| Валказбіранне . | 60 | 20 | 60 | 7 | 60 |

Такім чынам, можна пераканацца, што **тэхнічная палітыка інж. Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава практычна вядзе к таму, што, па-першае: самі планавыя наметкі па ўвядзенню механізацыі недастатковыя і, па-другое, вызначаныя наметкі не ажыццяўляюцца.**

(Дарэчы, нельга не адказаць на сцвярджэнне нашых апанентаў аб неабходнасці пакінуць да 1937 г. ваганетачныя машыны на торфазаводзе імя Гея і «Свабода». Робячы гэта заключэнне, аўтары відаць забылі, што на заводзе імя Гея яны самі наогул не праектуюць здабычу торфу элеватарным спосабам у 1937 годзе).

**Антымеханізатарскім настроям інж. Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава павінна быць проціпастаўлена разгортванне на нашых торфараспрацоўках упорнай барацьбы за поўнае асваенне ўсіх наяўных механізмаў, дасягненне ўмоў найбольш правільнай іх эксплаатацыі, далейшае безупыннае іх удасканаленне, замена механізмамі ручной працы ўсюды, дзе гэта толькі прадстаўляецца магчымым. У дапамогу гэтаму, на торфараспрацоўках павінен быць разгорнут сярод рабочых і ІТР масавы рацыяналізатарскі і вынаходніцкі рух.**

## „Планаванне пагоды", або лепшае выкарыстанне сезона

Пытанне выяўлення магчымай працягласці, а таксама тэрмінаў пачатку і заканчэння сезона неабходна для пабудовы правільнага плана здабычы торфу і павінна арыентаваць вытворчасць у падрыхтоўцы да сезона і своечасовым яго сканчэнні.

Тым больш дзіўнай і няўдалай з'яўляецца іранічная заўвага інж. Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава аб «рызыкоўнасці планавання пагоды».

Аўтарам не можа быць невядома, што асноўным рычагом нашага гаспадарчага будаўніцтва з'яўляецца план. Тарфяная прамысловасць (дзе, дарэчы кажучы, планаванне стаіць на асабліва нізкай ступені), як і ўсе іншыя сезонныя галіны вытворчасці і сельская гаспадарка, у гэтых адносінах не могуць з'яўляцца выключэннем.

Такім чынам, не аб аслабленні (да чаго зусім адкрыта імкнуцца нашы апаненты), а наадварот—аб рашучым умацаванні планавага пачатку ў торфапрамысловасці і падвядзенні пад яго сур'ёзнай навуковай базы,—вось аб чым трэба гаварыць зараз, вось да чаго належыць прыкаваць увагу ўсіх работнікаў торфапрамысловасці.

Для пачатку сезона неабходна, як ідэал, поўнае знікненне мерзлаты, але паколькі астаткі мерзлаты, што знаходзяцца на вялікай глыбіні, застаюцца звычайна ў залежы на працяглы час, то сезон заўсёды пачынаюць з мерзлатой, якая дасягае 20—30 см. Канец-жа сезона здабычы торфу абумоўліваецца тым, каб здабыты торф мог высахнуць.

У тым і другім выпадку мы сутыкаемся з метэаралагічнымі ўмовамі, прычым асноўныя з іх будуць: тэмпература, ападкі і адносная вільготнасць.

Не ставячы ў гэтым артыкуле задачы канчатковага ўстанаўлення працяглаcці сезона, мы ўсё-ж некалькі падрабязней спынімся на гэтым пытанні.

Па шматгадовых матар'ялах, апрацаваных для ўстанаўлення працяглаcці сезона і колькасці цыклаў пры фрэзерным спосабе здабычы ў БССР (праца Белторфа, праробленая пад кіраўніцтвам інсторфа), указаныя вышэй метэаралагічныя паказчыкі характарызуюцца ў наступным выглядзе:

а) **Тэмпература:** красавік з'яўляецца па ўсёй тэрыторыі БССР месяцам поўнай ліквідацыі снегавога насцілу. Красавік і май адметны выключна высокімі тэмпамі нарастання тэмпературы. Летнія месяцы адметны роўнасцю тэмпературы. Жнівень і верасень мала адрозніваюцца па тэмпературы ад летніх месяцаў.

б) **Адносная вільготнасць** у сярэднім гадавым падліку па ўсёй тэрыторыі мае амаль аднолькавыя даныя.

в) **Воблачнасць.** Мінімум воблачнасці прыпадае на май, чэрвень, жнівень і верасень.

г) **Ападкі.** Максімум ападкаў выпадае ў цёплую пару года,—з мая па верасень, прычым па месяцах размяркоўваецца наступным чынам: май—4 проц., чэрвень—17 проц., ліпень—40 проц., жнівень—17 проц., верасень—3 проц.

Сярэднія даныя, за вялікі лік гадоў, па ўказаных фактарах характарызуюцца наступнымі лічбамі:

| | Сакавік | Красавік | Май | Чэрвень | Ліпень | Жнівень | Верасень | Кастрычнік |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Тэмпература ў град. . . . | 3 | 4,6 | 12,5 | 16,7 | 18,1 | 16,2 | 11,0 | 4,7 |
| Адносная вільготнасць у проц. . . . . . . | 83 | 76 | 70 | 71 | 75 | 78 | 81 | 84 |
| Ападкі ў *мм* . . . . . | 31 | 41 | 50 | 74 | 84 | 82 | 54 | 50 |

ЗАЎВАГА. Даныя ўзяты па мет. станцыі Горы-Горкі.

Нават у неспрыяльным у метэаралагічных адносінах 1933 г. пачаткам сезона трэба было лічыць 25 красавіка—3 мая. На гэтыя лічбы прыпадае і фактычны пачатак разгортвання сезона на большасці заводаў Белторфа. Такім чынам, калі ў сезоне 1933 года прадстаўля-

лася магчымым пачаць здабычу 25 красавіка—3 мая, пры сярэдняй месячнай тэмпературы—3°, аднóснай вільготнасці 84 проц. і месячных ападках 52,5 мм., то ў іншыя гады, адметныя больш спрыяльным асноўным метэаралагічным паказчыкам у красавіку месяцы (тэмпература, гл. табліцу), пачаткам сезона ўпэўнена можна лічыць 25 красавіка—3 мая (зразумела, у паўднёвых раёнах рэспублікі сезон можа разгортвацца адносна раней, у сярэдняй частцы БССР прыкладна тыднем, а ў паўночнай прыкладна двума пазней).

Аналізуючы даныя за жнівень і верасень, мы бачым, што верасень ў цэлым для сушкі з'яўляецца зусім спрыяльным месяцам, які вельмі мала адрозніваецца ад жніўня, і таму канцом сушкі торфу можна лічыць 30 верасня.

Улічваючы, што для сушкі торфу пасля выпрацоўкі патрабуецца замест прымаемых у пачатку сезона 30—35, 40 45 дзён, канец здабычы павінен адносіцца к 10—15 жніўня і, значыць, працягласць сезона здабычы арыентовачна трэба лічыць, у кожным разе, не менш як 100—105 дзён[1].

Калі-ж адкінуць у бок тэарэтычныя спрэчкі аб працягласці сезона і паглядзець, як-жа тэхнічныя кіраўнікі Белторфа на практыцы выкарыстоўваюць магчымасць ранняга пачатку яго, то можна пераканацца, што, не гледзячы на запэўненні інж. Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава аб фактычным пачатку сезона ў 1934 годзе 20 красавіка, у сапраўднасці 20-га з намечаных планам 37 машын і 87,5 змен, фактычна працавала толькі 14 машын—22 змены і, нават 10 мая, працавала толькі 30 агрэгатаў—60 змен.

Не дарма майскі пленум ЦК КП(б)Б г.г. у сваёй пастанóве аб паліве рашуча падкрэсліў кепскую і праведзеную са значным спазненнем падрыхтоўку да сезона і позні пачатак самога сезона, у выніку чаго не былі выкарыстаны асабліва спрыяльныя метэаралагічныя ўмовы гэтай вясны.

Такім чынам, **апартуністычнай стаўцы на самацёк у справе выкарыстання сезона, якую практычна праводзяць і тэарэтычна адстойваюць інж. Сцепанаў, Аксючыц і Севасцьянаў, павінна быць проціпастаўлена цвёрдая планавасць у нашай рабоце.**

## Іншыя пярэчанні

Зусім памылковы і цэлы рад іншых пярэчанняў, высунутых інж. Сцепанавым, Аксючыцам і Севасцьянавым. Пацвердзім гэта двума-трыма прыкладамі.

Сцверджанне, нібы склад брыгад на ваганетачных машынах па Белторфу не перавышае 30 чалавек,—не адпавядае рэчаіснасці. Па плану Белторфа на 1934 год, колькасць рабочых у брыгадах пры ваганетачнай адвозцы торфу па заводу імя Гея—31 чалавек, «Лукскае»—32 чал., «Дукоры»—34 чал., «Свабода»—28 чал., у сярэднім-жа 31,25 ч. (Прыведзеныя даныя ўзяты з промфінплана Белторфа на 1934 год, складзенага 25 мая 1934 г.)

Памылковы і падлік колькасці рабочых у брыгадзе к канцу пяцігодкі, у якім, «папраўляючы» зроблены намі верны разлік, нашы «крытыкі» блытаюць рост прадукцыйнасці працы ўсёй брыгады за

[1]) Між іншым, інж. Курдзюмаў і Савенко ў арт. „Магчымая працягласць сезона"—„Торфяное дело" 1933 г. № 6—для раёнаў УССР, якія прылягаюць да БССР, прапануюць значна большую працягласць сезона: 114—117 дзён.

кошт пераводу сцільшчыкаў на індывідуальную здзельшчыну (—6 проц.) са зменшанием колькасці рабочых у брыгадзе.

Таксама не адпавядае сапраўднасці сцверджанне, нібы пры падліку агульнага магчымага процанта прыросту прадукцыйнасці працы на працягу другой пяцігодкі, аўтарамі артыкула «Барацьба за павышэнне прадукцыйнасці працы ў тарфяной прамысловасці ў другой пяцігодцы», гэты агульны падлік быў зменшан на ⅔. Гэты ўмоўна прыняты разлік меў месца толькі ў дачыненні да фактара рэзультацыйных форм аплаты і соцспаборніцтва, паколькі абодва гэтыя фактары ў значнай сваёй частцы аказаліся ўжо ўлічанымі пры падліках росту прадукцыйнасці за кошт ушчыльнення працоўнага дня і іншых момантаў.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ.

Замест таго, каб па-дзелавому дапамагчы разабрацца ў складанай і адказнай праблеме планавання росту прадукцыйнасці працы на торфаздабычы ў другой пяцігодцы, у **выступленні інж. Сцепанава, Аксючыца і Севасцьянава мы знаходзім толькі свядомую і нічым не прыкрытую барацьбу яе аўтароў наогул супроць высокіх тэмпаў росту прадукцыйнасці.**

Зусім не выпадкова, таму, яны займаюцца толькі «абвяржэннямі» магчымасці павышэння прадукцыйнасці працы. **У іх артыкуле, пры самым уважлівым пераглядзе, нельга выявіць якіх-небудзь указанняў недаўліку таго ці іншага фактара, ні хоць колькі-небудзь сур'ёзнага асвятлення самога падыходу і метадалогіі планавання прадукцыйнасці працы ў другой пяцігодцы, па вызначаючых яе фактарах і т. п.**

Калі мы прывыклі лічыць, што ў нашай соцыялістычнай краіне ўдарная, высокапрадукцыйная праца рабочых—свядомых будаўнікоў соцыялізма—ёсць «справа гонару, справа славы, справа доблесці і геройства» **(Сталін),** то інж. **Сцепанаў, Аксючыц і Севасцьянаў, прыкідваючыся «рабочалюбцамі», запалохваюць, што барацьба за высокую прадукцыйнасць прывядзе да ператварэння жывога рабочага тарфяніка ў «аўтаматычнага чалавека-капацеля»,** як відаць падводзячы пад гэту ганебную мянушку ўсіх ізотаўцаў тарфянага Данбаса, выканаўшых свой сезонны план за 40—45—50 дзён да заканчэння сезона (Курэнева, Бірона, Зубава і інш.), якімі мы ганарымся, як героямі сваёй вытворчасці.

**Як відаць, нашы разыходжанні з інж. Сцепанавым, Аксючыцам і Севасцьянавым, не абмяжоўваюцца толькі «тэхмінімумам» і «арыфметыкай».**

---

Е. Г. Кіселёў

# Аб арганізацыі марксісцка-ленінскай вучобы партактыва

„Работа навошчуп, работа ўпоцемках—такі ўдзел практычных работнікаў, калі яны не вывучаюць ленінізм, калі яны не імкнуцца аўладаць ленінізмам, калі яны не жадаюць спалучыць сваю практычную работу з неабходнай тэарэтычнай падрыхтоўкай" (Сталін).

Тав. Сталін у сваім дакладзе на XVII з'ездзе партыі падвёў вынікі нашых перамог і намеціў праграму далейшай барацьбы партыі за пабудову поўнага бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Вырашыць гэтыя агромныя задачы ў парадку самацёку нельга. Барацьба з астаткамі класава-варожых элементаў, з астаткамі ідэалогіі разбітых антыленінскіх груповак, з перажыткамі капіталізма ў свядомасці людзей, пераадаленне ўсіх цяжкасцей на шляху к пабудове бяскласавага соцыялістычнага грамадства—усё гэта патрабуе агромнага напружання сіл усёй партыі.

У сувязі з гэтым пытанні палепшання ідэйна-палітычнай работы ў радах партыі, пытанні павышэння ідэйна-палітычнага ўзроўню членаў партыі набываюць выключна агромнае значэнне. Задача зараз у тым:

«1. Каб падняць тэарэтычны ўзровень партыі на належную вышыню.

2. Узмацніць ідэалагічную работу ва ўсіх звеннях партыі.

3. Весці нястомную прапаганду ленінізма ў радах партыі.

4. Выхоўваць партарганізацыі і акружаючы іх беспартыйны актыў у духу ленінскага інтэрнацыяналізма.

5. Не замазваць, а крытыкаваць смела адхіленні некаторых таварышоў ад марксізма-ленінізма.

6. Сістэматычна выкрываць ідэалогію і астаткі ідэалогіі варожых ленінізму плыней» **(Сталін).**

Падняць тэарэтычны ўзровень членаў партыі, весці няўтомную прапаганду ленінізма ў радах партыі, каб гэтым яшчэ больш узмацняць магутнасць нашай партыі, магутнасць дыктатуры пролетарыята і забяспечыць выкананне гістарычных рашэнняў XVII з'езда партыі—так паставіў пытанне тав. Сталін.

У святле гэтых задач выключна агромнае значэнне набывае пытанне ўзбраення партыйнага актыва марксісцка-ленінскай тэорыяй. Бо перш за ўсё партактыў, які кіруе пэўнымі ўчасткамі канкрэтнай работы, абавязан забяспечыць мабілізацыю шырокіх мас на выкананне рашэнняў XVII з'езда партыі.

Тав. Кагановіч на XVII партз'ездзе гаварыў:

«Мы павінны патрабаваць ад кожнага сакратара пярвічнай партарганізацыі, ад кожнага сакратара райкома, ад кожнага партыйнага арганізатара аўладання марксісцка-ленінскім запасам. Партыйны кіраўнік павінен быць не толькі арганізатарам-адміністратарам у лепшым сэнсе слова, але і прапагандыстам і выхавальнікам членаў партыі».

* *
*

За мінулыя гады ідэйна-палітычны ўзровень нашай партыі і асабліва партактыва значна ўзрос.

Ажыццяўляючы ўказанні камісіі па чыстцы і дырэктывы XVII з'езда партыі, у партарганізацыях КП(б)Б за 1933-1934 г.. шырока разгарнулася вучоба нашага партыйнага актыва.

Зараз па БССР працуюць 4 рэспубліканскія соўпартшколы, якія штогод рыхтуюць больш 1000 чалавек нізавога партыйнага і савецкага актыва.

Арганізаваны ў гэтым годзе і працуюць курсы марксізма-ленінізма пры ЦК КП(б)Б, на якіх вучацца 75 чалавек гарадскіх і раённых партыйных работнікаў.

Праз сістэму курсавых мерапрыемстваў пры ЦК КП(б)Б за 1933 г. і першае паўгоддзе 1934 г. перападрыхтавана:

| | 1933 г. | 1934 г. |
|---|---|---|
| 1. Парторгаў і сакратароў ячэек промпрадпрыемстваў . . . | 114 чал. | 115 чал. |
| 2. Парторгаў і сакратароў ячэек соўгасаў і калгасаў . . . . . . | 114 „ | 212 „ |
| 3. Прапагандысцкіх работнікаў . . | 75 „ | 121 „ |
| 4. Агітмасработнікаў. . . . . . | 54 „ | — |
| 5. Работнікаў РКК РСІ . . . . . | 36 „ | — |
| 6. Комсамольскіх работнікаў . . | 110 „ | 124 чал. |
| Разам . . | 503 | 572 |

Непасрэдна ў раёнах у мінулым годзе працавала стацыянарная сець вучобы партактыва: вячэрніх комвузаў 16, семінараў сакратароў паркомаў—7, семінараў дырэктароў прадпрыемстваў—2, семінараў прапагандыстаў—50, семінараў інструктароў ГК і РК—2, семінараў горрайпартактыва—40.

Паасобныя раёны ў працэсе праpрацоўкі рашэнняў XVII з'езда партыі прарабілі выключна агромную работу ў гэтай галіне, здолелі арганізаваць цэлую сістэму мерапрыемстваў для вучобы нашага актыва.

Напрыклад, у Барысаве на працягу ўсяго перыяда асенне-зімняй вучобы 1933—34 гг. працавалі наступныя звенні:

Вячэрні комвуз на 150 чал., дэкадны комвуз сакратароў парткомаў—25 чал., семінар парторгаў—70 чал., семінар прапагандыстаў—25 чал.

Непасрэдна на прадпрыемствах працавалі 4 марксісцка-ленінскія гурткі, якімі было ахоплена 105 чалавек фабрычна-заводскага актыва.

На вёсцы сістэматычна праводзяцца 3—5 дзённыя курсы партыйнага, совецкага і калгаснага актыва.

У Менску пры доме партактыва працавалі: семінар інструктароў ГК на 12 чал., семінар сакратароў парткомаў—30 чал., семінар парторгаў па тыпах прадпрыемстваў—120 чал., семінар дырэктароў прадпрыемстваў—60 чал.

Шырока разгарнулася ў радзе гарадоў сістэма перыядычных лекцый для партактыва.

У Менску, напр, былі арганізаваны лекцыі аб прамысловасці ў 2-ой пяцігодцы, аб совецкім гандлі і грошах, аб класах і класавай барацьбе, нацыянальным пытанні, міжнародным становішчы і т. д.

Таксама ў Гомелі праведзены лекцыі на тэмы: філасофія германскага фашызма, Салтыкоў-Шчэдрын і яго творчасць, Пушкін і яго творчасць і т. д.

Дасягнутыя рэзультаты далёка недастатковы, і мы ні ў якой меры не можам імі задаволіцца. Чыстка паказала, што ў радзе партыйных арганізацый вельмі нізкі тэарэтычны ўзровень актыва. Мы зрабілі многа для арганізацыі вучобы актыва, але яшчэ не дабіліся таго, каб кожны актывіст працаваў над сабою, павышаў свой тэарэтычны ўзровень.

Цэлы рад райкомаў, парткомаў прадпрыемстваў усё яшчэ не арганізавалі вучобы партыйнага актыва. ЦК КП(б)Б у сваіх рашэннях неаднакроць падкрэсліваў, што неабходна арганізаваць сістэматычную вучобу раённага партактыва, і рэкамендаваў у якасці найбольш адпавядаючай формы—арганізацыю семінараў, лекцый. Нажаль, праведзены яны толькі ў 40 раёнах.

Культпроп ЦК КП(б)Б пасылаў у рад раёнаў кваліфікаваных лектароў для заняткаў з райпартактывам. Але паасобныя райкомы партыі (Бабруйск) замест таго, каб выкарыстаць прыезд таварыша для вучобы, наладжвалі ў гэты час розныя паседжанні, нарады.

Рашэнне ЦК аб паглыбленай вучобе парторгаў у радзе раёнаў не выконваецца. Не ўсе яшчэ зразумелі выключную важнасць ідэйнапалітычнага выхавання комуністаў, і не выпадкова паасобныя кіруючыя работнікі праяўляюць палітычную няграматнасць, няведанне рашэнняў XVII з'езда партыі.

Так, райупаўнаважаны па загатоўках т. **Чэпуляніс** (Чэрвень) пры праверцы не змог адказаць на пытанне:—«Якія ў СССР меліся эканамічныя ўклады і якія змены ўкладаў адбыліся к XVII з'езду партыі?»

Парторг **Рэўзіна** (Рэчыцкая фабрыка запалак) не змагла адказаць на пытанне: —«Якая форма калгаса з'яўляецца асноўнай на даным этапе?» Розніцу паміж комунай і арцеллю тлумачыла так:—«У комуне думкі ва ўсіх аднолькавы, а ў калгасе не».

Былы сакратар парткома фабрыкі «Комунаркі» (Менск) **Гольдзін** не змог даць адказ на пытанне:—«Які ўхіл з'яўляецца галоўнай небяспекай у нацыянальным пытанні на Беларусі?» і заявіў:—«Пастаноўка пытання аб тым, што ў нас галоўную небяспеку прадстаўляе мясцовы нацыяналізм, з'яўляецца няправільнай».

Асабліва нездавальняюча якасць вучобы. Не так даўно метады фармальнай зуброжкі матар'ялаў з'езда шырока практыкаваліся ў сістэме вучобы партактыва. Пытальнікі ўжываліся амаль ва ўсіх вячэрніх комвузах.

У рэзультаце недастаткова сур'ёзнай падрыхтоўкі прапагандыстаў к заняткам, вельмі часты выпадкі нізкай якасці вучобы.

Вось кароткая стэнаграма аднаго занятку ў Жлобінскім вячэрнім комвузе. Прапрацоўваецца тэма па гісторыі партыі: «Прадпасылкі афармлення большэвізма».

Заняткі вядзе студэнт 4 курса транспартнай ВНУ.

**Выкладчык:**—Што вы можаце расказаць аб пачатку 90-х гадоў?

**Слухач:**—Пасля смерці Маркса Плеханаў арганізаваў сваю групу з мэтай даць крытыку. Ленін з некаторымі пытаннямі не згаджаўся.

**Выкладчык:**—Вы не зразумелі пытання. Раскажыце аб развіцці капіталізма 90-х гадоў, аб рэвалюцыйным руху.

**Слухач:**—Пасля вызвалення сялян пачынаецца адыход. І вось былі народнікі, якія за асноўную сілу лічылі сялянства.

**Выкладчык:**—Ну вось, а зараз раскажыце аб марксізме. Куды-ж павярнулі народнікі?

**Слухач:**—Яны павярнулі к контррэволюцыі, і вось мы бачым у Лютаўскай рэволюцыі і ў Окцябрскай праў быў марксізм.

**Выкладчык:**—У чым яны бачылі палепшанне свайго становішча, як яны глядзелі на ўрад і як ён павінен быў паступаць разумна і неразумна?

**Слухач:**—Урад павінен падыходзіць разумна, дапамагаць ім.

**Выкладчык:**—Можа вы дабавіце аб брашуры Леніна.

**Слухач:**—Ленін у гэтай брашуры гаворыць хто друг народу і хто вораг.

**Выкладчык:**— Ну вось, можа, таварышы, хто-небудзь падвядзе агульны вынік нашай гутаркі і шырэй раскажа аб народніцтве, аб марксізме?

**Слухач:**—Плеханаў, Засуліч бачылі неабходнасць стварэння соцыялдэмакратычных груп, і вось яны склалі групу «Вызваленне працы». Плеханаў напісаў кнігу «Нашы разнагалоссі», дзе ён даказваў, што пераход к комунізму адбудзецца не праз абшчыну, а праз рабочы клас. Недахопы гэтай работы заключаюцца ў тым, што яны пераацэньвалі соцыялістычную інтэлігенцыю і тэрор.

Так на працягу двух гадзін настаўнік вёў заняткі. Сам блытаўся і слухачоў блытаў. Зусім зразумела, што з гэтых занятках ні адзін студэнт не мог нічога ўсвоіць аб прадпасылках афармлення большэвізма, аб ролі Леніна ў арганізацыі большэвізма, акрамя шкодных і блытаных паасобных установак.

Супроць такіх метадаў вучобы нашага актыва трэба павесці рашучую барацьбу. Такіх блытальнікаў-настаўнікаў нельга дапускаць не толькі ў комвузы, але і ў кандыдацкія групы.

За падбор выкладчыкаў і кіраўнікоў школ і гурткоў павінны ўзяцца перш за ўсё партыйныя камітэты. А тым часам пытанні якасці ў звеннях вучобы партактыва яшчэ не стаяць у цэнтры ўвагі парткомаў.

* * *

Мы ўступаем зараз у перыяд разгортвання асенне-зімовай партвучобы. Побач з арганізацыяй масавай сеці партыйнай асветы, выключнае значэнне набывае арганізацыя вучобы партактыва. Новы статут абавязвае членаў партыі «няўтомна працаваць над павышэннем сваёй ідэйнай узброенасці, над усваеннем асноў марксізма-ленінізма, важнейшых палітычных і арганізацыйных рашэнняў партыі і растлумачыць іх беспартыйным масам». Гэта адносіцца да ўсіх членаў партыі і асабліва да партактыва.

Якія формы вучобы актыва мы павінны разгарнуць у гэтым годзе? На гэта даны вычарпальныя ўказанні ў рашэнні ЦК КП(б)Б ад 27/VI і ў лісце Аддзела культуры і прапаганды ленінізма ЦК. У гэтых указаннях рэкамендуецца арганізаваць наступныя звенні:

**Гадовая соўпартшкола**—разлічана на ахват комуністаў нізавога партыйнага, совецкага і профсаюзнага актыва з наступным вучэбным планам: гісторыя партыі, родная мова, матэматыка, геаграфія, партбудаўніцтва і бягучыя рашэнні партыі.

**Двухгадовы вячэрні комвуз**—ствараецца ў прамысловых гарадах і раёнах, разлічан на ахват комуністаў заводскага і раённага актыва, з вучэбным планам:

На 1 курсе: родная мова, матэматыка, геаграфія, паняцце аб светабудове, гісторыя народаў СССР, гісторыя партыі, прапрацоўка асноўных рашэнняў партыі.

На 2 курсе: ленінізм, гісторыя класавай барацьбы, эканомгеаграфія, асновы палітэкономіі і эканомпалітыкі, партбудаўніцтва, прапрацоўка рашэнняў партыі.

Для ахопу вучобай актыва прадпрыемстваў і ўстаноў рэкамендуецца арганізацыя марксісцка-ленінскіх гурткоў, асабліва па ленінізму, з наступным вучэбным планам:

Ленінізм-марксізм эпохі імперыялізма і пролетарскай рэволюцыі; дыктатура пролетарыята; агра-сялянскае пытанне; нацыянальна-каланіяльнае пытанне; стратэгія і тактыка; вучэнне аб партыі; стыль ленінізма ў рабоце; вучэнне аб вайне і т. д.

Побач з гэтым, ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове рэкамендуе арганізацыю спецыяльных семінараў:

Для райпартактыва—членаў бюро РК, інструктароў РК, членаў прэзідыума РВК, райсоўпрофа і інш.—ва ўсіх раёнах.

Для сакратароў парткомаў—у прамысловых раёнах.

Для парторгаў—у прамысловых раёнах па тыпах прадпрыемстваў, на вёсцы па кустах або пры палітаддзелах і райкомах.

Работу семінараў трэба пабудаваць так, каб вывучэнне тэарэтычных пытанняў, паасобных твораў класікаў марксізма-ленінізма суправаджалася распрацоўкай пытанняў практычнай работы.

Вопыт такой работы семінараў у Менску даў выключна дадатныя рэзультаты.

Трэба шырока распаўсюдзіць практыку арганізацыі барысаўскім РК у зімовы перыяд кароткатэрміновых 3—5-дзенных курсаў сельскага партсовецкага і калгаснага актыва.

Акрамя гэтых мерапрыемстваў, якія праводзяцца непасрэдна ў раёнах, вялікі кантынгент партактыва будзе ахватвацца курсавымі мерапрыемствамі пры ЦК КП(б)Б і ў рэспубліканскіх соўпартшколах.

Трэба толькі дабіцца, каб партыйныя арганізацыі на месцах больш сур'ёзна падыходзілі да падбору таварышоў на курсы і ў соўпартшколы. Гэтага мы пакуль не маем. У рэзультаце зніжаецца ўзровень паступаючых і затрудняецца паспяховая вучоба.

Вопыт арганізацыі ў Менску і Гомелі лекцый для партактыва трэба шырока практыкаваць у гэтым годзе ва ўсіх раёнах.

Завочная вучоба—адзін з важнейшых фактараў павышэння ўзроўню актыва. Мы маем усе магчымасці ахапіць салідную праслойку нашага актыва завочнай вучобай у ІКП, на курсах марксізма-ленінізма, у гадавым комвузе і т. д.

Заслугоўвае асаблівай увагі пытанне арганізацыі вучобы рэспубліканскіх работнікаў. Гэта група нашага актыва яшчэ ніякімі арганізаванымі формамі вучобы не ахоплена. Бясспрэчна, што да арганізацыі вучобы рэспубліканскага актыва трэба падыйсці вельмі абдумана.

У Ленінградзе, напр., абласны актыў збіраецца раніцай за 2 гадзіны перад работай і прапрацоўвае паасобныя тэарэтычныя, навуковыя праблемы, пытанні практыкі работы пад кіраўніцтвам кваліфікаваных навуковых і партыйных работнікаў.

У Маскве практыкуецца прымацаванне да паасобных адказных работнікаў або груп кваліфікаваных кансультантаў.

* * *

Выключную ўвагу трэба ўдзяліць палепшанню якасці вучобы, падбору лепшых, найбольш кваліфікаваных выкладчыкаў і прапагандыстаў для работы з актывам. За гэта асноўнае звяно трэба моцна ўхапіцца.

Наш актыў прад'яўляе зараз даволі вялікія патрабаванні ў павышэнні свайго ідэйна-палітычнага і культурнага ўзроўню. Выходзячы з гэтага, ЦК КП(б)Б у сваім рашэнні ад 27-VI абавязаў партарганізацыі прыцягнуць да работы з актывам найбольш кваліфікаваных таварышоў з партактыва і навуковых работнікаў.

Палітычную вучобу нашага актыва неабходна арганізаваць так, каб падняць і агульны культурны ўзровень таварышоў (вывучэнне геаграфіі, карты света і СССР, распрацоўка паасобных спецыяльных тэм па пытаннях сельскай гаспадаркі, прамысловасці, лекцыі аб мастацкай літаратуры і т. д.), цяснейшым чынам звязваючы вучобу з практыкай работы, узбройваючы на барацьбу з канкрэтнымі недахопамі, дапамагаючы ў гэтай рабоце.

Тав. Кагановіч на XVII з'ездзе партыі гаварыў:

> «Частка нашых соўпартшкол церпіць больш за ўсё ад таго, што там вучоба пастаўлена іменна па-школьнаму. Большэвік не школьнік, ён выхоўваецца палітычна, яго школьная вучоба павінна злучацца з палітыкай і практыкай штодзеннай барацьбы».

Іменна такой вучобы ў нас яшчэ ва многіх звеннях, асабліва ў соўпартшколах і вячэрніх комвузах, няма.

Так Рудзутак у сваім дакладзе на XVII з'ездзе, падвяргаючы суровай крытыцы недахопы партасветы і партвучобы, прывёў прыклад з работы гомельскай соўпартшколы, дзе ў наяўнасці была палітычная няграматнасць студэнтаў, няведанне бягучых рашэнняў партыі. Гэта крытыка адносіцца не толькі да гомельскай соўпартшколы, а да ўсіх звенняў марксісцка-ленінскай вучобы і абавязвае нас карэнным чынам палепшыць якасць нашай работы па марксісцка-ленінскаму выхаванню.

* * *

У барацьбе за ідэйна-вытрыманую вучобу актыва агромную ролю могуць адыграць дамы партактыва і партгабінеты. У Барысаве, Менску, Гомелі, яны ўжо становяцца цэнтрамі тэарэтычнай работы з актывам, вакол іх разгортваюцца розныя формы вучобы.

Для арганізацыі работы з прапагандыстамі, палепшання якасці выкладання зроблена яшчэ вельмі мала.

Праведзеная не так даўно аддзелам культуры і прапаганды ленінізма нарада паказала, што паргабінеты не сталі яшчэ цэнтрамі метадычнага кіраўніцтва.

Большасць іх абмяжоўвае сваю работу чыста бібліятэчнымі функцыямі, прыёмкай і выдачай літаратуры, а ў радзе раёнаў выконвае функцыі былых культпропаў.

Нізкі ўзровень работы партгабінетаў тлумачыцца тым, што на гэтай рабоце працуюць слабыя таварышы. Таму неадкладная задача— узмацніць партгабінеты кваліфікаванымі работнікамі, аслабаніўшы іх ад неўласцівых ім функцый арганізатараў партвучобы, «нелегальна» замяняючых у радзе раёнаў і прадпрыемстваў ліквідаваных культпропаў.

* * *

Наша партыя заўсёды прыдавала і прыдае выключнае значэнне ўзбраенню сваіх радоў марксісцка-ленінскай тэорыяй, бо рэвалюцыйная тэорыя «дае практыкам сілу арыентыроўкі, яснасць перспектывы, упэўненасць у рабоце, веру ў перамогу нашай справы». Гэта ўказанне тав. Сталіна набывае выключную вострасць у перыяд пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства, у перыяд перасілення перажыткаў не толькі ў эканоміцы, але і ў свядомасці людзей, завяршэння тэхнічнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, карэннага палепшання матар'яльнага дабрабыту працоўных.

Мы абавязаны ў гэтым годзе так арганізаваць гэту работу, каб па-большэвіцку выканаць рашэнні XVII з'езда партыі і ўказанні тав. Сталіна і Кагановіча: узорна арганізаваць марксісцка-ленінскую вучобу нашага актыва.

---

Г. Брыгневіч

Нач. палітаддзела
Жлобінскай МТС

# Палітаддзел у барацьбе за большэвіцкія калгасы

Масавая сяўба ўвесну гэтага года па Жлобінскаму раёну пачалася 6—8 красавіка. У пасеўнай калгасы МТС ішлі ўперадзе раёна, закончыўшы ўрадавы план сяўбы к 10 мая. На 25/V калгасы засеялі 118,5 проц. урадавага плана. У 1933 г. на 10/V па зоне МТС было засеяна толькі 53,3 проц. плана, на 25/V—87,9 проц.

Уборку азімых і яравых калгасы МТС пачалі дружна, арганізавана і правялі яе ў максімальна кароткія тэрміны.

Гадавы план зярнопаставак і натураплаты выканалі поўнасцю добраякасным зярном к 25 жніўня—на 46 дзён раней мінулага года.

Нашы дасягненні ў сяўбе, уборцы і зярнопастаўках ёсць вынік перабудовы партмасавай работы на падставе рашэнняў XVII з'езда партыі, вынік аперацыйнага кіраўніцтва, напружанай працы, якую партыйная арганізацыя вяла ўсю зіму, рыхтуючы к вясне коней, кадры, арганізуючы людзей у брыгады, выкрываючы шкодніцкую антысовецкую дзейнасць кулацкіх і класава-варожых элементаў ачышчаючы ад іх калгасы.

Асноўны змест партыйна-масавай работы палітаддзелаў—гэта мабілізацыя мас калгаснікаў на паспяховае правядзенне ў жыццё рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б.

Таму мы добра прапрацавалі рашэнні партз'езда і даклад т. Сталіна з работнікамі МТС (аграномамі, механікамі, брыгадзірамі, трактарыстамі), старшынямі калгасаў і з калгасным актывам; пасля чаго правялі гэту работу ва ўсіх калгасах, прычым работнікі палітаддзела непасрэдна працавалі ў 15 буйнейшых калгасах, абслугоўваемых МТС.

Прапрацоўку рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) цесна ўвязалі з канкрэтнымі задачамі МТС і кожнага калгаса па правядзенню ў жыццё гэтых рашэнняў у будучым сельскагаспадарчым годзе.

Гэта дало нам магчымасць арганізаваць масы калгаснікаў, работнікаў МТС і трактарыстаў на дасканалую праверку падрыхтаванасці да веснавой сяўбы, мабілізаваць работнікаў МТС і калгаснікаў на хутчэйшы рамонт трактароў, сеялак, плугоў, барон, ачыстку насення і т. д., ускрываць механіку барацьбы кулацкіх і класава-варожых элементаў, выяўляць і знішчаць прарывы ў рабоце калгасаў.

На падрыхтоўку трактарнага парка звярнулі асаблівую ўвагу. У 2-й брыгадзе выявілася нізкая якасць і слабыя тэмпы. Разгарнулі масавую работу, выгналі шкоднікаў, рвачоў і закончылі рамонт к 20 лютага якасна лепш, чым у мінулым годзе.

У калгасе „Чырвоны прамень“ была выдзелена брыгада па праверцы. Брыгада выявіла неадрамантаваныя калёсы, неачышчанае непратручанае насенне. У калгасе „Перамога“ Папаратнянскага с-с., праверачная брыгада выявіла, што насенне ачышчана нядобраякасна, і на месцы прыняла адпаведныя меры для ліквідацыі выяўленых недахопаў.

Многія калгасніцы—удзельніцы праверачных брыгад—пасля праверкі якасці насеннага фонда рабілі ў сябе дома аналіз усхожасці насення. 159 калгасніц уцягнуты былі палітаддзелам МТС у практычную падрыхтоўку да сяўбы.

* * *

Прапрацоўваючы рашэнні партз'езда сярод калгаснікаў і аднаасобнікаў, мы дадаткова правялі адзіны партыйны дзень, прысвечаны выключна пытанням жывёлагадоўлі і ўключэння жывёлагадоўчых ферм у конкурс.

Перад партднём брыгады калгаснікаў праверылі, у якім стане знаходзяцца каровы, свінні, авечкі, конскае пагалоўе, унеслі рад практычных прапаноў, як палепшыць догляд жывёлы, дзяліліся лепшым вопытам.

Ва многіх калгасах і фермах брыгады выявілі пагалоўную абязлічку ў доглядзе жывёлы, ураўнілаўку ў аплаце, вялікую цякучасць сярод калгаснікаў, занятых на жывёлагадоўчай ферме, амаль поўную адсутнасць кіраўніцтва райземаддзела жывёлагадоўляй.

У калгасе „ХІ-годдзе Окцября“ брыгада выявіла грубую памылку ў планаванні злучных пунктаў: райза даў указанне ўсім калгасам Кароткавіцкага с-с., што злучны пункт знаходзіцца ў калгасе „Чырвоны красавік“, тым часам як там ніколі не было і няма ніводнага жарабца, а ў тым калгасе, дзе ёсць племянны жарабец, злучны пункт не арганізован.

У час праверкі выявілася, што малочна-таварная ферма калгаса „ХІІ-годдзе Окцября“, Затонскага с.-с, маючы ўсе магчымасці стаць у радзе перадавых ферм, увесь час знаходзіцца ў ганебным прарыве.

Брыгада па агляду МТФ у калгасе „Серп і молат“ выявіла абязлічку ў доглядзе за жывёлай і ўраўнілаўку ў налічэнні працадзён калгаснікам. З нарадзіўшыхся 7 цялят 6 загінула, бо праўленне даручыла выпойваць цялят падкулачніцы, якая разбазарвала малако, а цяляты гінулі з голаду. Па ініцыятыве праверачнай брыгады калгаснікі жывёлагадоўчай фермы вынеслі рашэнне зняць падкулачніцу з работы і прыцягнуць яе да суровай адказнасці за знішчэнне грамадскай маемасці.

Гэта-ж брыгада ўстанавіла, што ветфельчар Цярэшчанка выключна нядбайна адносіўся да абслугоўвання калгасных ферм і, былі выпадкі, санкцыянаваў пад выглядам розных хвароб забой жывёлы.

Таксама было выяўлена масавае знішчэнне цялят аднаасобнікамі і нават калгаснікамі. Пасля агляду брыгадамі цялят і праведзенай сярод аднаасобнікаў і калгаснікаў масавай работы забой маладняка амаль спыніўся.

У рэзультаце шырокага абгаварэння і прапрацоўкі сярод шырокіх мас калгаснікаў і аднаасобнікаў рашэнняў XVII партз'езда па пытан-

нях развіцця соцыялістычнай жывёлагадоўлі план закупкі і кантрактацыі маладняка па калгасах выканан (урадавы план закупкі—400 цялят, закуплена 534 цялят). Лепш праведзена злучная кампанія. На 25 мая з агульнага стада кароў было пакрыта ўжо 80 процантаў, у мінулым годзе каля 60 проц. стада кароў засталіся непакрытымі.

Калгасы зоны Жлобінскай МТС уключыліся ў конкурс на лепшую жывёлагадоўчую ферму, умовы конкурса прапрацавалі ва ўсіх калгасах і асобна на вытворчых нарадах жывёлагадоўчых брыгад.

Устанавілі дыферэнцыяльную аплату скотніцам і даяркам у залежнасці ад якасці працы, пастаноўкі догляду, агульнага стану жывёлы, захоўвання маладняка і выхаду малака. Узмацнілі жывёлагадоўчыя брыгады, вылучаючы на гэту работу лепшых ударнікаў з калгаснікаў і калгасніц.

Жывёлагадоўчая малочна-таварная ферма калгаса „Чырвоны Жлобін", спаборнічаючы з калгасам „Яркі шлях" на лепшую жывёлагадоўчую ферму, значна палепшыла догляд за каровамі, перавяла іх на трохразовую дойку ў дзень, пасля чаго значна павялічыўся ўдой малака.

Але гэта першыя дасягненні. Агульны стан жывёлагадоўлі па калгасах раёна нездавальняючы.

План гадоўлі буйнай рагатай жывёлы на фермах выканан усяго на 93 проц., свіней—на 79 проц., авечак—на 81 проц. План гадоўлі матак буйнай рагатай жывёлы выканан на 77,7 проц., свіней—71,5 проц., авечак—88 проц.

Такі стан жывёлагадоўлі абавязвае палітаддзел МТС, райком партыі, усю партарганізацыю Жлобінскага раёна, совецкія арганізацыі, калгасы, калгаснікаў і аднаасобнікаў яшчэ з большай напружанасцю і большэвіцкай упартасцю змагацца за развіццё жывёлагадоўлі, на справе забяспечыць выкананне пастаўленай партыяй і ўрадам задачы—падняць і развіць жывёлагадоўлю, памятаючы, што план развіцця жывёлагадоўлі абавязковы для выканання як і план пасеву, што „выкананне дзяржаўнага плана развіцця жывёлагадоўлі павінна стаць у цэнтры ўвагі ўсіх партыйных і совецкіх арганізацый і служыць важнейшым сродкам мабілізацыі работнікаў соўгасаў, калгаснікаў і аднаасобнікаў вакол задачы развіцця жывёлагадоўлі" (з пастановы чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б)).

* * *

Стварэнне новай соцыялістычнай арганізацыі працы, соцыялістычнай працдысцыпліны—гэта задача ў калгасах мае ў сучасны момант выключную палітычную важнасць.

Гэту задачу можна вырашыць, толькі сапраўды ўзначаліўшы актыў, заваяваўшы большасць і выгнаўшы з калгасаў антысовецкі, кулацкі элемент. „Прыняць на сябе адказнасць за работу, дапамагчы калгаснікам весці сваю гаспадарку ўперад на падставах даных навукі і тэхнікі" (**Сталін**) значыць уваходзіць ва ўсе дэталі калгаснай вытворчасці: аўладаць тэхнікай арганізацыі калгаснай працы, правільна планаваць гаспадарку калгаса, узброіцца агратэхнікай, штодзенна весці крапатлівую масавую арганізацыйную работу для развіцця спаборніцтва

і ўдарніцтва, для выяўлення і згуртавання лепшых калгаснікаў вакол партыі і павесці за сабою ўсю калгасную масу на выкананне дырэктыў партыі і ўрада.

У практычнай рабоце на гэтым участку мы шчыльна падышлі да арганізацыі працы ў калгасах. Разварот работы з брыгадзірамі, звеннёвымі, з брыгадай у цэлым паказаў нам, што тут асабліва трэба папрацаваць. Разбуйнілі брыгады там, дзе яны былі вялікія. Там, дзе не было брыгад (дробныя калгасы),—стварылі. У аснову былі пакладзены ўказанні тав. Кагановіча: „Дзе ва ўсім калгасе 50—60 работнікаў, мэтазгодней стварыць маленькую брыгаду ў 20—25 работнікаў так, каб было 2—3 брыгады на калгас. Гэтым дасягаецца палепшанне якасці кіраўніцтва брыгадамі. Разам з тым арганізацыя 2—3 брыгад у калгасе палегчыць вядзенне соцспаборніцтва між імі, дапаможа праўленню калгаса падхліснуць адстаючыя брыгады прыкладам передавых".

Брыгады створаны па вытворчаму прынцыпу і маюць вытворчыя планы на год, рабочыя планы на сельскагаспадарчую кампанію: сяўба, уборка сена, уборка і пастаўкі хлеба, бульбы. Аднак гэта не значыць, што пры вырашэнні гэтых пытанняў работа ў брыгадзе праходзіць гладка, без супярэчнасцей.

Так у калгасе „Эрштэр май" патрацілі шмат часу на падзел інвентара і цягавай сілы паміж брыгадамі, брыгадзіры два дні дзялілі інвентар і коней, два дні спрачаліся за кожнага моцнага каня, добры воз, дзень адводзілі ўчасткі зямлі пад веснавую сяўбу.

Брыгады ў калгасе былі скалочаны не кепска. Гэтаму не мала садзейнічала тое, што пытанне аб брыгадзе было распрацавана на курсах. Але тут атрымаўся буйны недахоп: у размеркаванні вытворчых участкаў амаль усе калгасы пашлі па больш лёгкім шляху і пачалі дзяліць па брыгадах культуры, шукаючы для іх месца ў полі з лепшым папярэднікам. Вытворчыя ўчасткі зямлі ў калгаснай брыгадзе аказаліся няпоўныя, раскіданыя ў многіх кавалках.

Замацаваць вытворчыя ўчасткі па брыгадах на час севазвароту—гэта значыць замацаваць іх не менш як на 5—7 год, гэта значыць ліквідаваць штогодні падзел зямлі па брыгадах. У калгасах, дзе ўводзіцца севазварот, і гэта пытанне вырашаецца, але там, дзе няма цвёрдага севазвароту, пытанне аб вытворчых участках яшчэ не вырашана. Над ім трэба папрацаваць аграномам, землямерам і паліт-работнікам.

У справе павышэння прадукцыйнасці працы ў калгасе не малую ролю іграе гадавое вытворчае заданне. Гадавое заданне брыгадзе—гэта аб'ём работ брыгады на ўвесь сельскагаспадарчы год. Без папярэдняга вызначэння гэтага аб'ёму работ (гадавога вытворчага задання) нельга правільна арганізаваць брыгаду, нельга па сутнасці прыступіць да работы. Таму па ўсіх калгасах намечаны былі канкрэтныя задачы, якіх патрэбна дабівацца к канцу года, і ў першую чаргу: тэрміны сяўбы, уборкі, паставак і т. д.

У аснову арганізацыі звяна калгасы кладуць вытворчае заданне. Вытворчае заданне вызначаецца, выходзячы з агульнага плана работ і тэрмінаў сяўбы, уборкі, прапалкі і якаснай апрацоўкі. Гэты план работы звяна заўсёды залежаў ад наяўнасці той ці іншай колькасці прылад вытворчасці, або машын.

Брыгадзір калгаса „Чырвоны Жлобін"—тав. Котаў—у газеце паліт-аддзела „Чырвоны трактарыст" расказвае, як у час сенакосу ён расставіў свае сілы:

„54 чал. маёй брыгады я разбіў на 4 звяны. У 1 і 2-ім звяне—па 14 чал., а ў 3 і 4 па 13 чал. За кожным звяном замацаваны пэўныя ўчасткі сенажаці і патрэбная колькасць інвентара. План уборкі сена распрацован паміж звеннямі так, што кожнае звяно загадзя ведае, на якім участку што рабіць.

У 1 і 2 звяне па 1 касілцы і 1 конных граблях. Гэтыя два звяны павінны скасіць па 35 *га*. Касілкай і граблямі будуць працаваць калгаснікі, якія ведаюць іх. Па 9 чал. у гэтых звеннях будуць заняты на сушцы сена, складанні ў снапы і падвозцы коп да месца стаўкі стагоў, а 3 чал. будуць ставіць стагі. Такім чынам, 1 і 2 звяно скосяць і ўбяруць 70 *га* сенажаці.

3 і 4 звяно без машын павінны скасіць і ўбраць па 15 *га* сенажаці кожнае, прычым, 9 касцоў з кожнага звяна, скончыўшы касьбу, будуць заняты на падвозцы копен і стаўцы стагоў, а 4 чал. на сушцы сена.

Для возкі копен ва ўсіх чатырох звеннях па трое коней. Пачнем касьбу з 25 чэрвеня, а закончым 5 ліпеня. Нормы выпрацоўкі на адну касілку ў дзень па 3,5 *га*, на 3 касцоў—1 *га*, а на 9 чалавек—3 *га*. Зграбанне сена коннымі граблямі—па 4 *га* ў дзень.

На ўсю касьбу і ўборку сена брыгада траціць не больш 605 працадзён."

Гэта планаванне цалкам і поўнасцю сябе апраўдала. Котава брыгада скончыла сенакос у 10 дзён Каб арганізатарам працы быў там брыгадзір, які-б не ўмеў расставіць сілы пры гэтых тэхнічных сродках, мы мелі-б іншы малюнак.

Да пачатку ўбо кі ў кожнай брыгадзе быў складзен аперацыйны план уборачных работ: убраць ячмень у 2—3 дні, жыта ў 5—6 дзён. Уся рабочая сіла ў брыгадах разбіта была на звенні. У кожным звяне ўведзена індывідуальная, або дробна-групавая здзельшчына: 2—3, рэдка 5 чалавек. Кожнаму звяну адведзен участак для пасеваў. Перадавыя калгасы вылучылі ўдарныя і маладзёжныя звенні.

Калгасы ўбралі зернавыя ў самыя кароткія тэрміны. Пры ўборцы снапоў з поля многія з іх працавалі па некалькі сутак падрад.

У большасці калгасаў вязальшчыцы снапоў мелі ручныя граблі для падграбання каласоў. На збор каласоў уручную мабілізаваны былі піонеры і школьнікі.

Амаль ва ўсіх калгасах праведзена прыёмка палёў разам з прадстаўнікамі МТС.

Аднак, не гледзячы на паспяховы ход уборкі, некаторыя калгасы ў пагоні за тэмпамі забыліся пра барацьбу са стратамі ўраджаю: убіралі каласы позна, толькі коннымі граблямі. З-за гэтага частка ўраджаю загінула ў полі („Дзержынскі," „Орка", „Днепроўскі"). У час малацьбы не расчысчалі току, не пратрасалі як след саломы, што выходзіць з малатарні. Усё гэта спрыяла стратам часткі ўраджаю. Выпадкі страт былі выкрыты ў калгасах „Яркі шлях", „XII-годдзе Окцябра", „Завадны" і ў радзе іншых.

Барацьба са стратамі з першых-жа дзён не была як след арганізавана. Сбор калосся адкладваўся да вязкі снапоў, а дзе-ні-дзе і да звозкі. Аб ручным падбіранні калосся не клапаціліся. У калгасе „За-

вадны“ забылі пра рашэнне ЦК аб абавязковай вязцы снапоў і рашылі непавязаны ў снапы ячмень вазіць адразу з поля пад малацілку. Але справа гэта ў іх сарвалася: 4 га раскіданага па полі, непавязанага ячменю папалі пад дождж.

Рад калгасаў дапусціў разрыў паміж жнівом і вязкай снапоў. У калгасе „Чырвоны партызан“ 70 га непавязанага жыта, а ў „Завадным“—60 га ляжалі на полі 7—10 дзён.

Сістэматычныя выезды работнікаў палітаддзела МТС, дасканалая праверка якасці работы на месцы, гутаркі з інспектарамі якасці, брыгадзірамі і старшынямі калгасаў, членамі партыі і комсамольцамі зрабілі пералом у барацьбе са стратамі.

На першым этапе ўборкі зернавых рад калгасаў дапусціў памылкі таксама і ў арганізацыі працы. У „Чырвонай рошчы“, а часткова і ў калгасе імя Косарава, звенні на ўборцы зернавых і лёну складаліся па родзічна-падворнаму прынцыпу: жне маці з двума дачкамі і нявесткай і т. д.

Такі парадак не стымулюе росту прадукцыйнасці працы, умацаванню грамадскай соцыялістычнай дысцыпліны, і з ім трэба рашуча пакончыць.

У аснову арганізацыі звяна кладзецца камбінаванае звяно.

Камбінаванае звяно ёсць буйны крок уперад у справе арганізацыі калгаснай працы, у павышэнні яе прадукцыйнасці. Камбінаванае звяно ліквідуе абязлічку ва ўборцы пасеўных плошчаў, канцэнтруе сілы брыгады ў невялікім коле людзей, маючых вытворчае заданне не толькі на дзень, а на выкананне пэўных відаў робот, як напрыклад, жніво, вязка снапоў, складанне іх у бабкі і скірдаванне. Гэты прынцып сябе ўсебакова апраўдаў, што асабліва ярка і наглядна паказала практыка ўборкі сенакоса.

Трэба абмеркаваць і ўстанавіць цвёрды план, вызначыць тэрміны пачатку і канца сяўбы, пачатку і канца ўборачных работ, даць прадуманае заданне кожнаму звяну, брыгадзе на кожны дзень, на пяцідзёнку, увечары праверыць выкананне і вызначыць кожнаму звяну як і колькі трэба зрабіць.

Патрэбна правільная расстаноўка партыйных сіл, скарыстанне кожнага работніка па яго кваліфікацыі, здольнасці, канкрэтнае кіраўніцтва кожным звяном, разгортванне масавай работы ў звяне, брыгадзе, спаборніцтва брыгады і звяна, індывідуальнае спаборніцтва.

Трэба забяспечыць, каб інвентар і цягавая сіла былі ў добрым стане, дабіцца правільнай нагрузкі на кожнае цягло, каб калгаснікі добра ведалі свае нормы выпрацоўкі і імкнуліся не толькі выконваць, але і перавыконваць іх, каб брыгадзір ведаў асновы агратэхнікі. Пры такіх умовах кожная калгасная брыгада і калгас у цэлым своечасова і добраякасна выканаюць свой вытворчы план.

* * *

„Уся задача ў тым, каб гэтых людзей, якія стаяць нярэдка ў цені, часам менш іншых выступаюць, але затое непамерна больш іншых крыклівых хварэюць за калгасную справу, каб гэтых добрасумленных працаўнікоў вывудзіць, скалаціць на вырашэнне канкрэтных гаспадарчых пытанняў, а галоўнае—звязацца з імі, прыцягваць да абгаварэння ўсіх дробных і вялікіх пытанняў жыцця калгаса, максімальна скарыстоўваючы іх гаспадарчы

вопыт і вытворчую ініцыятыву. Гэта і ёсць тое, што завецца большэвіцкай работай з беспартыйным калгасным актывам" (Постышэў).

З гэтага рэзерва мы чэрпаем не адзін дзесятак і не адну сотню лепшых работнікаў социялістычных палёў і рэкамендуем іх на кіруючую работу.

**Вішнеўскі**—брыгадзір трактарнага атрада. Мінулай вясною ён першы раз сеў на трактар. Добрасумленныя, уважлівыя, чэсныя адносіны да працы вылучылі яго ў рады лепшых трактарыстаў. За год ён ауладаў трактарамі „ФП" і ХТЗ". Гэтай вясною ён ужо памочнік, а потым брыгадзір трактарнага атрада. Не глёдзячы на напружаную работу ў полі, аблажыўся падручнікамі, каб асвоіць трактар тэарэтычна.

**Цярэшчанка**—чэсная праца, дапамога палітаддзела і дырэкцыі МТС зрабілі з яго кваліфікаванага механіка-практыка, не кепска уладаючага тэорыяй справы. Мала таго, два гады работы Цярэшчанкі на курсах трактарыстаў спрыялі таму, што з яго вышаў незамянімы педагог, які ўмее перадаваць свае веды любому калгасніку і за 3—4 месяцы падрыхтоўвае добрага трактарыста.

У атрадзе Цярэшчанкі машыны не ведаюць вымушаных паломак і простояў.

**Бераснёў Платон**—лепшы трактарыст брыгады № 1. Да работы адносіцца сапраўды па-ўдарнаму. Пры заданні ў 2,8 га ў дзень Бераснёў сістэматычна добраякасна выконвае норму да 3,25 га.

Кадры—рашаючае пытанне ў барацьбе за большэвіцкія калгасы, за заможнага калгасніка. Важна, каб старшыня калгаса, брыгадзір адчувалі сябе кіраўнікамі, ведалі справу і ўмелі кіраваць. Не менш важна, каб калгаснікі паважалі свайго кіраўніка, прызнавалі за ім права на кіраўніцтва. А гэтага нельга дасягнуць самацёкам.

Пытанне аб вытворчай кваліфікацыі, палітычнай узброенасці, павышэнні тэарэтычнага ўзроўню кіруючых кадраў—рашаючае пытанне. Таму ў раёне сур'ёзна ўзяліся за падрыхтоўку кадраў.

Уласнымі сіламі правялі курсы старшынь калгасаў на 38 чал., брыгадзіраў на 43 чал., трактарыстаў на 33 чал., сакратароў комсамольскіх ячэек на 22 чал., прапагандыстаў на 10 чал., курсы пам. брыгадзіраў жанчын на 32 чал., а разам з імі за гэты час і самі мы павысілі сваю кваліфікацыю.

На адказную работу сталі высоўваць радавых калгаснікаў і калгасніц.

**Ліснеўская, Філаметава, Юдзянцова**—да веснавой пасеўнай кампаніі радавыя калгасніцы. Ліснеўскую і Філаметаву вылучылі старшынямі, а Юдзянцову—брыгадзірам у перадавым калгасе імя Косарава. Калгас раней усіх скончыў сяўбу. У сенакосе і сенапастаўках брыгада Юдзянцовай аказалася сярод перадавых. Не адстаюць і калгасы Ліснеўскай і Філаметавай.

Рост Філаметавай пачаўся з чэснай работы ў калгасе, з адданасці калгасу, жадання ауладаць тэхнікай, а ў гэтым яна знайшла дапамогу палітаддзела. Шлях Філаметавай і Ліснеўскай паўтараюць многія калгасніцы і калгаснікі.

Пам. брыгадзіра калгаса „Чырвонае Александрава" піша:

„Наш калгас „Чырвонае Александрава", Мурмальскага сельсовета, арганізаваўся толькі вясною гэтага года. Пры разбіўцы калгаснікаў на брыгады мяне вылучылі пам. брыгадзіра бры-

гады № 2. Спачатку я не ведала, за што брацца. Але першай задачай я паставіла перад сабою: сачыць за нарадамі, якія даваліся брыгадзірам па звеннях, добра сачыць за якасцю. З усім гэтым я спраўляюся добра. Для таго, каб калгаснікі маёй брыгады працавалі прыкладна, я з імі сама працую на полі, і сваім прыкладам вучу іх працаваць. На праполцы выпрацоўваю па 1,5 працадні. Якасць работы калгасніц маёй брыгады старшынёю Маркоўцавым ацэнена на вельмі добра".

Падобныя прыклады ўжо не адзінкі, а з кожным днём растуць і павялічваюцца.

У пасеўкампанію гэтага года, у час уборкі, асабліва шырока разгарнулася соцспаборніцтва: калгас з калгасам, брыгада з брыгадай, звяно з звяном дабіваліся агульнага ўздыму ў рабоце, які асабліва шырока разгарнуўся ўвесну. Работа ішла ў дні пасхальныя і троіцкія, толькі-б засеяць раней і лепш, атрымаць высокі ўраджай.

У конкурс, аб'яўлены „Звяздой" і палітсектарам, уключыліся ўсе брыгады. Совет МТС 13|V, абгаварваючы вынікі сяўбы, вылучыў на ўсебеларускі конкурс 5 брыгад лепшых калгасаў:

Інтэрнацыянальны калгас „Эрштэр май", які закончыў сяўбу 29 красавіка, дапамогшы іншым калгасам і соўгасам у парадку грамадскага буксіра. Выдзелілася брыгада № 2 з брыгадзірам **Гардуленка.**

Вялікую ролю ў якасці сяўбы адыграў інспектар па якасці— старык 64 год **Рагаўцоў Ілля**, які не прапусціў ні аднаго га пасеву без дасканалай праверкі. Брыгада штодня давала вытворчыя заданні звенням, у звязку з чым выходзілі на работу з усходам сонца, а канчалі пасля захаду.

Калгас „Новае жыццё", Бухарынскага с.-с., закончыў яравую сяўбу к 1 мая, засеяўшы звыш плана 25 га і дапамогшы спаборнічаючым калгасам. Радковым спосабам засеяны ўсе зернавыя.

Кіраўнікі, брыгадзіры і калгаснікі-ўдарнікі зоны дзейнасці МТС прэміяваны за датэрміновае і добраякаснае сканчэнне сяўбы.

Старшыню калгаса „Эрштэр май" тав. **Рэўзіна** прэміявалі пасылкай на курортнае лячэнне. Для прэміявання лепшых брыгадзіраў і калгаснікаў-ударнікаў у распараджэнне праўлення калгаса перадана 250 руб.

Старшыню калгаса „Новае жыццё" тав. **Дзеружэнка** прэміявалі 75 руб. і калгаснікаў 125 руб. Брыгадзіра калгаса „Шыхаў", Страшэнскага с.-с., тав. **Юдзянцову Парасю**—100 руб.

На дасягнутых поспехах нельга аднак супакоіцца, бо побач з добрымі, станоўчымі прыкладамі яшчэ не мала недахопаў у рабоце паасобных брыгад, у трактарным парку, асабліва ў кіраўніцтве калгасаў.

У час падрыхтоўкі да веснавой пасеўкампаніі і ў працэсе пасеўнай знята 13 старшынь калгасаў, механік, слесар, дзесяткі брыгадзіраў, канюхоў за класава-варожую кулацкую работу, за няўменне працаваць і т. д.

**Фіськоў**—былы старшыня калгаса „Войкава", у мінулым член партыі, а яшчэ раней гандляр, асуджаны на 10 год, давёў гаспадарку да развалу, пагноіў ураджай. Гультаі, п'яніцы і бракаробы— трактарысты **Уклейкін і Гапонаў**—за дрэнныя адносіны да працы, за п'янкі і паломку трактара „ХТЗ" зняты з працы, справа іх накіравана следчым органам для прыцягнення да адказнасці.

Барацьба за працоўную дысцыпліну разгарнулася ў розных формах: масавыя сходы па калгасах, масавая палітычная работа, арганізацыя соцспаборніцтва, друк і т. д., вымовы, штраф і т. п.

Барацьба за соцыялістычную дысцыпліну працы—гэта класавая барацьба супроць дробнабуржуазнай разбэшчанасці, супроць лодыра, разгільдзяя, рвача, прагульшчыка, шкодніка, кулака, дэзарганізуючага калгас.

„Працуй па-ўдарнаму, падцягвай адстаючых, дабівайся агульнага ўздыму“—гэты лозунг тав. Сталіна з'яўляецца адной з рухаючых сіл высокіх тэмпаў, высокай якасці работы калгасаў, калгасных брыгад і калгаснікаў.

У кожным калгасе выявілася група ўдарнікаў, якія з'яўляюцца застрэльшчыкамі і перадавікамі ў барацьбе за тэмпы, за якасць сяўбы, праполкі, уборкі, паставак дзяржаве. Замацаваліся формы арганізацыі і праверкі ўдарніцтва і соцспаборніцтва, выклікі перадавымі адстаючых калгасаў, чырвоныя і чорныя дошкі, кніжкі ўдарнікаў, паказ лепшых ударнікаў у друку, прэміі.

Соцспаборніцтва і ўдарніцтва—гэтыя моцна заваяваныя метады соцыялістычнай працы—ёсць вялікае праяўленне свядомай соцыялістычнай дысцыпліны ў працы сярод шырокіх мас калгаснікаў.

Разварот соцыялістычнага спаборніцтва класавы вораг сустрэў у штыхі. Супраціўленне класавага ворага на гэтым участку класавай барацьбы выявілася ў самых жорсткіх формах: пакража трактарных частак у лепшых прэміяваных трактарыстаў для падрыву іх работы, зрыў плакатаў у МТМ, дэзарганізацыя работы лепшых звенняў, пагроза забойствам брыгадзіру калгаса „Чырвоны дуб“ і т. д.

Вылазкам класавага ворага на гэтым участку далі рашучы адпор. За апошнія месяцы вычышчана з калгасаў да 30 чал. класава-варожых элементаў, а таксама парушальнікаў дысцыпліны.

Арганізатарскай і растлумачальнай работай усёй партыйнай арганізацыі і комсамола, прэміяваннем і вылучэннем лепшых ударнікаў-калгаснікаў на кіруючую работу, ліквідацыяй наскокаў класавага ворага на ўдарнікаў мы дабіліся таго, што ўдарнік стаў паважанай фігурай, а на працы ў звяне, у брыгадзе, калгасе, трактарнай брыгадзе—вядучым.

Нашы поспехі ў галіне соцспаборніцтва і ўдарніцтва з'яўляюцца першым буйным крокам наперад. Яшчэ зараз мы знойдзем дзесятак калгасаў, пераважна дробных, дзе соцспаборніцтва праводзіцца фармальна: „Чырвоны гарадок“, „Перамога“, „Чырвоны баpэц“, „Чырвоная рошча“, „Дняпроўскі“ і рад іншых. Выклікі перадавых калгасаў яны прымаюць, зачытваюць на агульных сходах, але ўключаюцца ў соцспаборніцтва фармальна. Тут няма і ўнутрыбрыгаднага спаборніцтва, няма праверкі, няма сапраўднай працоўнай дысцыпліны. Уперадзе яшчэ вялікая работа: **трэба падцягнуць адстаючыя калгасы, каб усе яны сталі перадавымі.**

* * *

Рашаючую ролю ў правядзенні работ другога этапа сельскагаспадарчага года адыгралі калгасніцы. Асноўным зместам усёй масава-палітычнай работы сярод калгасніц была барацьба за высокаякасную праполку, 100 проц. выхад на работу, лепшую арганізацыю жаночай працы ў брыгадзе. Разгортванне палітычна-масавай работы сярод жанчын калгасніц забяспечыла нам павышэнне працоўнай дысцыпліны,

своечасовы выхад на работу, за выключэннем 2—3 калгасніц („Чырв. ніва", „На варце").

У гэтым годзе былі лепш пастаўлены сілы калгасніц на прапалцы. Работу арганізавалі па прынцыпу звенневай і індывідуальнай здзельшчыны, што ў большасці калгасаў спрыяла перавыкананню норм.

У чэрвені адбыўся раённы злёт ударніц-калгасніц. У кожным іх выступленні адчувалася, што маса калгасніц уваходзіць зараз ва ўсе дэталі работы, адчувае сябе поўнацэнным, поўнапраўным гаспадаром калгаснага будаўніцтва.

Выхаваныя палітаддзелам МТС лепшыя ўдарніцы-калгасніцы на кіруючай рабоце цалкам сябе апраўдалі.

**Філаметава Аўдоцця**—старшыня калгаса „Перамога", у мінулым радавая калгасніца. Прыступаючы да сяўбы бульбы, яна выявіла, што ў капцах не хапае 1 000 пудоў бульбы для поўнага засеву вызначанай планам МТС плошчы. Віною ў гэтым—кулацкая палітыка зняттага з работы былога старшыні калгаса—Шэўчука. Але Аўдоцця не спасавала. Неадкладна паставіла пытанне аб мабілізацыі насеннай бульбы сярод калгаснікаў. Частка бульбы пазычана была ў калгаснікаў, частка ў іншых калгасах, і такім чынам план пасеву бульбы поўнасцю быў выканан, а ўся веснавая сяўба паспяхова скончана к 10 мая. Поўнасцю закончан сенакос, уборка зернавых праведзена высокаякасна.

**Ліснеўская Петрунеля**—старшыня калгаса „Маяк"—прыняла калгас са слабай цягавай сілай, але веснавую сяўбу закончыла к 5 мая, тым часам як рад другіх калгасаў справіўся толькі к 10 мая.

У выніку вялікай арганізатарскай работы сярод калгасніц мы маем зараз у складзе праўленняў калгасаў 65 калгасніц, у рэўкамісіях—36, пам. брыгадзіраў паляводчых садовагародніх брыгад—60 калгасніц.

На гэты жаночы калгасны актыў палітаддзел МТС апіраецца ў сваёй штодзённай практычнай рабоце, каб весці за сабою ўсю масу калгасніц на паспяховае выкананне ўсіх гаспадарча-палітычных задач.

Вялікая ўвага ва ўсёй палітычна-масавай рабоце ўдзелена бытавому абслугоўванню калгасніц. Калі ў мінулым годзе ў калгасах зоны МТС працавала ўсяго 13 калгасных ясель і пляцовак, то ў гэтым годзе яны намечаны яшчэ ў 23 калгасах, прычым 17 з іх працуюць з красавіка і 6 адчыняюцца ў пачатку жніўня. Зараз у гэтых яслях і пляцоўках мы маем 760 дзяцей. Наша баявая задача—узорна паставіць работу гэтых устаноў.

* * *

Газета палітаддзела закранае самыя блізкія калгасніку пытанні. У гэтым—яе сіла. У газеце адлюстравана творчасць і жыццё калгасаў, відны жывыя людзі, іх роля і ўдзельная вага ў калгасе. Паказан лепшы вопыт у рабоце, перадавы ўдарнік. Заклеймен лодыр, класавы вораг. Не раз прыходзілася наглядаць, як старшыня, ці брыгадзір, атрымаўшы кіпу газет на свой калгас ці брыгаду, у першую чаргу выцягвае з яе газету „Чырвоны трактарыст". Газета абрасла актывам рабселькораў, якіх налічваецца ўжо 60 чалавек.

Работа з селькорамі разгарнулася ў рознастайных формах. Пісьмовая сувязь і гутаркі на месцы ў калгасах значна актывізавалі селькораў і калгасны актыў. Узрасла пільнасць селькораў: аб кожным прарыве, класава-варожай вылазцы ў калгасах зараз-жа

сігналізуюць палітаддзелаўскай газеце. Аб дрэннай рабоце жывёлагадоўчай фермы калгаса „XII-годдзе Окцябра“ паступіла 9 дописаў, аб вылазцы класавага ворага ў калгасе „Перамога“ за кароткі час паступіла 6 сігналаў, аб дрэннай рабоце брыгадзіра Шаўцова з калгаса „Серп і молат“ ад раду селькораў паступіла 7 допісаў у адзін і той-жа дзень.

Калгаснікі і селькоры па-баявому вялі барацьбу за большэвіцкую падрыхтоўку і правядзенне веснавой сяўбы, уборачнай, за развіццё жывёлагадоўлі.

Вялікую ролю адыграла папулярызацыя новага віду аперацыйнай газеты „Тэлеграма-маланка“.

Рэдактар газеты калгаса „Серп і молат“ расказвае:

„Калгасную газету мы выпускаем праз кожныя 3—5 дзён. Але гэта нас цалкам не здавальняе. Таму акрамя яе пачалі выпускаць газету „Тэлеграма-маланка“ ў маленькім памеры — часта абмяжоўваемся 1—2 кароткімі артыкуламі з указаннем канкрэтных фактаў, на якія патрабуем неадкладнага рэагавання.

На тое, каб напісаць і аформіць „Тэлеграму-маланку“, ідзе не больш 20—25 мінут. Афармляем яе так: звычайнымі чарніламі пішам вялікімі літарамі загаловак „Тэлеграма-маланка“, ніжэй падпісваем „усім калгаснікам, копія палітаддзелу“, а пад змешчаным матэрыялам ставім подпіс рэдактара і час выпуску тэлеграмы.

Вельмі карысна змяшчаць маленькія рысункі. Усім калгаснікам нашага калгаса надзвычайна спадабаўся такі тып газеты. Праз „Тэлеграму-маланку“ мы дабіліся хуткага рэагавання на допісы. Вось, напрыклад, аднаго дня цяляты стаялі да 9 гадзіны раніцы някормленыя. Старшыня калгаса адсутнічаў, а кармоў ніхто не выдаў. Мы выпусцілі „Тэлеграму-маланку“, і мінут праз 20 цяляты былі накормлены.

Такія з‘явы больш не паўтараліся. Другі прыклад: мінеральнае ўгнаенне раскідвалі па полі няроўнамерна, што шкодзіць пасеву. Была выпушчана „Тэлеграма-маланка“, і праз дзесяць мінут угнаенне было раскідана як належыць.

„Тэлеграму-маланку“ мы мяркуем выпускаць не толькі ў паляводчых брыгадах, але і на жывёлагадоўчай ферме“.

Лепшыя ўзоры арганізацыі нізавога друку паказалі рэдкалегіі калгасаў „Серп і молат“, „Чырв. Горкі“, „Перамога“, імя Войкава.

Наколькі друк стаў масавым, стаў рухаючай і арганізуючай сілай,— расказваюць калгаснікі калгаса „Чырвоныя Горкі“.

„Мы, калгаснікі-селькоры калгаса „Чырвоныя Горкі“, Бухарынскага сельсовета, сабраўшыся па пытанню аб дні большэвіцкага друку, шырока абгаварылі нашу палітаддзельскую газету і брыгадную газету нашага калгаса.

Селькоры і прысутныя калгаснікі горача вітаюць газету „Чырвоны трактарыст“, а таксама ўхваляюць работу нашай брыгаднай газеты.

Дзякуючы палітаддзелу і газеце „Чырвоны трактарыст“ наш калгас з адстаючага вышаў у рады перадавых“.

Селькораўскім допісам палітаддзел удзяляе асобую ўвагу, на кожны допіс дабіваецца рэагавання. У гэтым значна дапамог нам „Лісток рэагавання“. Кожны допіс, які патрабуе рэагавання, мы перш

за ўсё змяшчаем на такі лісток і дасылаем на месца. адказ атрымліваем не пазней як праз 5 дзён.

Правялі рэйд па рэагаванню на допісы, і аказалася, што найгорш пастаўлена справа ў нарсудзе: там нават не абараняюць інтарэсаў селькораў і нізавога друку. З паданых двух спраў аб ганенні на селькораў адна—пагроза забойствам—у нарсудзе зусім згублена, другая дадаткова дасланана расследванне, але і пасля паўторнага расследвання факта зрыву насценгазеты і пагрозы забойствам рэдактара справе не надалі належнага палітычнага значэння.

Ва ўсёй практычнай рабоце за апошнія паўгода наша газета максімум увагі аддавала папулярызацыі рашэнняў XVII партз'езда, мабі ізуючы калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў на большэвіцкае правядзенне гаспадарча-палітычных кампаній. Газета своечасова папулярызавала конкурс калгасных брыгадзіраў, конкурс жывёлагадоўчай фермы, з нумара ў нумар вядзе барацьбу за ажыццяўленне кожнай умовы конкурса.

* * *

Пасля прапрацоўкі пастановы ЦК ВЛКСМ аб становішчы беларускага камсамола мы дабіліся павышэння ролі комсамольскіх ячэек у цэлым і кожнага комсамольца паасобку. У сучасны момант, хоць не цалкам, але дабіліся рашучага ачышчэння комсамольскіх радоў ад чуждых элементаў і тым самым павысілі класавую боездольнасць комсамольскай арганізацыі і кожнага комсамольца. Мы маем факты, калі комсамольцы з'яўляліся ініцыятарамі выяўлення кулацкіх элементаў і ачышчэння ад іх калгасаў (комсамольская ячэйка калгаса імя Косарава, „Ударнік“, „Чырвоны партызан“ і інш.).

Да ячэек, дзе ўзорна пастаўлена работа, адносіцца комсамольская ячэйка калгаса імя Косарава, якая па праву лічыцца адной з лепшых ячэек нашай зоны і раёна. Пры дапамозе комсамольскай ячэйкі палітаддзелам былі вычышчаны з калгаса кулацкія элементы, і калгас стаў адным з лепшых, своечасова выконваючы ўсе абавязкі перад дзяржавай і МТС. Комсамольская ячэйка—ініцыятар пабудовы клуба ў калгасе. Праведзена некалькі суботнікаў, і на атрыманыя грошы закуплена шафа з калгаснай бібліятэкай, партрэты правадыроў і т. д.

Усю зіму працавалі гурткі: драмгурток, палітгурток, агратэхгурток, асоавіяхіма і інш. Рэгулярна выпускаецца насценная газета.

Комсамольская ячэйка працуе не толькі ў сваім калгасе, але дапамагае іншым калгасам у выкананні гаспадарча-палітычных задач. Мінулай зімой некаторыя аднаасобнікі і пасёлкі сельсовета дрэнна выконвалі ільназагатоўкі, комсамольская ячэйка склікала членаў сельсовета свайго калгаса на нараду і разам з комсамольцамі распрацавала план дапамогі сельсовету. Паслалі брыгаду комсамольцаў на адстаючы ўчастак пасёлка „Каменка“. Брыгада працавала двое сутак і поўнасцю выканала план ільназагатовак у гэтым пасёлку.

Падобныя мерапрыемствы праведзены былі ячэйкай у адносінах прыліву і арганізацыі новых калгасаў. Сваімі сіламі, пры актыўнай дапамозе сельсовета, ячэйка арганізавала з 16 гаспадарак новы калгас імя „XVII партз'езда“.

Аналагічныя прыклады добрай работы паказала комсамольская ячэйка калгаса „Эрштэр май“, Папаратнянскага сельсовета.

Комсамольская ячэйка „XI годдзя Беларусі“ стаіць на чале кіраўніцтва калгасам: старшыня—комсамолец, брыгадзір—комсамолец, 2 комсамольцы ў рэўкамісіі, астатнія—у брыгадзе.

* * *

Масавая работа, якую праводзіць партыя на вёсцы, дапамагла ўкараненню соцыялістычных метадаў працы ў калгасных масах. Спалучэнне масава-палітычнай работы з мерапрыемствамі арганізацыйнага парадку далі асабліва яркія паказчыкі ў барацьбе за большэвіцкія калгасы і заможнае жыццё калгаснікаў.

Аднак, дасягнутыя палітаддзелам поспехі—толькі пачатак, толькі першыя крокі ў яго настойлівай большэвіцкай рабоце, на якіх нельга супакоіцца.

Выкананне рашэнняў XVII з'езда ВКП(б), XV з'езда КП(б)Б, указанняў тав. Сталіна, рашэнняў чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) і ліпеньскага пленума ЦК КП(б)Б аб загатоўках і жывёлагадоўлі патрабуюць у далейшым яшчэ больш напружанай і ўпартай большэвіцкай барацьбы ўсіх партыйных арганізацый, палітаддзелаў МТС, совецкіх і зямельных органаў па мабілізацыі шырокіх мас калгаснікаў і аднаасобнікаў на ажыццяўленне гэтых рашэнняў і ўказанняў правадыра партыі тав. Сталіна. Палітаддзел у сваёй штодзеннай рабоце з неаслабнаю сілай вядзе барацьбу за ператварэнне гэтых рашэнняў у жыццё.

---

**Дындзін А.**

Нач. палітаддзела
саўгаса „Чырвоны маяк“

# Стварыць уласную кармавую базу свінасаўгасам

«Праблема жывёлагадоўлі з'яўляецца зараз такой-жа праблемай, якой была ўчора ўжо вырашаная з поспехам праблема зернавая» **(Сталін)**.

Беларусь найбольш багата свінагадоўчымі соўгасамі, таму іменна вырашэнне свінагадоўчай праблемы стаіць асабліва востра.

XVII з'ездам ВКП(б) і ліпеньскім пленумам ЦК КП(б)Б перад палітаддзеламі жывёлагадоўчых соўгасаў былі пастаўлены задачы: пераварыць соўгасы ў сапраўдныя ўзоры буйнай социялістычнай гаспадаркі, якія ўмеюць па-большэвіцку выкарыстаць перадавую, самую буйную ў свеце сельскагаспадарчую тэхніку і навейшыя дасягненні агразоатэхнічнай навукі, каб атрымаць добры прыплод, забяспечыць адкорм і захаванне маладняка, увесці палепшаныя пароды свіней, згодна цвёрда ўстаноўленаму плану развіцця жывёлагадоўлі.

Соўгас «Чырвоны маяк», узнікшы на месцы разбуранага маёнтка «Славянка», карыстаўся спачатку сумнаю славай.

Работа класавага ворага ў першыя гады будаўніцтва соўгаса дала сябе моцна адчуваць. У 1933 годзе было адразу завезена 380 свінаматак, пераважна імпартных. Свінарнікі будаваліся па шкодніцкаму праэкту Журыкава. Не было ўласнай кармавой базы. З вялікімі перабоямі прыходзілася вазіць корм з іншых абласцей і краёў. Аб жылых гаспадарчых будынках дырэктары маглі толькі марыць, бо доўгі час са сваімі спецыялістамі жылі ў сараях, халупах, у аднаасобнікаў і калгаснікаў.

Вытворчыя будынкі не закончаны ў большасці і зараз. Кошт будаўніцтва дасягнуў неймаверных лічб. Дашчатая сталовая барачнага тыпу абышлася ў 12.000 руб. і ўжо ў мінулым годзе знесена, бо прышла ў поўную нягоднасць. Пякарня каштавала 22.000 руб. (ужо разбурана), кантора барачнага тыпу 25.000 руб. Узорчык высокай маркі жульніцтва—прыбіральня, на якую па падліку «Сельбуда» затрачана 2.000 руб. Так не адна тысяча дзяржаўных сродкаў трапіла ў кішэні жулікаў і зладзеяў.

Аб палепшанні зямлі ніхто не думаў. Гной са свінарнікаў па тры гады не вывозіўся, не карысталіся пашанай севазварот, прапалка і іншыя агратэхнічныя мерапрыемствы.

Свінагадоўля, як асноўная галіна гаспадаркі, была ў поўным загоне. Сістэматычная цякучасць свінароў і змена загадчыкаў фермамі лічылася нармальнаю з'явай. У рэзультаце адыход маладняка ў 1932 годзе дасягнуў 63 проц. Найлепшы матачны склад амаль цалкам вышаў са строю.

Сярод рабочых і служачых квітнелі п'янка, зладзействa, безгаспадарнасць. Дзяржаўныя планы здачы мясапрадукцыі не выконваліся. Соўгас не выходзіў з прарыву.

Першы год работы палітаддзела зрабіў пералом у жыцці соўгаса і асабліва—свінагадоўлі. План здачы мяса быў выкапан на 104,5 проц. Адыход маладняка к 1 студзеня г. г. скараціўся да 28 проц. (у 1932 годзе было 63 проц.) Далейшая барацьба за мінімальны адыход дае нам новыя поспехі.

Соўгас узяў на сябе абавязацельства павялічыць агульнае пагалоўе больш як у 2 разы і здаць пролетарскай дзяржаве 1526 цнт. мяса, замест леташніх 720.

Сваю работу мы пабудавалі такім чынам, каб на справе даказаць рэальнасць нашага плана і забяспечыць новую перамогу.

Тав. Сталін вучыць нас, што рэальнасць плана—гэта жывыя людзі. Таму мы адразу пачалі сваю работу з вывучэння людзей, якім даручана забяспечанне краіны мясам. Заняліся арганізацыяй працы і расстаноўкаю сіл па брыгадах. Нас цікавіла, як рабочы ведае свае абавязкі, наколькі аўладаў тэхнікай, у якіх жыллёва-бытавых умовах жыве сам і яго сям'я, як яго абслугоўвае сталовая, кааперацыя, рабочком і т. д.

У рэзультаце ўсе рабочыя забяспечаны кватэрамі, гародамі, насеннем і сенакосам, 90 проц. рабочых маюць сваіх кароў і свіней. Усе кватэры цэнтральнай сядзібы радыёфікаваны, а к восені намечана радыёфікаваць рабочы пасёлак і ферму. Соўгас тэлефанізован.

Усё гэта дало нам магчымасць ліквідаваць цякучасць рабочай сілы, дабіцца сталага складу рабочых, значна лепш паставіць масавую работу, вывучыць людзей, выявіць чэсных, адданых справе, найлепшых ударнікаў, выкрыць зладзеяў, жулікаў, лодыраў, кулакоў, якія, пралезшы ў соўгас, імкнуліся ўзарваць яго знутры.

Уласнымі сіламі правялі вясеннюю сяўбу. У самы кароткі тэрмін убралі сена, і 30 ліпеня рапартавалі аб гэтым ЦК КП(б)Б. Прапалолі 160 га замест 71 га па плану трэста. Азімыя ў асноўным убралі за 6—7 дзён.

У мінулым годзе 60 проц. вясенняй сяўбы, 50 проц. уборкі зернавых і сена правялі сіламі калгасаў, а сёлета ў гэтай дапамозе соўгас не мае патрэбы.

Значныя поспехі ў паляводстве, параўнаўча з мінулым годам, ёсць рэзультат правільна арганізаванай палітаддзелам работы і сапраўднай большэвіцкай барацьбы за рэалізацыю ўказання тав. Сталіна на XVII партз'ездзе аб павышэнні ўраджайнасці, стварэнні ўласнай кармавой базы для жывёлагадоўлі.

**Ураджай** (у цнт. з га), **атрыманы соўгасам за апошнія тры гады:**

| | 1932 г. | 1933 г. | 1934 г. |
|---|---|---|---|
| Жыта . . . . . | 1,6 | 7 | 8 |
| Авёс . . . . . | 1,4 | 6 | 7 |
| Бульба . . . . | 12 | 50 | 70 |

Фактычна, паводле актаў вызначэння ўраджайнасці і вынікаў першага абмалоту, ураджай 1934 г. чакаецца значна большы.

Соўгасныя палі ўрадзілі сёлета лепш навакольных калгасаў, а з палямі аднаасобнікаў і параўнаць нельга. Не дарма прадстаўнікі кал-

гасаў ідуць да нас мяняць жыта на пасеў, каб атрымаць такі-ж ураджай.

Як паказаў вопыт гэтага года, выключна важнае значэнне ў поспеху сяўбы мае наяўнасць уласнага насення. Барацьба за ўласнае насенне павінна стаць азбукай для кожнага соўгаса, калгаса.

Асноўнай формай работы паляводчых брыгад было замацаванне за імі ўчасткаў, людзей, коней, інвентара, цвёрдыя нормы выпрацоўкі і здзельшчына.

Неад'емнаю часткай арганізацыі працы стала спаборніцтва і ўдарніцтва, якімі поўнасцю ахоплены рабочыя палявога цэха.

Ва ўсёй масавай рабоце палітаддзела асобае месца займаюць штодзенныя палітмінуты (15-мінуткі), якія праводзяцца раніцай перад выхадам у поле, каб абмеркаваць вынікі мінулага дня і намеціць канкрэтныя задачы на сёння, што добра мабілізуе работніка на выкананне свайго плана.

У час вясенняй сяўбы, уборкі сена і хлеба рэгулярна выходзілі брыгадныя сценгазеты з канкрэтным жывым матар'ялам аб жыцці і рабоце брыгад. Выдатная з'ява ва ўсёй рабоце соўгаса—гэта асабісты прыклад палітаддзельцаў на любым участку палявых работ, што ва ўсёй масавай рабоце яшчэ больш узнімае энтузіязм калектыва і гарантуе нам далейшыя поспехі.

Не меншыя поспехі дасягнуты асноўнай галіной соўгаснай гаспадаркі—свінагадоўчым цэхам. Правільна расстаўлены людзі па брыгадах і наладжан улік працы. Свінні ў брыгадах замацаваны за пэўнымі свінарамі. Адна гадзіна ў час абедзенага перапынку адводзіцца для тэхвучобы рабочых свінафермы. Разгорнуты соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Конкурс на права лепшай брыгады ўладаць сцягам палітаддзела даў за першае паўгоддзе наступныя рэзультаты:

Калі ў 1932 годзе адыход маладняка раўняўся 63 проц., а ў 1933 годзе, па сасунах,—38,6 проц. і ад'ёмышах 28 проц., то на 1 жніўня г.г. захаванне маладняка ў вытворчых брыгадах па групе сасуноў складае 88,9 проц., па ад'ёму 94,4 проц.

У паасобных брыгадах, як **Раманавай Дуні**, якая трымае чырвоны сцяг палітаддзела, захаванне сасуноў—92 проц. ад'ёму—97,5 проц. У брыгадзе **Маскалёвай**—адпаведна: 92 проц. і 93,9 проц. У брыгадзе Бадзеевай: 92,1 проц. і 97,7 проц.

**Даныя адыходу за ліпень (пала і прырэзана за месяц):**

| У брыгадах: | Сасуноў | | Ад'ёмышаў | |
|---|---|---|---|---|
| | штук | у проц. | штук | у проц. |
| Маскалёвай А. . . . . . | 2 | 0,7 | 12 | 8,3 |
| Шурновай Б. . . . . . | 4 | 1,1 | 7 | 5,9 |
| Раманавай Д. . . . . . . | 5 | 1,8 | 3 | 1,5 |
| Бадзеевай Д. . . . . . | 7 | 1,8 | 11 | 4,6 |
| Плотнікавай П. . . . . | 3 | 1,0 | 24 | 15 |
| Разам. . . . | 21 | 1,4 | 57 | 6,7 |

Паказчыкі за ліпень даюць новы вынік барацьбы за захаванне пагалоўя і асабліва сасуноў—1,4 проц. адыходу. Але ў паасобных брыгадах справы вельмі дрэнныя. Так, у Плотнікавай—15 проц. адыходу ад'ёмышаў. Галоўная бяда брыгады—параціф, недастатковая кваліфікацыя свінароў, нявопытны брыгадзір. Такім чынам, мы лішні раз пераконваемся, што справа толькі ў людзях. Падбор людзей, асабліва брыгадзіраў, патрабуе выключнай увагі.

Кожная свінарка змагаецца зараз за мінімальны адыход, бо добра ведае, што кожнае захаванае ёю парася ідзе пролетарскай дзяржаве, а разам з тым умацоўвае яе ўласнае матар'яльнае становішча.

Чэрвеньскі пленум ЦК ВКП(б) і ліпеньскі ЦК КП(б)Б абавязалі партыйныя арганізацыі соўгасаў паставіць так сваю работу, каб нагнарстаць упушчаны час і выканаць план здачы мяса дзяржаве.

Як мы забяспечваем рэалізацыю гэтага важнейшага рашэння партыі? Як мабілізавалі рабочы калектыў, каб на справе заваяваць першынства ў соцспаборніцтве паміж свінасоўгасамі СССР? Як усвоілі рабочыя рашэнні партыі і ўрада аб развіцці жывёлагадоўлі?

Работа адкормачных брыгад пабудавана такім чынам, што яны ведаюць свой план, калі і колькі належыць здаць дзяржаве ў лік мясапаставак, якую прывагу павінна даць любая адкормачная група і паасобна ўзятая галава. Для гэтага ўсё пагалоўе пранумаравана. Кожная галава ўзважваецца штодэкадна, каб улічыць як выконваецца план адкорму. Стада строга рэгулюем у групах па вазе. Вядзем нагляданне за кожнай групай і вывучаем прычыны, што ўплываюць на хістанне прывагі. Праводзім кастрацыю матак, уводзім у рацыён соль, арганізуем зялёныя выпасы і мінеральную падкормку. Ліквідавалі ялавасць матак. Усё пагалоўе рэгулярна мыем.

Усе гэтыя мерапрыемствы даюць магчымасць ужо больш дасканала вывучаць прычыны хістання прывагі, сачыць за тым, як работнікі брыгад змагаюцца за планавы прырост вагі, за поўнае выкарыстанне кармавой адзінкі.

**Рэзультаты дэкаднага ўзважвання свіней на адкорме па соўгасу «Чырвоны маяк» на 10/VII—34 г.:**

| Вагавыя групы адкорму. | 100—180 | 70—90 | 60—70 | 50—60 | 40—50 | 30—40 | да 30 *кгр* |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік галоў у групе . . . . . | 30 | 66 | 41 | 79 | 64 | 78 | 55 |
| Агульная жывая вага ў *кгр*.: | | | | | | | |
| а) у пачатку дэкады . . . . | 3325 | 5074 | 2624 | 4369 | 2848 | 2598 | 1222 |
| б) у канцы дэкады . . . . . | 3575 | 5425 | 2826 | 4647 | 3037 | 2809 | 1351 |
| Прырост за дэкаду ўсёй групы ў *кгр* . . . . . . . . . | 250 | 351 | 202 | 278 | 189 | 211 | 129 |
| На адну галаву за дэкаду ў *кгр* | 8,33 | 5,32 | 4,93 | 3,52 | 2,95 | 2,71 | 2,35 |
| На адну галаву ў суткі ў грамах | 833 | 532 | 493 | 352 | 295 | 271 | 235 |
| Выдаткавана кармав. адзінак на групу . . . . . . . . . . . | 1500 | 1980 | 1025 | 1580 | 1120 | 1170 | 550 |
| Выдаткавана кармав. адзінак на *кгр*. прывагі . . . . . . . | 6 | 5,35 | 5,07 | 5,68 | 5,9 | 5,5 | 4,26 |

Такім чынам, нават пры недастатковай колькасці і аднастайнасці кармоў, якія, асабліва за апошні час, паступаюць у соўгас з вялікімі перабоямі, мы маем значны прырост вагі.

**Даныя сутачнага прыросту вагі ў грамах на адну галаву (брыгады Бабкова і Плотнікава, чэрвень 1934 г.):**

| Групы адкорму | 1-я дэкада | | 2-я дэкада | | 3-я дэкада | | У сярэднім за дзень | | Плануемы прырост вагі ў дзень | Выкананне плана за месяц | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Бабкоў | Плотнікаў | Бабкоў | Плотнікаў | Бабкоў | Плотнікаў | Бабкоў | Плотнікаў | | Бабкоў | Плотнікаў |
| Сальны . | 587 | 650 | 862 | 959 | 775 | 613 | 741 | 741 | 900 | —139 | —139 |
| 70—90 *кгр* | 486 | 352 | 671 | 683 | 430 | 600 | 629 | 512 | 600 | — 71 | — 88 |
| 60—70 *кгр* | 315 | 326 | 788 | 663 | 417 | 503 | 507 | 497 | 550 | — 43 | + 47 |
| 50—60 *кгр* | 336 | 167 | 792 | 563 | 507 | 404 | 546 | 378 | 420 | + 26 | — 22 |
| 30—50 *кгр* | 260 | 193 | 461 | 549 | 211 | 375 | 311 | 372 | 360 | — 49 | + 12 |
| да 30 *кгр* | 189 | 193 | 398 | 450 | — | — | 293 | 321 | 280 | + 13 | + 41 |
| Сярэдні прырост вагі па ўсіх групах: . . . | 363 | 314 | 662 | 645 | 466 | 479 | 586 | 564 | 511 | | |

Прыведзеныя лічбы—яркая ілюстрацыя правільнасці праведзенай палітаддзелам перабудовы свінафермы на аснове рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б.

У ліпені з кармамі было асабліва цяжка. Пакажам канкрэтна барацьбу людзей за план мясаздачы на прыкладзе брыгады т. Бабкова Маркі—прэміяванага ўдзельніка ўсесаюзнага злёта свінароў—і брыгады Плотнікава.

**Даныя сутачнага прыросту вагі (ў грамах на кожную галаву):**

| По брыгадзе Маркава | | Па брыгадзе Плотнікава | |
|---|---|---|---|
| Планавае заданне | Фактычна атрымана | Планавае заданне | Фактычна атрымана |
| 900 | 980 | 900 | 800 |
| 600 | 707 | 600 | 387 |
| 500 | 600 | 500 | 390 |
| 440 | 380 | 440 | 331 |

Гэта—рэзультаты, атрыманыя пры абсалютна аднолькавых умовах. Тав. Маркаў (беспартыйны) аддае ўсе сілы і дабіваецца перавыканання плана, а тав. Плотнікаў (камуніст) цягне і ферму і соўгас к зрыву плана. Партыйная арганізацыя не магла прайсці міма ганебнага адставання брыгады Плотнікава і адпаведным чынам рэагавала.

Як выконваўся зацверджаны трэстам план здачы мяса за першае паўгоддзе? Трэба было здаць 397 галоў вагою 372,1 цнт., здана 395 галоў вагою 334,91 цнт., што складае 90 проц., агульнага поўгадовага плана. На бекон соўгас звярочвае асноўную ўвагу: план выканаў на 106,5 проц.

Усю прадукцыю здаем выключна ўстаноўленай кандыцыі. Аднак, нельга не адзначыць, што трэст і ўпаўнаважаны соўгасаў сваім планаваннем і фінансаваннем не заўсёды садзейнічалі рабоце соўгаса і палітаддзела. Трэст і ўпаўнаважаны часта не ўлічваюць умоў і патрэбнасцей кожнага канкрэтнага соўгаса. З такімі адносінамі да соўгасаў трэба пакончыць, бо і ў рашэннях ліпеньскага пленума ЦК ВКП(б) ясна сказана:

> «Адзначаючы, што соўгасы да гэтага часу не дабіліся сапраўднага гаспадарчага разліку, пленум ЦК ВКП(б) абавязвае НКСоўгасаў, НКСнаб і НКЗем **распрацаваць і ўвесці цвёрдую сістэму гаспадарчага разліку ў соўгасах, устанавіўшы найстражэйшую фінансавую і каштарысную дысцыпліну» («Правда» ад 2 ліпеня 1934 г. № 180)** [1].

Гэта ўказанне павінна знайсці сваё рэальнае вырашэнне ў соўгасе, трэсце. Для гэтага неабходна: 1) будаваць промфінплан, выходзячы з рэальнага стану кожнага асобна ўзятага соўгаса; 2) даць магчымасць кожнаму соўгасу ў бліжэйшы гаспадарчы год стаць гаспадарча-разліковай рэнтабельнай адзінкай; 3) узмацніць фінансавае становішча соўгаса; 4) даць магчымасць і права дырэктару самастойна, у межах каштарыса, манеўраваць сродкамі; 5) зваротнымі сродкамі надзяляць у пачатку, а не ў канцы года, як гэта зараз практыкуецца і 6) стварыць ў соўгасах падсобныя гаспадаркі, якія значна дапамогуць соўгасам стаць на ногі.

Правядзенне адзначаных мерапрыемстваў дапаможа нам у бліжэйшы тэрмін сапраўды рэалізаваць рашэнне пленума і ператварыць соўгасы ў самастойныя гаспадарча-разліковыя адзінкі. Пры пераводзе соўгасаў на самастойны гаспадарчы разлік трэба загадзя глыбока вывучыць кожную даную гаспадарку, яе рэчаіснасць і канкрэтныя магчымасці.

Гаспадарчы разлік свінасоўгаса павінен быць такім, каб гаспадарка на 100 проц. магла забяспечыць сваё пагалоўе грубымі і сакавітымі кармамі і на 80—90 проц. канцэнтраванымі.

* * *

Шырока разгорнутае ў соўгасе соцспаборніцтва і ўдарніцтва, ліквідацыя абязлічкі з'яўляюцца асноўным стылем нашай палітаддзелаўскай работы.

Мы маем свядомых людзей свінагадоўлі, сапраўдных ізотаўцаў. Сярод іх выдзяляюцца імёны **Бабкова Маркі**—брыгадзіра адкормачнай брыгады. Ён з першага дня арганізацыі соўгаса стаў працаваць

[1] Падкрэслена аўтарам.

з усёй сваёй сям'ёю ў колькасці 5 чалавек. Тав. Бабкоў ужо некалькі раз прэміраван соўгасам і трэстам. Сярод яго прэмій—4-х месячнае парася і іншыя каштоўныя падарункі. Такіх Бабковых зараз не мала ў соўгасах. Лепшыя свінары—**Мазо С., Маскалёва А., Раманава Д.**, брыгадзіры—**Бадзеева Д.** і інш. дабіліся высокага прыросту вагі і ліквідавалі ялавасць матак, забяспечваючы выкананне плана.

Соўгас закончыў сяўбу к устаноўленаму ЦК тэрміну—20 мая. Прапалка праведзена на 160 проц. Уборка сена закончана к 30 чэрвеня. Уборка азімых—таксама ў тэрмін. Следам за ўборкай арганізавана малацьба. Каб максімальна выкарыстаць цёплае надвор'е, палявы цэх мабілізаваў на малацьбу ў полі ўсё працаздольнае насельніцтва соўгаса. Ля малацілак працуюць дырэкцыя, палітаддзельцы, конкі спецыялістаў.

Тут мы маем верных ударнікаў, якія змагаюцца за стварэнне ўласнай кармавой базы. **Якаўлеў Іосіф**—брыгадзір палявой брыгады № 1 працуе ў соўгасе з дня арганізацыі, не мае ні аднаго прагула. Яго брыгада паказвае большэвіцкія адносіны да працы, часта перавыконваючы свае заданні.

Нормы для касцоў устаноўлены былі ў 0,33 га на чалавека (агульна наркамацкія), а фактычна скашвалі: 0,42 га, 0,46 га, 0,48 га. Касцы выпрацоўвалі 6 рублёў у дзень, грабельшчыкі 4 руб. замест 2 руб. 06 кап., а на стагаванні заработак дасягаў 6 руб.—замест 2 руб. 48 кап. Нормы перавыконваліся амаль у два разы, а паасобнымі работнікамі і больш.

Такой высокай, прадукцыйнасці працы мы дасягнулі дзякуючы добра пастаўленай партыйна-масавай рабоце, арганізацыі працы і пагалоўнаму ахвату ўсіх рабочых соцспаборніцтвам.

Ударную работу на полі забяспечылі культурным адпачынкам у нерабочы час. На сенакосе рэгулярна выходзіла брыгадная газета. Вечарамі—сходы, танцы, чытка газет, часопісаў, кніг. Чырвоная і чорная дошкі, заняткі гуртка і партшколы. Палявы цэх багат ударнікамі. Удодаў, Свістуноў, Старасценко, Маскалёва У., Балдасенко, Раманава, Лашэнкова і многія яшчэ прэміяваны.

Перад прэміяваннем ударніка загадзя высняем, у чым ён мае большую патрэбу. Прэміруем ботамі, парасятамі, адрэзамі на плацце, хусткамі, грашыма, што супадае з жаданнем і патрэбнасцямі ўдарнікаў і падымае новую хвалю энтузіязма ў рабоце.

Рабочыя соўгаса не абмяжоўваюцца адным толькі ўнутрысоўгасным соцспаборніцтвам. Наш соўгас спаборнічае з соўгасам «Войнава» і вядзе рэгулярную праверку ходу соцспаборніцтва. Амаль па ўсіх паказчыках наш соўгас ідзе ўперадзе.

Гаварыць толькі аб добрым і не бачыць дрэннага—гэта не да твару большэвіка. Дрэнных бакоў у нас яшчэ не мала.

Асноўная хвароба соўгаса—адсутнасць кармавой базы. Уласная кармавая база па канцэнтратах здавальняе 7—8 проц. гадавой патрэбнасці. Адзінаццаць месяцаў у год мы залежым ад нарадаў трэста, ад НКСоўгасаў і НКПС, які дае нам вагоны. Адсутнасць кармавой базы наносіць асноўны ўдар нашым соўгасам. Чэрвеньскі пленум ЦК ВКП(б) зусім правільна запісаў у сваім рашэнні, што трэба «поўнасцю забяспечыць соўгаснае стада грубымі і сакавітымі кармамі, а таксама пашай і ў **максімальнай меры ўласнымі канцэнтраванымі кармамі**»[1].

[1]) Падкрэслена аўтарам.

Другая, не менш сур'ёзная хвароба ўсіх свінагадоўчых соўгасаў,— гэта дрэнная арганізацыя зарплаты, ураўнілаўка. Пры наяўнасці ўраўнілаўкі ў аплаце працы як брыгада ў цэлым, так і кожны свінар не зацікаўлен у тым, каб даць лепшыя якасныя паказчыкі. А адсюль усе вынікі: і адыход, і малы прырост вагі, і разбазарванне кармоў і т. д.

З ураўнілаўкай у зарплаце трэба пакончыць, і ўсе працэсы працы перавесці на здзельшчыну.

Каб выканаць заданні партыі і ўрада ў галіне паспяховага развіцця жывёлагадоўлі, трэба стварыць уласную кармавую базу. Гэтага можна дабіцца праз асваенне пяскоў, накапленне і завоз угнаенняў, раскарчоўку кустарнікаў, палепшанне лугоў, стварэнне насеннікаў, агульнае павышэнне ўраджайнасці і правільную арганізацыю працы. Усё гэта ў рэзультаце поўнасцю забяспечыць гаспадарку ў 1935—36 г. грубымі і сакавітымі кармамі, на 50 проц. зернавымі і на 38 проц. канцэнтратамі.

Нельга абыйсці матар'яльна-бытавыя ўмовы рабочых і асабліва спецыялістаў,—іх проста забывалі. Трэба даць ім добрыя кватэры і скласці такія ўмовы, каб яны не адрываліся ад вытворчасці, не ездзілі па кожную дробязь на рынак—за дзесяткі кілометраў даставаць пуд бульбы, кусок сала, запалкі. Нашай каапераціі яшчэ не мала прыдзецца папрацаваць у гэтай галіне.

Асаблівая ўвага—культурнаму абслугоўванню рабочых і спецыялістаў. За апошні год культурныя запатрабаванні рабочых надта выраслі. Іх мы абавязаны задаволіць. Гэта адзін з момантаў павышэння свядомасці рабочых, ператварэння іх у актыўных будаўнікоў соцыялістычнага грамадства.

І апошняе—арганізацыйна-гаспадарча ўмацаваць соўгас і яго ферму, забудаваць, электрыфікаваць, а жыццё рабочых зрабіць заможным і культурным.

Мабілізуючы работнікаў соўгаса, палітадзел па-большэвіцку вырашыць пастаўленую тав. Сталіным жывёлагадоўчую праблему, як адну з асноўных задач другой пяцігодкі.

---

# КАНСУЛЬТАЦЫІ

## Аб чаргаванні раслін у севазвароце

Адна з асноўных задач 2-ой пяцігодкі ў галіне сельскай гаспадаркі—рашучае павышэнне ўраджайнасці соўгасных і калгасных палёў. Вялікую ролю ў гэтым павінна адыграць укараненне правільнага севазвароту—гэтага лепшага сродку павышэння ўраджайнасці, на што ўказаў т. Сталін на XVII з'ездзе ВКП(б).

На XVII партз'ездзе т. Сталін вызначыў у якасці адной з асноўных задач сельскай гаспадаркі—увядзенне правільных севазваротаў.

Правільны севазварот ёсць пэўны комплекс мерапрыемстваў, дзе паасобныя з іх (чаргаванне раслін, апрацоўка глебы, сістэма ўгнаенняў, барацьба з пустазеллем, шкоднікамі, хваробамі с.-г. раслін і т. д.) звязваюцца ў адзіную стройную сістэму з тым, каб максімальна павысіць ураджайнасць, поўнасцю забяспечыць выкананне планаў па пасеўных плошчах і развіццю жывёлагадоўлі. А гэта—адпраўны пункт пры ўстанаўленні правільнага севазвароту ў соўгасах і калгасах.

Адно з асноўных агратэхнічных патрабаванняў, прад'яўляемых севазвароту—гэта правільнае чаргаванне культур, значэнне якога абумоўліваецца тым, што паасобныя культурныя с.-г. расліны патрабуюць неаднолькавых умоў для свайго росту, а, з другога боку, розныя расліны па рознаму ўздзейнічаюць на глебу.

Гэта залежыць галоўным чынам. ад рознай пабудовы каранёвай сістэмы, сцябла і лісцяў расліны. Некаторыя расліны бяруць з глебы менш спажыўных матэрый, другія наадварот—забіраюць іх шмат. Адны забяспечваюць большы запас вільгаці для чарговых раслін, другія—высушваюць глебу. Дзякуючы розніцы ў пабудове каранёвай сістэмы, некаторыя расліны, як напрыклад коласавыя, выкарыстоўваюць спажыўныя матэрыі верхніх пластоў глебы, а такія, як бабовыя і кораньплоды,—больш глыбокіх яе пластоў.

Маючы розны харчовы рэжым, розныя расліны прэд'яўляюць неаднолькавыя патрабаванні да спажыўных матэрый глебы. Коласавыя, напр., бяруць з глебы значную колькасць азота і фосфарнай кіслаты і параўнаўча мала калія, бабовыя, бульба і буракі, наадварот—шмат калія. Бабовыя, акрамя таго, ўзбагачваюць глебу азотам, які яны здабываюць з паветра пры дапамозе асобых бактэрый, што жывуць на карэннях бабовых раслін.

Вялікую шкоду земляробству прыносіць пустазелле. Пасяліўшыся сярод культурных раслін, пустазелле адбірае ад іх значную частку спажыўных матэрый, вады і святла і гэтым вельмі пагаршае ўмовы росту культурных раслін, а часта і зусім іх глушыць.

Амаль кожная культурная расліна мае цэлы рад сваіх, характэрных для яе відаў пустазелля, якія пры нязменным пасеве расліны на ад-

ным месцы вельмі развіваюцца, як напрыклад гірса (касцёр жытні), распаўсюджаная галоўным чынам сярод азімых; кускута ільняная, торыца ільняная—сярод лёну і т. д.

Неаднолькавы таксама адносіны розных раслін да шкоднікаў сельскай гаспадаркі і грыбных хвароб. Гесенская муха, напрыклад, вельмі шкодзіць пшанічным і жытнім пасевам, а аўсу, караняплодам і інш. не шкодзіць. Грыбок фузарыум, які моцна развіваецца і знішчае культуру лёну, пры яго нязменным пасеве некалькі год падрад на адным месцы, другім культурам зусім не шкодзіць.

Правільнае чаргаванне культур забяспечвае лепшы фізічны стан глебы, накапленне і найбольш рацыянальнае выкарыстанне вільгаці ў глебе, найлепшае выкарыстанне спажыўных матэрый глебы і ўгнаенняў і паспяховую барацьбу з пустазеллем, шкоднікамі і грыбнымі хваробамі, што стварае найлепшыя ўмовы для ўздыму ўраджайнасці.

Севазварот можа забяспечыць устойлівыя высокія ўраджаі толькі пры той умове, калі разам з севазваротам у гаспадарцы будзе ўведзен поўны комплекс агратэхнічных мерапрыемстваў (палепшанне якасці апрацоўкі глебы, своечасовы пасеў, гатунковае насенне, належны догляд раслін і т. д.), якія ў сваю чаргу толькі на фоне правільнага севазвароту могуць даць найбольшую эфектыўнасць у павышэнні ўраджайнасці.

Практыка работы па ўвядзенню севазваротаў у калгасах і соўгасах БССР паказвае, што ва многіх з іх не ўдзяляюць належнай увагі правільнай пабудове чаргавання раслін, уводзяцца агратэхнічна нявытрыманыя, а ў радзе выпадкаў зусім агратэхнічна няграматныя севазвароты.

Дапускаецца, напрыклад, пасеў зернавых па зернавых на працягу многіх год падрад; добрыя папярэднікі (прапашныя травы і т. д.) няправільна, або недастаткова выкарыстоўваюцца; ў якасці папярэднікаў для азімых праектуюцца ў вялікай колькасці позна ўбіраемыя культуры, якія не забяспечваюць своечасовага пасеву азімых. Тым часам правільнае чаргаванне раслін, паколькі ад яго ў значнай меры залежыць павышэнне ўраджайнасці, з'яўляецца адной з абавязковых умоў, якім павінен адпавядаць севазварот.

У кожным канкрэтным выпадку (у залежнасці ад складу і суадносін культур, працягу вегетацыйнага перыяда, якасці глебы, чыстаты ці засмечанасці яе пустазеллем, рэсурсаў угнаення і інш. мясцовых умоў) па рознаму будзе вырашацца пытанне аб паслядоўнасці культур у севазвароце і месцы кожнай паасобку. Аднак ёсць цэлы рад агратэхнічных правіл чаргавання культур, захаванне якіх абавязкова пры ўстанаўленні севазвароту.

Ніжэй падаюцца асноўныя правілы чаргавання раслін, якімі неабходна кіравацца пры распрацоўцы севазваротаў.

Чаргаванне культур у севазвароце павінна будавацца, выходзячы з таго складу культур і іх суадносін, што вынікаюць з планавага задання данаму калгасу.

Парадак чаргавання раслін у севазвароце павінен забяспечыць:

а) пры найбольш мэтазгодным выкарыстанні папярэднікаў лепшае месца для кожнай культуры ў адпаведнасці з яе патрабаваннямі да стану глебы, яе ўгноенасці, чыстаты ад пустазелля і магчымасці выканаць у тэрмін усе неабходныя работы;

б) найлепшае выкарыстанне спажыўных матэрый глебы і ўгнаенняў як арганічных, так і мінеральных;

в) ачыстку палёў ад пустазелля;

г) умовы для сістэматычнага і няўхільнага павышэння ўраджайнасці глебы.

Кожная культура павінна змяшчацца пасля такіх папярэднікаў, якія пакідаюць глебу ў стане, найбольш спрыяючым росту данай культуры.

Для ачысткі палёў ад пустазелля трэба чаргаваць расліны, якія спрыяюць засмечванню глебы, з раслінамі, ачышчаючымі поле ад пустазелля (прапашныя, травы). Расліны, асабліва адчувальныя да засмечанасці глебы, павінны змяшчацца непасрэдна пасля культур, пакідаючых глебу чыстай ад пустазелля.

Каб папярэдзіць масавае размнажанне шкоднікаў і хвароб с.-г. раслін, неабходна ўнікаць непасрэднага следвання адна за другою, культур, якія паражаюцца аднолькавымі хваробамі і шкоднікамі.

Расліны, якія пры частым паўторным высеве на адным месцы зніжаюць сваю ўраджайнасць з-за павелічэння хвароб і шкоднікаў, не павінны займаць старога месца раней пэўнага, устаноўленага вопытам для кожнай з гэтых культур, тэрміна.

Парадак чаргавання культур павінен забяспечыць поўнае і найбольш рацыянальнае выкарыстанне ўсяго фонда лепшых папярэднікаў (чыстых і лубінавых папараў, траў, прапашных, бабовых зернавых і азімых).

Пры гэтым участкі з-пад лепшых папярэднікаў адводзяцца вядучым і найбольш каштоўным з народна-гаспадарчага пункту погляду культурам.

Чыстыя ўгноеныя папары ў першую чаргу адводзяцца пад азімую пшаніцу.

Месца з-пад бабовых раслін, якія ўзбагачваюць глебу азотам (канюшына, віка, гарох, лубін і інш.), адводзіцца ў першую чаргу культурам, якія адчуваюць найбольшую патрэбнасць у азоце і найбольш эфектыўна яго выкарыстоўваюць (лён, зернавыя коласавыя). Пры гэтым канюшынішча ў ільнаводных калгасах, як правіла, адводзіцца ў якасці папярэдніка для лёну.

У неільнаводных калгасах канюшынішча выкарыстоўваецца ў першую чаргу як папярэднік для азімых.

З мэтай найбольш поўнага выкарыстання канюшыннага пласта, як правіла, канюшынішча павінна выкарыстоўвацца пад пасевы не менш 2-х год да выхаду адпаведнага поля ў незаняты, або лубінавы папар.

Пасля ўгноеных прапашных культур у першую чаргу праектуюцца культуры, найбольш патрабавальныя да чыстаты і ўгноенасці глебы (пшаніца яравая, ячмень, зернавыя, бабовыя, лён).

Пры ўстанаўленні культур для занятага папару трэба мець на ўвазе, што неабходна забяспечыць своечасовае правядзенне ўсіх работ па добраякаснай падрыхтоўцы глебы пад азімыя і пасеў іх у нармальныя з агратэхнічнага пункту погляду тэрміны.

**Месца азімых культур у севазвароце.** Лепшымі папярэднікамі ў севазвароце для азімых культур з'яўляюцца:

а) **на звязных глебах**— ранні чысты папар і лубінавы папар;

б) **на лёгкіх пясчаных і супяшчаных глебах**—лубінавы папар.

Лубінавы папар ва ўмовах БССР, як папярэднік для азімых, не ўступае чыстым угноеным папарам. З'яўляючыся магутным сродкам павелічэння рэсурсаў арганічных угнаенняў і палепшання азотнага

баланса глебы, лубінавыя папары ў 2-й пяцігодцы набываюць у БССР выключна важнае значэнне. Большая частка ўсёй плошчы папараў, не занятай іншымі прадуктуючымі культурамі, павінна быць занята к канцу другой пяцігодкі лубінам на зялёнае ўгнаенне.

У севазваротах з лубінавымі папарамі павінны быць прадугледжаны пасевы лубіну на насенне ў размерах, неабходных для абсемянення плошчы лубінавых папараў.

Добрымі папярэднікамі для азімых з'яўляюцца папары, занятыя аднагадовымі травамі на зялёны корм і сена, канюшынішча, сланечнік на сілос і ранняя бульба.

Папар, заняты ранняю бульбай,—добры папярэднік для азімых пры ўмове, калі сяўба азімых будзе праведзена ў нармальныя тэрміны, што магчыма пры раннім высеве ранніх гатункаў бульбы.

Для азімай пшаніцы, як правіла, павінна быць адведзена месца ў севазвароце: пасля ўгноенага чыстага папару, пасля лубінавага папару з дадаткам мінеральных угнаенняў, па канюшынішчы або пасля занятага аднагадовымі травамі папару пры ўмове, калі яго ўгноіць непасрэдна перад пасевам пшаніцы.

Дапушчальнымі папярэднікамі (у невялікіх памерах) для азімага жыта ў паўночных раёнах БССР могуць быць ячмень, а для астатніх раёнаў БССР—бабовыя зернавыя, грэчка і ячмень.

Праектыроўка гэтых дапушчальных папярэднікаў павінна быць абмежавана пэўнымі невялікімі размерамі на добра запраўленых і чыстых ад пустазелля глебах і пры ўмове, калі магчымасць практыкавання азначаных культур у якасці папярэднікаў для азімага жыта праверана на вопыце непасрэдна ў самых калгасах.

Каб забяспечыць ураджайнасць азімага жыта пры пасеве яго па гэтых папярэдніках, патрэбна:

а) абавязкова ўгнойваць поле перад пасевам азімых;

б) падбіраць і ўкараняць ранція гатункі папара-займаючых культур;

в) забяспечыць пасеў папара-займаючых культур у больш раннія тэрміны;

г) правесці дадаатковыя агратэхнічныя мерапрыемствы па барацьбе з пустазеллем (лушчэнне глебы, дадатковая полка і т. д.).

**Месца яравых зернавых у севазвароце.** Яравыя зернавыя ў севазвароце змяшчаюцца пасля прапашных, бабовых зернавых, азімых.

Найлепшыя папярэднікі для яравой пшаніцы і ячменя—угноеныя прапашныя. Пры пасеве па няўгноеных прапашных гной уносіцца непасрэдна пад пшаніцу і ячмень.

У калгасах, дзе пасеўнае заданне па гэтых культурах не можа быць размешчана пасля прапашных, яны высяваюцца па бабовых зернавых, або азімых з унясеннем гною непасрэдна пад пшаніцу і ячмень. Пры пасеве яравой пшаніцы і ячменю па добра ўгноеных арганічнымі ўгнаеннямі азімых можна абмежавацца ўнясеннем мінеральных угнаенняў.

Авёс размяшчаецца ў севазвароце пасля прапашных, азімых, бабовых на зярно, пасля лёну, а таксама іншых культур па абароту канюшыннага пласта.

Добрым папярэднікам для яравых коласавых з'яўляецца таксама канюшынішча. Аднак выкарыстоўваць яго пад гэтыя культуры можна толькі ў паасобных выпадках, паколькі, як правіла, канюшынішча скарыстоўваецца, як папярэднік для лёну і азімых.

Як правіла, трэба ўнікаць пасеву зернавых коласавых па зернавых коласавых звыш 2 год падрад, а таксама следвання яравых коласавых непасрэдна па яравых коласавых. Чаргаванне зернавых коласавых па зернавых коласавых (уключаючы азімыя) звыш 3-х год падрад не дапускаецца зусім.

Лепшае месца для бабовых зернавых у севазвароце— пасля прапашных і азімых. Бабовыя на зярно могуць ісці таксама пасля ўгноеных арганічнымі ўгнаеннямі яравой пшаніцы і ячменю, або другой раслінай па канюшынішчы (пасля лёну ці азімых, якія ідуць па пласту). Пасеў бабовых па бабовых зернавых, а таксама па канюшынішчы не дапускаецца.

Грэчка—культура малапатрабавальная да глебы і ўгнаення. Яна добра выкарыстоўвае трудна растварымыя спажыўныя матэрыі. У севазвароце грэчка займае месца звычайна пасля зернавых.

**Найлепшы папярэднік для лёну**—канюшынішча. Даныя навукова-даследчых устаноў і практыка перадавых калгасаў паказваюць, што пасеў па канюшынішчы павышае ўраджайнасць ільнавалакна ў параўнанні з іншымі папярэднікамі прыкладна на 30 проц., прычым і якасць валакна значна вышэй.

Лепшыя цалінныя землі і шматгадовыя залежы, як папярэднікі для лёну, блізкі да канюшынішча. Таму пры ўмове асенняга ўзворвання і адпаведнай вясенняй апрацоўкі яны павінны быць выкарыстаны для пасеву лёну.

Бабовыя зернавыя культуры (віка, гарох, і т. д.)—таксама добрыя папярэднікі для лёну. Нядрэнныя папярэднікі—угноеныя прапашныя і азімыя.

**Бульба ў севазвароце** павінна высявацца непасрэдна па гнаі, або пасля добра ўгноеных азімых. Караньплоды і сілосныя павінны змяшчацца ў севазвароце непасрэдна па гнаі.

Добры папярэднік для прапашных таксама і канюшынішча. Аднак, паколькі яго неабходна выкарыстоўваць у першую чаргу пад лён і азімыя, то ў якасці папярэдніка для прапашных ён можа служыць толькі ў асобных выпадках.

**Шматгадовыя травы** (канюшына, або канюшына з цімафейкай) павінны змяшчацца ў севазвароце бліжэй да гноевага ўгнаення. Лепшым месцам для іх будзе падсеў пад угноеныя азімыя, або пад яравыя зернавыя (ячмень, пшаніца, авёс), якія ідуць пасля ўгноеных прапашных.

Выбар месца для падсеву шматгадовых траў (пад азімыя, або яравыя зернавыя) устанаўляецца на падставе даных вопыту па культуры траў у пэўных калгасах данай мясцовасці.

**Гародніна, каноплі і іншыя тэхнічныя культуры** размяшчаюцца ў калгасах на спецыяльна адведзеных прысядзібных зямельных участках (гароды, канапляннікі), дзе ўстанаўляецца адпаведнае правільнае чаргаванне культур.

Калі калгас мае прыфермскі севазварот, то каноплі могуць высявацца ў ім пасля шматгадовых траў.

На новаасвойваемых мінеральных глебах, у якасці першых, так званых папярэдніх культур, у першую чаргу павінны высявацца авёс, віка-авёс, а на лепшых цалінных землях—жыта, лён, проса. Выкарыстанне новых зямель пад іншыя культуры дапускаецца толькі пры ўмове высокай якасці новаасвойваемых зямель. Кожны раз у такім

выпадку трэба дасканала прапрацаваць пытанне, з удзелам агранамічнага персанала і з улікам мясцовага вопыту.

На запольных пясчаных участках і на новаасвойваемых пясчаных землях, якія па іх сучаснаму стану не могуць быць уключаны адразу ў палявы севазварот, неабходна ўстанавіць спецыяльнае агратэхнічна-вытрыманае чаргаванне культур (улічваючы ў кожным канкрэтным выпадку мясцовыя ўмовы), каб забяспечыць найбольш рацыянальнае выкарыстанне гэтых пясчаных участкаў і разам з тым як найхутчэй дабіцца іх палепшання (накапленне арганічных матэрый).

У якасці прыкладу ўкажам на 3-х гадовае чаргаванне культур, якое ў многіх выпадках можа адпавядаць указаным патрабаванням:

1. Папар лубінавы.
2. Азімыя.
3. Грэчка, лубін на насенне.

Увядзенне севазвароту можа даць найбольш хуткае павышэнне ўраджайнасці толькі пры абавязковым ажыццяўленні ўсяго комплекса агратэхнічных мерапрыемстваў.

Кожнаму севазвароту адпавядае пэўная сістэма агратэхнікі, якая ў кожным канкрэтным выпадку павінна быць прапрацавана адначасова з устанаўленнем севазвароту, дэталёва улічваючы пры гэтым мясцовыя ўмовы (якасць і культурны стан глебы, рэльеф, засмечанасць і т. д).

Павінна быць прапрацавана сістэма апрацоўкі глебы пад кожную культуру ў залежнасці ад папярэднікаў і ўлічваючы пры гэтым спецыфічныя асаблівасці (характар глебы, рэльеф і т. д.) кожнага поля і паасобных яго ўчасткаў.

На ўчастках поля, якія вышлі з-пад зернавых, лёну і траў, трэба правесці зяблівае ворыва.

Каб забяспечыць найбольшы поспех у барацьбе з пустазеллем на палях, якія выходзяць з-пад ранніх зернавых і лёну, трэба правесці лушчэнне, а потым зяблівае ворыва на поўную глыбіню.

Асабліва засмечаныя ўчасткі патрабуюць дадатковых мерапрыемстваў, у прыватнасці яны павінны быць прапушчаны праз чысты папар.

Сеяць трэба ачышчаным, адсартаваным і праверaным на ўсхожасць насеннем, у лепшыя для кожнай культуры, максімальна ўшчыльненыя тэрміны, дакладна захоўваючы ўстаноўленыя нормы высеву.

Выходзячы з патрабаванняў кожнай культуры, трэба ўстанавіць адпаведныя прыёмы догляду: полка, акучванне прапашных і інш.

Тэрміны і якасць уборкі павінны забяспечыць поўнае захаванне ўраджаю.

Б. Розенблюм і П. Бранавец.

## Кніжная паліца

**ЛЕНІН В. І. Справаздача X з'езду аб палітычнай дзейнасці ЦК РКП(б).**

**Менск Партвыдавецтва 1934 г. Ст. 92. Ц. 25 кап.**

X з'езд партыі знамянуе сабой пераход ад ваеннага комунізма к новай эканамічнай палітыцы. У сваёй справаздачы Ленін падрабязна аналізуе становішча, у якім апынулася краіна пасля шматгадовай вайны і асвятляе далейшыя задачы ў сувязі з дэмабілізацыяй арміі і пераходам к мірнаму будаўніцтву. Абгрунтоўваючы неабходнасць ліквідацыі палітыкі ваеннага комунізма, Ленін высоўвае мерапрыемствы пераходу к новай эканамічнай палітыцы (замена продразвёрсткі продналогам і інш.).

Ленін падвяргае жорсткай крытыцы ўсе апазіцыйныя групы ў тагочаснай профсаюзнай дыскусіі і ўказвае велізарную небяспеку для дыктатуры пролетарыята той унутрыпартыйнай барацьбы, якая разгарнулася ў сувязі з дыскусіяй. Ленін разгорнута ставіць пытанне аб адносінах паміж рабочым класам і сялянствам. Гэта, як гаварыў Ленін,—самае важнае пытанне эканомікі і палітыкі для совецкай ўлады.

**І. СТАЛІН. Пытанні калгаснага руху.**

**Пер. з рускага выдання пад рэдакцыяй Д. Коніка, Менск. Партвыдавецтва, 1934 г. Ст. 80, Ц. 50 коп.**

Зборнік артыкулаў і прамоў тав. Сталіна па пытаннях калгаснага будаўніцтва. Гэта—важнейшыя партыйныя дакументы аб рабоце на вёсцы за гады магутнага будаўніцтва калгасаў, іх арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання і ліквідацыі кулацтва як класа на базе суцэльнай калектывізацыі.

У артыкуле «Да пытання аб палітыцы ліквідацыі кулацтва, як класа», тав. Сталін аналізуе сутнасць павароту партыі ад палітыкі абмежавання капіталістычных элементаў вёскі да палітыкі ліквідацыі кулацтва як класа на аснове суцэльнай калектывізацыі. Артыкулы «Галавакружэнне ад поспехаў» і «Адказ тт. калгаснікам» прысвечаны барацьбе з лявацкімі скажэннямі лініі партыі ў справе калектывізацыі, якія мелі месца ў практыцы работы партарганізацый на вёсцы.

Ускрываючы скрыўленне ленінскага разумення адносін да серадняка, парушэнне прынцыпа добраахвотнасці ў справе калгаснага будаўніцтва, спробы пераскочыць праз рамкі арцелі адразу да сельскагаспадарчай комуны, тав. Сталін з выключнай чоткасцю вызначае формы, метады і задачы арганізацыі калгаснага руху.

У сваёй прамове на студзеньскім аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б) 1933 г. тав. Сталін аналізуе недахопы партыйнай работы на

вёсцы, заастрае ўвагу на павелічэнне адказнасці комуністаў за развіццё сельскай гаспадаркі і кіраўніцтва калгасамі, указвае тактыку класавага ворага і формы класавай барацьбы на вёсцы ў новай абстаноўцы.

У прамове на 1-м усесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў тав. Сталін указвае, што шлях калектывізацыі з'яўляецца адзіна правільным шляхам для працоўных сялян, якія пры ўмове чэснай працы ў калгасе прыдуць да заможнага, упаўне культурнага жыцця.

**СТАЛИН И. Статьи и речи от XVI до XVII з'ездов ВКП(б). Москва. Партиздательство, 1934 г. Ст. 236. Ц. 1 р. 25 к.**

У гэтай кнізе змешчан рад артыкулаў і прамоў тав. Сталіна за 1930—33 гг. Яны з'яўляюцца бліскучым узорам прымянення і далейшага развіцця вучэння Маркса—Леніна ў перыяд пабудовы фундамента соцыялізма.

У палітсправаздачы ЦК XVI з'езду ВКП(б) тав. Сталін аналізуе сусветны крызіс капіталістычнай сістэмы, паказвае велізарны рост Совецкага саюза і задачы, якія стаяць перад партыяй для далейшага пераможнага наступлення соцыялізма па ўсяму фронту.

У прамовах «Аб задачах гаспадарнікаў» і «Новая абстаноўка—новыя задачы гаспадарчага будаўніцтва» асветлены новыя ўмовы развіцця прамысловасці, вызначаны новыя ўмовы работы і метады кіравання гаспадарчым будаўніцтвам. У сваім дакладзе на аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б) ад 7-I 1933 г. тав. Сталін паказвае гістарычныя вынікі першай пяцігодкі ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

У кнізе змешчаны яшчэ ліст у рэдакцыю часопіса «Пролетарская революция» «Аб некаторых пытаннях гісторыі большэвізма», гутарка з нямецкім пісьменнікам Эмілем Людвігам, адказ т. Аляхновічу і Арыставу, выступленне на пленуме ЦК аб рабоце на вёсцы і прамова на Ўсесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ўдарнікаў.

**Програмные документы коммунизма 1847—1933. Партиздат. 1934 г. Ст. 320. Ц. 2 руб. 50 кап.**

Зборнік складаецца з трох частак.

Першая частка, якая абыймае дакументы эпохі Маркса—Энгельса, эпохі прамысловага капіталізма, зьмяшчае ў сабе: «Манифест коммунистической партии», «Обращение Центрального Комитета к Союзу Коммунистов», «Учредительный манифест и временный устав Международного товарищества рабочих» і «Криитку Готской программы».

У другой частцы змешчаны: 1) «Программа второго с'езда нашей партии», які знамянуе сабой пачатак большэвізма; 2) «Манифест ЦК партии» **(Ленін)**, які фармулюе лозунг ператварэння імперыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую і праграму барацьбы за III Інтэрнацыянал; 3) «Задачи пролетариата в нашей революции» **(Ленін)**—праект платформы проелтарскай партыі ў перыяд перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную; 4) «Декларация прав трудящегося и эксплоатируемого народа» (другі з'езд Советаў у 1918 годзе; 6) «Тезисы и доклады о буржуазной демократии и доктатуре пролетариата» **(Ленін)**, 7) «Программа РКП(б) (1919); 8) «Резолюции второго конгресса Коминтерна по национальному, колониальному и аграрному вопросам и условия приема в Коминтерн».

У трэцюю частку ўвайшлі дакументы эпохі будаўніцтва соцыялізма: «Конституция СССР», Сталін—«По поводу смерти Ленина,», «Программа Коминтерна», Сталін—«Новая обстановка—новые задачи хозяйственного строительства», Сталін—«Итоги первой пятилетки». Гэтыя роботы прадстаўляюць сабой абагульненне вопыту партыі з Октябрскай рэволюцыі да другой пяцігодкі.

**ДИМИТРОВ Г. Спасем Эрнста Тельмана.**
**ЦК МОПР СССР 1934 г. Ст. 46. Ц. 10 коп.**

Напісаная вельмі добрай мовай, даная брашура дае яскравае ўяўленне аб барацьбе, што адбываецца ў Германіі, аб палітыцы і тактыцы фашызма.

Чытачы атрымаюць у гэтай брашуры неабходны матэрыял для разумення абстаноўкі, у якой фашызм прышоў да ўлады, і тых метадаў, якімі ён трымаецца. Апошняя глава «Как спасти Тельмана» змяшчае план барацьбы, якую рабочыя ўсяго свету павінны безупынна весці за вызваленне правадыра германскага пролетарыята.

Кніжка тав. Дзімітрава—лепшы ўзор масавай агітацыйнай літаратуры.

**НЕКАТОРЫЯ ІТОГІ ПЕРАБУДОВЫ ПАРТРАБОТЫ**
**Менск Партвыдавецтва, 1934 год. Ст. 108. Ц. 80 кап.**

Брашура з'яўляецца апрацаванай стэнаграмай куставой партнарады, склікаНай ЦК КП(б)Б у Магілеве. У выступленні сакратароў парткомаў, парторгаў, работнікаў Магілеўскага, Рагачоўскага, Чаўскага, Клічаўскага райкомаў КП(б)Б паказан ход перабудовы партыйнай работы на аснове рашэнняў XVII з'езда. Матэрыялы нарады сведчаць аб набліжэнні партыйнага кіраўніцтва к цэху, калгасу, соўгасу, аб росце вытворчай ініцыятывы комуністаў і іх вядучай ролі на вытворчасці.

У сваёй заключнай прамове заг. аддзелаў кіруючых парторганаў ЦК КП(б)Б тав. Злоткін падводзіць вынікі нарады і вызначае змест работы інструктароў РК і парторгаў пярвічных арганізацый.

# ПАСТАНОВЫ ЦК КП(б)Б

## Аб падрыхтоўцы да Ўсебеларускай нарады старшынь промарцелей і аб ходзе выканання вытворчых заданняў промкааперацыяй

### Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б

1. Бюро ЦК адзначае крайне нездавальняючую работу па падрыхтоўцы да Ўсебеларускай нарады старшынь промарцелей з боку Белкаапромсовета, яго рэспубліканскіх і міжрайсаюзаў, слабое разгортванне соцспаборніцтва і ўдарніцтва паміж арцелямі і саюзамі на лепшае выкананне промфінплана, на права ўдзелу ў нарадзе.

2. Замест большэвіцкага выканання рашэнняў майскага пленума ЦК КП(б)Б і мабілізацыі арцельных мас, на аснове гэтых рашэнняў, на выкананне заданняў партыі і ўрада, замест барацьбы з буйнейшымі недахопамі ў рабоце сістэмы і аперацыйнага, канкрэтнага кіраўніцтва арцельнымі масамі, асобныя кіруючыя работнікі Совета, саюзаў і арцелей дэмабілізаваліся, дапусцілі самацёк у рабоце, тлумачачы ўсе парвалы і сваё няўменне працаваць аб'ектыўнымі прычынамі (адсутнасцю сыравіны, недахопам рабочай сілы, перакідкай работнікаў і т. д.).

3. У выніку ўсяго вышэйпаказанага промкааперацыя (сістэма Белкаапромсовета) не толькі не выканала свайго промфінплана і не ліквідавала запазычанасці за першы квартал, але з месяца ў месяц мае зніжэнне процантнага выканання планавых заданняў па сістэме: май—73,4 проц., чэрвень—79,4 проц., ліпень—70,5 проц. (за 7 месяцаў план па сістэме выканан толькі на 79,2 проц., план па шырспажыву за 6 месяцаў выканан на 78,3 проц.).

Асобныя рэспубліканскія міжрайсаюзы за 7 месяцаў маюць наступныя паказчыкі:

Торфсаюз (тав. **Славін**)—75,3 проц., Будсаюз (т. **Шэрман**)—60,6 проц., Харчпромсаюз (т. **Бязносаў**)—80,5 проц., Металсаюз (т. **Талкачоў**)—61,7 проц., Бытпромсаюз (т. **Гапонаў**)—82,2 проц.; Гомель, Міжшвэйсаюз (т. **Лейбовіч**)—63,7 проц., Скурсаюз (тав. **Партон**)—68,6 проц.; Менск, Швэйсаюз (т. **Ліберман**)—79,2 проц., Менск; Скурсаюз (т. **Каган**)—87,4 проц., Трансаюз (тав. **Аўрушын**) мае выкананне за 6 месяцаў 121,6 проц., але ў ліпені план не выканаў.

4. Бюро ЦК КП(б)Б лічыць, што такое становішча работы з'яўляецца вынікам адсутнасці ў Белкааппромсовеце, рэспубліканскіх і міжраённых саюзах і ў іх партарганізацыях сапраўднай перабудовы метадаў і практыкі работы ў адпаведнасці з рашэннямі XVII з'езда ВКП(б), вынікам невыканання рашэнняў майскага пленума ЦК КП(б)Б, адсутнасці большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі і няўмення па-большэвіцку перамагаць труднасці і аперацыйна, канкрэтна кіраваць; вынікам наяўнасці на паасобных участках прытуплення класавай пільнасці і недастатковай работы па ачыстцы сістэмы ад класава-чуждага элемента, а таксама вынікам адсутнасці штодзеннага клопату аб паляпшанні культурна-бытавога становішча арцельных мас (план па прыгарадных гаспадарках выканан толькі на 70,5 проц., адсутнічаюць сталы ўдарнікаў, дрэнная якасць грамадскага харчавання, не працуюць клубы і т. п.).

5. Адзначаючы, што лясная промкааперацыя (старшыня т. **Катаводаў**) лепш арганізавала работу па падрыхтоўцы да нарады, здолела на аснове рашэнняў майскага пленума ЦК, праз соцспаборніцтва і ўдарніцтва мабілізаваць значную масу арцельшчыкаў на выкананне дзяржаўных заданняў, чаму і мае выкананне промфінплана, што лішні раз падкрэслівае, што ёсць усе магчымасці не толькі выканаць, але і перавыканаць планавыя заданні—даць дастатковую колькасць прадукцыі краіне (поўгадовы план выканан на 100,1 проц., за 7 месяцаў—на 100,9 проц.), бюро ЦК лічыць, што лясная промкааперацыя зрабіла толькі першыя крокі па выкананню рашэнняў партыі і ўрада, што ў сістэме ёсць яшчэ буйнейшыя недахопы: не ўсе яшчэ міжрайсаюзы і арцелі выконваюць план і маюць на месцах няроўнамернасць выканання і вялікія хістанні, план па шырспажыву выканан толькі на 96,5 проц., невыкананне плана па асобных асартыментах, маючы вялікае дзяржаўнае значэнне (абозабудаўніцтва, лесахімія, лесапіленне), дрэнна яшчэ выконваюцца якасныя паказчыкі і недастаткова яшчэ разгорнута работа па поўнаму ачышчэнню сістэмы ад класава-чуждых элементаў.

Бюро ЦК ставіць задачу перад партчасткай Белкалессаюза і яго міжрайсаюзаў—выканаць планавыя заданні III і IV кварталаў і даць на рынак дастатковую колькасць прадукцыі шырокага ўжытку, дабіваючыся таго становішча, каб не было ніводнага міжрайсаюза, ніводнай арцелі, не выконваючых свой план.

6. У той-жа час бюро ЦК канстатуе, што рад райкомаў і гаркомаў КП(б)Б не выканалі спецыяльнага ўказання ЦК ад 23-VI-34 г. (аб мерапрыемствах па падрыхтоўцы да нарады), не забяспечылі неабходным кіраўніцтвам работу арцелей свайго раёна (Мозыр, Гомель, Магілеў, Чэрвень, Быхаў, Слуцк і інш.), не разгарнулі неабходнай партыйна-масавай работы сярод арцельшчыкаў і не мабілізавалі іх на выкананне планавых заданняў як па колькасных, так і асабліва па якасных паказчыках.

Да гэтага часу прадаўжаюць мець месца недаацэнка гэтага важнейшага ўчастка работы і факты абураючых, пагардліва-панскіх адносін да промкааперацыі з боку паасобных работнікаў раённых і сельскіх партыйных, совецкіх і іншых арганізацый (незаконнае із'яцце памяшканняў, прыарцельных гаспадарак і інш.) і да кіруючых работнікаў промкааперацыі (зняцце старшынь міжрайсаюзаў і старшынь арцелей без узгаднення з кіруючым цэнтрам, без адпаведнай замены, частая перакідка іх і працяглае скарыстанне на розных кампаніях, не звязаных з іх асноўнай работай).

У радзе раёнаў (Магілеў, Барысаў, Мазыр і інш.), не гледзячы на неаднаразовыя ўказанні, кіруючы склад міжрайсаюзаў пастаўлен у непараўнальна горшыя матэрыяльна-бытавыя ўмовы ў параўнанні з другімі адказнымі работнікамі раёнаў.

7. Бюро ЦК прапануе райкомам і гаркомам рашуча змагацца з такімі, яўна нездаровымі, непартыйнымі адносінамі да сістэмы і яе кіруючага складу, катэгарычна спыніць зняцце і перакідку кіруючых работнікаў міжрайсаюзаў без ведама і без узгаднення з кіруючымі цэнтрамі промкааперацыі (Белкаапромсовет, Белкалессаюз, міжрайсаюзы), а таксама спыніць працяглыя мабілізацыі на розныя кампаніі кіруючага складу міжрайсаюзаў і старшынь арцелей.

ЦК прапануе па-баявому ўзяцца за выкананне рашэнняў майскага пленума ЦК КП(б)Б, спецыяльных указанняў ЦК аб промкааперацыі і ў першую чаргу перагледзець і замацаваць (сумесна з рэспубліканскімі і міжрайсаюзамі) старшынь промарцелей моцнымі комуністамі, у той-жа час смялей вылучаючы на гэту работу з саміх арцельных мас праверанных беспартыйных.

Прапанаваць промаддзелу ЦК падабраць не менш чатырох работнікаў на кіруючую работу ў Белкаапромсовет і Белкалессаюз.

Лічыць неабходным пры выпуску курсаў чырвоных дырэктароў перадаць не менш 10 работнікаў для работы ў промкааперацыі.

8. Улічваючы просьбу пленума Белкааппромсовета, рашэнні раду нарад, злёту ударнікаў-арцельшчыкаў аб перанясенні нарады па сканчэнню III квартала і іх абавязацельствы папраўіць указаныя вышэй недахопы і выйсці з таго ганебнага прарыву, у якім яны знаходзяцца па выкананню сваіх планавых заданняў—перанесці нараду на кастрычнік месяц.

Прыцягнуць да ўдзелу ў нарадзе і старшынь арцелей кааперацыі інвалідаў БССР.

Прапанаваць райкомам і гаркомам, партгрупам Белкалессаюза, Белкалеспромсовета, Белкаапінсаюза, рэспубліканскіх і міжрайсаюзаў разгарнуць партыйна-масавую работу ў арцелях і аказаць ім канкрэтную практычную дапамогу ў выкананні імі ўзятых на сябе абавязацельстваў па выкананню промфінплана і ліквідацыі запазычанасці за першае паўгоддзе.

Шырока разгарнуць соцспаборніцтва і ўдарніцтва сярод арцельшчыкаў і саюзаў, дабіваючыся такога становішча, каб кожная арцель, кожны саюз змагаліся за права рапарту нарадзе, за права заняцця першых месц на нарадзе.

9. Задаволіць просьбу партгруп Белкалессаюза, Белкааппромсовета і Белкаапінсаюза аб устанаўленні пераходнага сцяга імя ЦК КП(б)Б і СНК БССР. Для прысуджэння сцяга і падвядзення вынікаў спаборніцтва арганізаваць камісію з прадстаўнікоў промаддзела ЦК, СНК БССР, рэдакцый газет «Рабочий», «Звязда», «Окцябр», ад Белкааппромсовета, Белкалессаюза і Белкаапінсаюза. Указанай камісіі распрацаваць умовы і паказчыкі спаборніцтва.

10. Прапанаваць рэдактарам газет «Рабочий», «Звязда», «Окцябр» і рэдактарам раённых газет больш шырока разгарнуць да нарады асвятленне вынікаў спаборніцтва, практыкуючы паказ работы перадавых і адстаючых саюзаў і арцелей і становішча партыйна-масавай работы ў промкааперацыі.

Лічыць мэтазгодным да нарады выпусціць спецыяльны нумар газеты, прысвечаны рабоце промкааперацыі.

11. У бліжэйшы час на бюро ЦК абгаварыць пытанні оргбудаўніцтва сістэмы і становішча партыйна-масавай работы і кіраўніцтва гэтым участкам работы з боку райкомаў і гаркомаў.

Даручыць промаддзелу ЦК арганізаваць падрыхтоўку даных пытанняў шляхам пасылкі брыгад у раёны і выкліку ў промаддзел ЦК з дакладамі паасобных старшынь міжрайсаюзаў, парторгаў буйных арцелей і прадстаўнікоў райкомаў.

---

## Аб рабоце партгруп у жывёлагадоўчых фермах па калгасах „Комінтэрн“, Дзяржынскага раёна, і „Комінтэрн“, Магілеўскага раёна

### Пастанова бюро ЦК КП(б)Б

Азнаёміўшыся з работай партгруп калгасаў «Комітэрн», Дзяржынскага раёна, і «Комінтэрн», Магілеўскага раёна, а таксама заслухаўшы парторгаў гэтых груп тт. Васілец і Топалева, ЦК адзначае, што партгрупа калгаса «Комінтэрн», Магілеўскага раёна, не ўсвоіла пастаноў пленума ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б аб палепшанні і развіцці жывёлагадоўлі і не прапрацавала іх у масе калгаснікаў.

У сваёй рабоце партгрупа і парторг т. Топалёў не перабудаваліся па-новаму—кіраваць канкрэтна і аперацыйна—і не выходзілі з указанняў пленума ЦК ВКП(б) аб тым, што «арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне існуючых калгасных таварных ферм і стварэнне фермы ў кожным калгасе павінна стаць першачарговай задачай партыйных і совецкіх арганізацый».

ЦК лічыць, што гэта іменна і з'яўляецца галоўнай прычынай нездавальняючай работы жывёлагадоўчай і свінагадоўчай ферм калгаса: а) прадаўжаецца значны адыход маладняка (16,2 проц. цялят і 42 проц. парасят); б) у свінарніках, на скотных дварах бруд, вшывасць усяго свінога пагалоўя; в) у доглядзе жывёлы на фермах пануе абязлічка; г) у аплаце працы ўраўнілаўка—адсутнічае здзельшчына і як вынік усяго гэтага—недабор малочнай і мясной прадукцыі (замест намечнага ўдою малака ў 66 560 літраў, сабрана толькі 39253 літры, замест запраектаваных па плану 287 галоў свіней, захавана 157 галоў).

У рэзультаце калгас, маючы ўсе магчымасці быць па здачы дзяржаве сваёй прадукцыі ў ліку першых, аказаўся ззаду, выканаўшы па здачы малака толькі 42,4 проц. плана.

Загадчык свінагадоўчай фермы комуніст Кавалёў недастаткова змагаўся з усімі ўказанымі недахопамі на ферме, не стараўся ўвайсці ва ўсе бакі работы на ёй. Тав. Кавалёў дрэнна ведаў, што даюць у корм свінапагалоўю і ў якой колькасці, у рэзультаце прагледзеў перарасход і разбазарванне на ферме кармоў. Кавалёў дрэнна ведаў, як пабудаван і праводзіцца ўлік вырошчваемага маладняка на ферме, у рэзультаце прагледзеў высокі адыход і разбазарванне парасят. Праўленне калгаса «Комінтэрн» і старшыня тав. Гізельс замест сапраўднага аперацыйнага кіраўніцтва і дапамогі фермам абмяжоўваліся частай зменай загадчыкаў (за год 4 загадчыкі), зацягнулі пабудову кароўніка, цялятніка і свінарніка, не займаліся як след пытаннем кармавой базы, у прыватнасці, не засіласавалі ні адной тоны сілосу.

Магілёўскі райком партыі таксама прагледзеў зусім нездавальняючы стан справы жывёлагадоўлі ў калгасе «Комінтэрн», не гледзячы на тое, што калгас «Комінтэрн» і яго фермы з'яўляюцца аднымі з буйнейшых ў раёне, і ў гэтым калгасе і на ферме не раз бываў інструктар гаркома т. Гарбуноў і пасылаўся для абследвання зоатэхнік райза т. Кандуктарава.

Выходзячы з гэтага, бюро ЦК абавязвае партгрупу і праўленне калгаса «Комінтэрн» так паставіць у далейшым сваю работу, каб забяспечыць у першую чаргу добрую зімоўку жывёлы. У асаблівасці неабходна: а) да 15 кастрычніка гг. скончыць пачатае будаўніцтва кароўніка і свінарніка; б) правесці неабходны рамонт наяўных скотных памяшканняў, іх ацяпленне і дэзінфекцыю. Абавязаць магілеўскі РВК аказаць калгасу «Комінтэрн» у гэтым неабходную садзейнасць; в) загатовіць дадатковую колькасць кармоў, у тым ліку засіласаваць намечаныя па плану 400 тон. сілосу.

Неабходна ўвесці пэўны рацыён кармлення для дарослай жывёлы і маладняка, устанавіўшы строгі ўлік выдаткавання кармоў.

Рашуча пакончыць з брудам у памяшканнях скотных двароў і свінарніках. Ачысціць жывёлу ад вшывасці. Такую-ж работу правесці ў кожнай канюшні з кожным канём.

Знішчыць абязлічку ў доглядзе жывёлы і ўраўнілаўку ў аплаце працы на абодвух фермах, устанавіўшы налічэнне працадзён калгаснікам жывёлагадоўчых брыгад на аснове здзельшчыны па колькасці абслугоўваемай жывёлы, вырошчваемага прыплоду і выхаду прадукцыі.

Неабходна таксама ўстанавіць прэміраванне за перавыкананне плана і добрую якасць работы і ўтрыманне за падзеж маладняка, яласць матак і нізкую якасць прадукцыі—у размерах, указаных пастановай пленума ЦК ВКП(б).

Абавязаць нам. начальніка магілёўскага райза тав. Янчэўскага зрабіць у гэтых адносінах усе неабходныя практычныя ўказанні і дапамагчы калгасу «Комінтэрн».

ЦК абавязвае партгрупу і праўленне калгаса забяспечыць поўнае выкананне плана здачы дзяржаве малака і мяса за трэці квартал і нядоімкі за другі.

ЦК лічыць, што для правядзення ў жыццё ўсіх указаных мерапрыемстваў калгас «Комінтэрн» мае ўсе магчымасці, трэба толькі партыйнай арганізацыі па-бальшэвіцку выконваць указанні партыі. Прыкладам гэтаму можа служыць другі заслуханы калгас «Комінтэрн», Дзяржынскага раёна. Не гледзячы на рад усё яшчэ маючыхся сур'ёзных недахопаў у рабоце фермы, партгрупа гэтага калгаса здолела на аснове ўказанняў XVII з'езда партыі і пастановы пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б практычна дабіцца правядзення на свінаферме свайго калгаса асноўных указанняў партыі па развіццю жывёлагадоўлі, а іменна: увядзення здзельшчыны, замацавання пастаянных работнікаў за пэўнай работай на ферме, увядзення заахвочвання за перавыкананне плана і добрую работу, а таксама ўстанаўлення матэрыяльнай адказнасці за дрэнную работу і інш. І ў рэзультаце—дабіцца прыкметнага скарачэння адыходу і павышэння таварнасці ферм.

ЦК зварочвае ўвагу партгруп абодвух калгасаў і комсамольскіх арганізацый, што пастанова пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б) аб жывёлагадоўлі павінна стаць здабыткам беспартыйнага актыва і шырокіх калгасных мас.

На аснове разгортвання социялістычнага спаборніцтва, неабходна ўцягваць у справу барацьбы за развіццё жывёлагадоўлі, за пароднасць жывёлы, кожнага калгасніка. Трэба дабіцца, каб кожны калгаснік і аднаасобнік сапраўды ведалі аб ільготах, прадугледжаных законам за вырошчванне цёлкі, або каровы і прадажы іх на ферму.

Партгрупы павінны паставіць, як адну з сур'ёзнейшых задач сваёй работы—хутчэйшае асваенне тэхнікі жывёлагадоўлі ўсімі работнікамі ферм. Неабходна арганізаваць зоаветгурткі з тым, каб ужо ў зімовы перыяд работнікі ферм аўладалі зоаветмінімумам ведаў.

ЦК абавязвае магілеўскі і дзяржынскі райкомы праверыць выкананне на справе ўказанняў пленума ЦК ВКП(б) аб забароне перакідкі заг. фермамі на другія работы без дазволу райза і ўстанаўленне працяжнасці работы калгаснікаў у жывёлагадоўчай брыгадзе не менш двух год.

Абавязаць партгрупы калгасаў «Комінтэрн»—Магілеўскага і Дзяржынскага раёнаў—прапрацаваць даную пастанову сярод калгаснікаў ва ўсіх брыгадах.

# Аб завочным партнавучанні

## Пастанова бюро ЦК КП(б)Б

Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што не гледзячы на некаторы зрух у разгортванні завочнай партвучобы ў 1933-34 г. становішча апошняй усё-ж з'яўляецца нездавальняючым, галоўным чынам з-за недастатковай увагі да гэтай справы з боку РК КП(б)Б.

Для сапраўднага масавага разгортвання завочнай партвучобы сярод раённага, партыйна-комсамольскага, прафесіянальнага і калгаснага актыва **Бюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе:**

1. Устанавіць кантынгент новага набору завочнікаў на 1934-35 навучальны год у 2.000 чал. (з іх 1.000 чал. на 6-месячныя курсы калгаснага актыва, 300 чал.—СПШ і 700 чал.—ЗКУ) і арганізаваных радыёслухачоў 4000 чал.

2. У мэтах найлепшага абслугоўвання завочнікаў набор вытвараць толькі ў 27 раёнах, якія павінны стаць апорнымі для завочнай партвучобы: 1) Менскім, 2) Віцебскім, 3) Гомельскім, 4) Хойніцкім, 5) Тураўскім, 6) Жыткавіцкім, 7) Полацкім, 8) Рэчыцкім, 9) Клімавіцкім, 10) Магілеўскім, 11) Рагачоўскім, 12) Касцюковіцкім, 13) Мсціслаўскім, 14) Мазырскім, 15) Заслаўскім, 16) Дзяржынскім, 17) Быхаўскім, 18) Бярэзінскім, 19 Плешчаніцкім, 20) Слуцкім, 21) Капыльскім, 22) Бабруйскім, 23) Асіпавіцкім, 24) Лельчыцкім, 25) Бягомельскім, 26) Камарынскім, 27) Барысаўскім.

3. Адзначаючы яўна нездавальняючае становішча з скарыстоўваннем радыё для мэт партвучобы, у выніку чаго не скарыстоўваецца створаная багатая матэрыяльна-тэхнічная база (звыш 300 партрадыёаўдыторый), прапанаваць РК КП(б)Б і начпалітаддзелам прыняць усе меры да арганізацыі радыё-слухання лекцый і дакладаў, перадаваемых БІМЗО.

4. Прапанаваць Белрадыёкамітэту (тав. Аракелаву) не дапускаць зняцця гадзін, выдзеленых для перадачы радыёлекцый па партвучобе БІМЗО, і прыняць меры па рэгулярнай трансляцыі гэтых лекцый усімі радыёвузламі.

5. Зацвердзіць у штатах РК КП(б)Б апорных раёнаў інструктара па завочнай партыйнай вучобе, які ўтрымліваецца за рахунак ІМЗО ЦК ВКП(б)—БІМЗО ЦК КП(б)Б.

Прыраўнаць інструктароў РК па завочнай партвучобе ў адносінах снабжэння да іншых інструктароў РК КП(б)Б.

Маючы на ўвазе складанасць работы па завочнай партвучобе, забараніць РК КП(б)Б перакідваць інструктароў па завочнай партвучобе на другую работу без узгаднення з ІМЗО пры ЦК КП(б)Б.

6. Папярэдзіць сакратароў РК і начпалітаддзелаў паказаных раёнаў, што яны нясуць адказнасць за разгортванне завочнай партвучобы ў іх раёнах.

7. У мэтах стварэння неабходных умоў для работы БІМЗО прапанаваць Дзяржплану разгледзець пытанне аб будаўніцтве ў 1935 г. інтэрната і сталоўкі для вучэбных канферэнцый завочнікаў і памяшкання для размяшчэння БІМЗО.

8. Для падрыхтоўкі кадра работнікаў сістэмы завочнай партвучобы—дазволіць БІМЗО арганізаваць 6-месячныя стала існуючыя курсы інструктароў.

9. Прапанаваць Наркамснабу выдзеліць з 1 верасня г.г. кантынгент забяспечання для канферэнцыі завочнікаў і курсаў штомесячна на 100 чалавек.

10. Абавязаць цэнтральны («Звязда» і «Рабочий») і раённы друк сістэматычна асвятляць ход завочнай партвучобы.

---

Галоўлітбел № А 5067.
Тыраж 10465
281.600 друк. зн. (5¼ арк.)
Здана ў набор 5/IX—34 г.
Падпісана да друку 13/IX—34 г.
Набрана на лін. № 6
Адк. кар. друк. *А. Мацкевіч*

*Рэдкалегія*: Мінкін (адк. рэдактар), Конік, Злоткін

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 1197.